


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

13 ЛІСТАПАДА 1998 Г. № 46/3974 КОШТ 4 000 РУБ.








# На службе ў вечнага

## Мікалаю КРУКОЎСКАМУ — 75

Якія б ні былі палітычныя і сацыяльныя варункі, як бы ў грамадстве (любым грамадстве!) ні напаляліся страсці, заўсёды ёсць тое вечнае, што не залежыць ні ад гэтых варункаў, ні тым больш ад страсцей. Вечнае — гэта краса, прыгажосць у самым шырокім разуменні гэтых слоў. Гэта літаратура, мастацтва, а таксама, калі глядзець шырэй, грамадскія навукі, і сярод іх тыя, якія дапамагаюць чалавеку зразумець сваё месца ў грамадстве, вызначыць правільныя маральныя крытэрыі і духоўныя арыенціры і, у рэшце рэшт, адчуць сябе, успрыняць ЧАЛАВЕКАМ. І служкі гэтых навук, па сутнасці, знаходзяцца на службе ў вечнасці, бо аддадзены не дзённай мітульзе, а як казаў паэт, высокаму небу ідэала.

З шэрагу такіх людзей — Мікалай Крукоўскі. Эстэтык, мовазнаўца, філосаф, а ў дачыненні да дня сённяшняга — і актыўны грамадскі дзеяч.

Жыццё не песціла Мікалая Ігнатавіча. Нарадзіўся 16 лістапада 1923 года. На яго долю выпалі выпрабаванні Вялікай Айчыннай вайны, у час якой стаў партызанам. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт, які скончыў у 1950 годзе. Адразу пачаў працаваць у Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР, пазней звязаў лёс з БДУ. Цяпер працуе ў Беларускім універсітэце культуры.

Навуковая дзейнасць М. Крукоўскага пачалася з даследавання сучаснай беларускай мовы. Ён, у прыватнасці, з'яўляецца аўтарам не толькі шматлікіх мовазнаўчых артыкулаў, а і грунтоўнай працы "Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову".

І ўсё ж найбольшага поспеху М. Крукоўскі дасягнуў, калі зацікавіўся праблемамі тэарэтычнай эстэтыкі. А ў гэтым кірунку смела ступаў па цаліку. М. Крукоўскі — адзін з першых аргументавана выкарыстаў дыялектычную логіку і некаторыя аспекты тэорыі мностваў, а таксама тэорыі інфарматыкі і кібернетыкі для аналізу эстэтычных заканамернасцяў. Высока былі ацэнены грамадскасцю і крытыкай такія даследаванні Мікалая Ігнатавіча, як "Асноўныя эстэтычныя катэгорыі. Вопыт сістэматызацыі", "Кібернетыка і законы прыгажосці", "Homo pujcher — чалавек прыгожы. Нарыс тэарэтычнай эстэтыкі чалавека" і іншыя.

Навуковая дзейнасць М. Крукоўскага асабліва актывізавалася ў сувязі з тымі пазітыўнымі зменамі, якія адбыліся ў жыцці грамадства з канца 80-х гадоў. Яшчэ большую канкрэтнасць, мэтанакіраванасць яна набыла, калі на Беларусі разгарнуліся адраджэнскія працэсы. Нацыянальна свядомыя навукоўцы, і сярод іх М. Крукоўскі, усё часцей пачалі

*(Працяг на стар. 2)*



# КОЛА ДЗЁН

***"Старыя паслугі — новыя цэны", "З 5 лістапада ў Беларусі ў сярэднім на 10 працэнтаў павысіліся цэны на курыныя яйкі", "Гарэлка зноў вырасла ў цане" — гэта толькі некаторыя інфармацыйныя загалоўкі з рэспубліканскіх газет. Напачатку — яны палохаюць, а потым — да іх прывыкаеш. Абураешся і купляеш па новай цане патрэбны тавар, бо ведаеш, што калі сёння не купіш за 100 тысяч, заўтра, можа, за яго давядзецца плаціць 500, а то і больш. Сёння, хто мае грошы, той стараецца пазбавіцца ад іх, як ад паперак, якія з цягам часу трацяць сваю каштоўнасць. Ды хопіць пра грошы...***

***З кожным днём усё карацее і карацее дзень. Крыху сумнавата, але, што ні кажы, ужо амаль сярэдзіна лістапада, а там не за гарамі і Новы год. Можа, яшчэ рана пра яго ўспамінаць, толькі ж час ляціць і, калі ўзняцца па-над усім гэтым нашым неспакойным жыццём і паглядзець на ўсё спакойна, адразу думаецца: "І для чаго гэта многія імкнуцца падпарадкаваць сабе іншых, далучыць да сябе, напалохаць, прымусіць жыць так, як ім хочацца, і г.д., калі мы жывём усе на адной маленькай і кволай зямлі, якая можа ў любы момант рассыпацца ў пыл і знікнуць бясследна ў бяскрайнім сусвеце?" Шкада, што пра гэта задумваюцца не ўсе...***

***Вось і праляцеў яшчэ адзін тыдзень. І яшчэ на адзін тыдзень стала бліжэй да 21 стагоддзя.***

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Нашу краіну наведаў намеснік старшыні Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Роберт Антрэтэр, які меў сустрэчы з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам, з кіраўніцтвам абедзвюх палат Нацыянальнага сходу, пракуратуры, Цэнтрвыбаркама, прадстаўнікамі апазіцыйных партый, праваабарончых арганізацый і членамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Магчымасць прыезду пана Антрэтэра стала рэальнай пасля таго, як кіраўніцтва нашай дзяржавы заявіла аб жаданні аднавіць працэдуру ўступлення ў Савет Еўропы. Пакуль што наша заяўка на прыняцце ў СЕ ляжыць больш чым пяць гадоў без руху, у той час як усе суседзі далучыліся да гэтай уплывовай арганізацыі. На прэс-канферэнцыі пан Антрэтэр ніякіх канкрэтных ацэнак беларускай рэчаіснасці і ўласнага бачання магчымасці аднаўлення дыялога з Беларуссю падкрэслена не выказаў. Адназ пан Антрэтэр прызнаў, што адносіны ПАСЕ да не абранага ўсенародным галасаваннем цяперашняга беларускага парламента не змяніліся, а неафіцыйныя сустрэчы віцэ-прэзідэнта ПАСЕ з яго лідэрамі не азначаюць ягонага прызнання. На сустрэчы з Р. Антрэтэрам прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка заявіў, што ўзровень дэмакратыі ў нашай краіне не меншы, чым у іншых краінах Савета Еўропы. Ці згодны з гэтым пан Антрэтэр, стане вядома 17 снежня, калі будзе разглежданы яго спецыяльны даклад аб Беларусі на бюро ПАСЕ.

## ДЫЯЛОГ ТЫДНЯ

Сёння ў Мінскім Міжнародным адукацыйным цэнтры павінен адбыцца "круглы стол" на тэму "Ці магчымы дыялог улад і апазіцыі ў Беларусі". Адказ на гэтае пытанне можа і, відаць, будзе станоўчым, але мы за апошнія гады ўжо ведаем, што дыялог дыялогам, а кожны робіць пасля гэтага дыялога тое, што яму хочацца...

## КЛОПАТ ТЫДНЯ

Устаноўлены новыя памеры дапамог і даплат, прадугледжаных артыкуламі 30, 33 і 37 Закона "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС". Штомесячная грашовая дапамога на кожнага члена сям'і, у залежнасці ад зоны радыеактыўнага забруджвання, складзе ад 39 тысяч 100 рублёў да 78 тысяч рублёў. Штомесячная фінансавая даплата працуючым, непрацуючым пенсіянерам, грамадзянам, якія атрымліваюць дапамогі, студэнтам ВНУ, навучэнцам сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, у залежнасці ад зоны радыеактыўнага забруджвання складзе ад 39 тысяч 100 рублёў да 385 тысяч. Тым, хто працуе ў зоне пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем і на тэрыторыях, не забруджаных радыенуклідамі, штомесячная фіксаваная даплата складзе 89 тысяч 600 рублёў. Гэта пры ўмове, што пастаянная магутнасць дозы знешняга апраменьвання на рабочым месцы больш за 50 мікрарэнтген у гадзіну.

Цікава, пры сённяшніх цэнах ці задаволены былі б такім клопатам пра сябе той, хто гэтыя сумы дапамог прыдумваў-разлічваў, калі б яму самому плацілі гэткія грошы за пражыванне ў зоне, небяспечнай для здароўя і жыцця?

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што правa на наліччанне імянных чэкаў "Маёмасць" у нашай краіне мелі 7 мільёнаў 833 тысячы чалавек. У той жа час з пачатку прыватызацыі ў Беларусі імянныя чэкі "Маёмасць" атрымалі 4 мільёны 872 тысячы чалавек. Гэта крыху больш за палову. Шкада, што няма дадзеных, колькі людзей здолелі свае чэкі скарыстаць. Відаць, у многіх яны ляжаць як звычайныя паперкі, якія не маюць ніякай каштоўнасці...

## ДАТА ТЫДНЯ

Споўніўся год, калі орган Таварыства беларускай мовы газета "Наша слова", (пасля таго, як дзяржава адмовілася яе фінансаваць,) аднавіла свой выхад і пачала выходзіць у Лідзе. "НС" выдаецца на ахвяраванні, а таксама дзякуючы падпісцы. Невясёлая дата...

## КАНФІСКАЦЫЯ ТЫДНЯ

Чаго толькі ні вывозяць з Беларусі ў суседнія дзяржавы! Адны — смятану, масла і яйкі, другія — мяса і каўбасы...

Адным гэта ўдаецца зрабіць паспяхова, а некаторыя і трапляюцца.

Спробу вывазу за мяжу вялікай партыі царкоўных каштоўнасцяў прадухілілі брэсцкія пагранічнікі. На пагранпераходзе "Казловічы" ў грузавым аўтамабілі, якім кіраваў грамадзянін Чэхіі, яны знайшлі 32 стáрадаўнія іконы і два чатырохстворкавыя складныя абразы. Канфіскаваныя царкоўныя рэчы перададзены спецыялістам для ацэнкі і будуць вернуты дзяржаве. Але колькі ж нацыянальных святынь і каштоўнасцей вывозіцца ў суседнюю Расію, ніхто не ведае, бо ніколі і нідзе не было паведамленняў, што нехта затрымваны на "празрыстай" мяжы з іконамі і абразамі і яны вернуты назад. І тое, што часам на мяжы з Расіяй спыняюць гандляроў з харчовымі таварамі, не вельмі суцяшае, бо бульба і агуркі будуць новыя, а вось старадаўнія іконы і абразы — ніколі...

ДЫЯСПАРА

# "Калі вы зноў прыедзеце?"

***Група народных майстроў з Лепеля пабывала ў гасцях у беларусаў Эстоніі. Мы папрасілі расказаць пра гэтую сустрэчу намесніка старшыні Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Уладзіслава Антонавіча МАНТВІДАСА.***

— Дапамога ў культурнай дзейнасці беларусам замежжа — адзін з асноўных накірункаў дзейнасці нашага цэнтра. Сёлета мы пабывалі ў Калінінградскай вобласці, у Вільні і іншых гарадах Літвы, у Беластоку. Не так даўно вярнуліся з Эстоніі. Беларуска-эстонскае аб'яднанне "Спадчына" ў горадзе Нарва (старшыня — Т. Караткевіч-Цыганок) планавала гэтую паездку даўно. Ажыццявілі яе Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей разам з Міністэрствам культуры РБ.

Канцэпцыя сустрэчы была такой — адкрыць для тамтэйшых беларусаў і эстонцаў нашы рамёствы. Праграма складалася з практычнай часткі (так званыя майстар-класы) і семінараў з удзелам педагогаў дзіцячых садкоў і школ. Акрамя таго, мы прывезлі з сабой выставу традыцыйных рамёстваў, а саму групу складалі майстры Лепельскага раённага Дома рамёстваў (кіраўнік В. Жукава).

Выстава была адкрыта ў карціннай галерэі Нарваўскага замка. Там жа пачалося і свята "Пакроўскія гульні", на якім прысутнічалі Генеральны консул РБ у Эстоніі І. Бондар, віцэ-мэр Нарвы Г. Молдан, саветнік Міністэрства культуры Эстоніі О. Бондэр, супрацоўнікі іншых устаноў, а з нашага боку — супрацоўнік аддзела ўстаноў культуры і народнай творчасці А. Бабіцкі і я.

Пры адкрыцці свята прыемна было перадаць у дар нашым суайчыннікам ткацкі станок і нацыянальны касцюм. А яшчэ мы прывезлі з сабой мемарыяльны знак пісьменніку Янку Скрыгану, які некалькі гадоў жыў і працаваў у горадзе Кывіылі (аўтар — В. Янушкевіч). З намі быў, дарэчы, і ўнук пісьменніка Юрась Скрыган.

Кожны дзень мы сустракаліся з беларускімі суполкамі — у Таліне, Йыхві і самой Нарве. Прыём быў выключна цёплым. Здавалася, мы жывём дзесьці побач, а не ў розных рэспубліках. Прымалі нас і ў сем'ях — даволі заможных, трэба сказаць. Там можна не мець грамадзянства, затое мець зямлю, свой дом, уласную справу.

Гэтая паездка стала падмуркам для далейшай працы па мацаванні ўзаемакантактаў з дыяспарай. Мы плануем правесці фестываль рамёстваў у Беларусі, Эстоніі, Калінінградзе. У Таліне ў студзені адбудзецца традыцыйнае свята беларусаў "Спатканне" (яго ладзіць беларускі культурны цэнтр "Бацькаўшчына", старшыня Н. Савінава). Туды ад нас паедзе фальклорны гурт "Троіца" з навенькімі цымбаламі ў падарунак. У планах таксама тыдзень беларускага кіно ў Нарве, святкаванне 10-годдзя БЭЗа і іншыя мерапрыемствы.

Карыстаючыся момантам, скажу, што ў нацыянальных суполках многае, калі не ўсё, залежыць ад асобы кіраўніка. Сярод іх Леанід Мурашка з Літвы, Ігар Шаховіч з Калінінграда, Алег Хадакоў з Іркуцка, В. Астравумава з Йыхві і іншыя. Гэта людзі самаадданыя, адораныя творча: складаюць і дэкламуюць вершы, пішуць карціны, ствараюць скульптуры. Пра іх можна сказаць, што і ў аддаленні ад радзімы іхняя душа тут, дома. Яны актыўна кантактуюцца з Цэнтрам нацыянальных культур і іншымі арганізацыямі. Душэўныя, шчырыя людзі... Амаль месяц прайшоў ад нашай сустрэчы, а ўражанні дасюль жывыя. Успамінаюцца развітальныя словы аднаго з эстонцаў:

— Вы растапілі лёд у нашых сэрцах. Калі ж зноў прыедзеце?

ПРЭМ'ЕРЫ

# Мажор — на ўвесь сезон?

"Як сезон сустрэнеш, такім ён і будзе", — кажуць прымхлівыя артысты. Калі яно й насамрэч так, значыць, трупа Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі можа ўздыхнуць з палёгкай: сезон абяцае быць удалым. Адкуль гэткая высанова? З жыцця...

Мяркуйце самі: сезон адкрыўся прэм'ерай спектакля "Цалуй мяне, Кэт!" (музыка К. Портэра, дырыжор-пастаноўшчык А. Сасноўскі, рэжысёр Б. Лагода, балетмайстар Г. Абайдулаў, сцэнограф Я. Ждан). Гэты мюзікл, упершыню паказаны летам, "пад заслону" сезона мінулага, паспелі пагледзець далёка не ўсе прыхільнікі музычнага тэатра, і таму ўвага да яго была надзвычай жывая, гарачая. І прыём — адпаведны.

А праз пару дзён — яшчэ адна прэм'ера: балет А. Адана "Жызель". Харэаграфічную версію Перо, Каралі ды Пеціпа пераўвасобіла на мінскай сцэне галоўны балетмайстар тэатра Н. Дзячэнка; музычны кіраўнік пастаноўкі М. Сінькевіч, сцэнаграфія і касцюмы В. Жалонкінай. Поспех у родных сценах падмацаваўся трыумфам новай "Жызелі" на замежных гастролях. Так-так, балетная трупа Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі паспела ўжо выступіць у Швейцарыі. Тры спектаклі ў розных курортных мястэчках, авацыі, гасцінасць... Уражанні — толькі мажорныя! Акурат тыдзень таму гэтае невялікае, але эмацыйна і творча насычанае турнэ завяршылася. А сёння яго відавочцы ды ўдзельнікі ўпарадкоўваюць свае ўражанні і абяцаюць падзяліцца імі з чытачамі нашага тыднёвіка.

**С. Б.**



*На здымку: сцэна са спектакля "Цалуй мяне, Кэт!"*
*Фота Віт. АМІНАВА*

# На службе ў вечнага

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

звяртацца да духоўнага вопыту беларускага народа, каб вызначыць яго месца сярод іншых славянскіх народаў, у гісторыі ўсяго чалавецтва.

Безумоўна, тым, хто займаецца глабальнымі тэарэтычнымі пытаннямі (М. Крукоўскі тут не выключэнне), пэўна, гэта рабіць цяжэй, бо спецыфіка даследавання — іншая. Але гэта — як паглядзець. І вось з-пад пяра шаноўнага Мікалая Ігнатавіча пачынаюць з'яўляцца артыкулы, у якіх заклапочанасць лёсам Бацькаўшчыны выступае на першы план. Тым самым М. Крукоўскі ў нечым і адыходзіць ад сваёй асноўнай навуковай дзейнасці, але разам з тым і наближаецца да Беларусі.

І робіць гэта свядома. Робіць гэта шчыра, аддана, з глыбокім веданнем матэрыялу.

А эрудзіраванасці Мікалая Ігнатавіча можна пазайздросціць. У гэтым маглі асабіста пераканацца і некаторыя з нас, лімаўцаў, каму ў студэнцкі час пашчасціла слухаць лекцыі М. Крукоўскага. Ён ніколі не належаў да тых выкладчыкаў, якія нудна выкладаюць свой прадмет, не адрываючыся ад паперы. Ён чытаў (і чытае!) лекцыі так, што ў слухачоў адразу з'яўляецца зацікаўленасць, неўпрыкметку для сябе кожны з іх настройваецца на тую хвалю, якая выклікае думкі-развагі шаноўнага Мікалая Ігнатавіча.

Па-ранейшаму не праходзіць паза ўвагай ніводная з новых публікацый М. Крукоўскага. Асабліва вылучаюцца два цыклы яго артыкулаў, а правільней міні-манаграфій — "Бацька" ўсяго існага. Унутраная структура духоўна-культурнай прасторы і яе катэгарыяльная характарыстыка" і "Чалавек не можа не тварыць", апублікаваныя ў часопісе "Мастацтва" летась і сёлета. Належным чынам былі ацэнены і артыкулы М. Крукоўскага, змешчаныя ў свой час на старонках "ЛіМа". Імя гэтага дасведчанага навукоўца часта з'яўляецца і ў іншых выданнях — як у газетах, так і ў часопісах.

Мікалай Крукоўскі — член Саюза мастакоў Беларусі, кандыдат філалагічных навук, доктар філасофскіх навук, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі навук "Еўразія", прафесар.

Віншуючы шаноўнага Мікалая Ігнатавіча з 75-годдзем, "ЛіМ" і лімаўцы зычаць яму моцнага здароўя, заўсёднай творчай апантанасці, працаздольнасці на карысць Беларусі, у імя яе слаўнай будучыні!

# "Культура" — у колеры!

Як мы паведамлялі раней, распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі было зацверджана рашэнне савета фонду Прэзідэнта па падтрымцы культуры і мастацтва аб вылучэнні сродкаў на выплату грантаў і ганарараў. У прыватнасці, на пераход газеты "Культура" на каляровае афармленне і ўвядзенне новых тэматычных укладышаў, у тым ліку для шырокага кола моладзі, былі выдзелены сродкі ў памеры 335 мільёнаў рублёў. Часу прайшло не так і шмат, а вынік — навідавоку: чарговы, сорак другі ў сёлетнім годзе нумар гэтай штотыднёвай грамадска-асветніцкай газеты, пазначаны 7—13 лістапада, выйшаў у каляровым афармленні. А пакольні 10 лістапада, як вядома, яшчэ з савецкіх часоў значыцца як Сусветны дзень моладзі, гэты нумар "Культуры", які і каляровы укладыш "КіТ", прысвячаецца менавіта маладым творцам. Газета, аднак, не толькі прыемна глядзіцца, але і з цікавасцю чытаецца.

**А. М.**

СУСТРЭЧЫ

# Ліпскія ў зборы

На гэтым з'ездзе усе было незвычайна. Ён не заканчваўся, а распачынаўся канцэртам (выступаў фальклорны гурт "Радзімічы"), сюды папрыязджалі з дзецьмі, братамі і сёстрамі, унукамі, тут заключная вячэра была ў складчыну, як і належыць у сям'і. У канферэнцзале Нацыяналкі сабраліся Ліпскія з усёй Беларусі і здалёку.

"Кожны род, кожная сям'я — частка нашай гісторыі", - сказала дырэктар бібліятэкі Г. Алейнік. Яна абвясціла пачатак "сямейнага з'езда" і пажадала яму поспеху.

"Першыя генеалагічныя чытанні" (так значылася ў запрашэнні) сам віноўнік і арганізатар імпрэзы, пісьменнік Уладзімір Ліпскі лічыць падзеяй адметнай. "Мне бачыцца ў гэтым тая нацыянальная ідэя, якую шукаюць і падчас не могуць знайсці. Яна ў радстве і адзінстве людзей".

А пачыналася ўсё з простага: пісьменнік зацікавіўся сваім прозвішчам, завёў сшытак і пачаў запісваць блізкую і далёкую радню, сямейныя гісторыі. Сабраў шмат цікавага, пайшоў у аддзел рэдкіх кніг, потым звярнуўся ў архіў, дзе захоўваюцца дакументы 200-гадовай даўнасці. Аказваецца, у кожнага з нас у 10-ым калене не больш не менш як 1024 продкі! Колькі лёсаў, колькі своеадметных характараў, колькі жыццёвых перыпетый за гэтай лічбай! Гэта ж цэлае багацце, якое мы падчас ігнаруем.

Зацікавіўся Уладзімір Сцяпанавіч і героямі камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча "Пінская шляхта", у выніку ў "ЛіМе" з'явілася ладная публікацыя. А вянцом генеалагічнай захопленасці стала кніга "Праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод", якая і была прадстаўлена на сустрэчы.

— Усе мы маем магчымасць зрабіць падарожжа ў гісторыю роду, — лічыць старшыня камітэта па архівах і справаводстве А. Міхальчанка. — Працаваць можна не толькі ў бібліятэках, а і ў дзяржаўных архівах.

Ліпскія са Століна, Хойнікаў, Мазыра, Віцебска і многіх іншых раёнаў і гарадоў пазнаёміліся, абмяняліся адрасамі, адным словам — "пабагацелі на 50 чалавек". Ёсць намер сабраць Ліпскіх у Маскве (там жыве 125 сем'яў), а таксама ў Століне, дзе іх асабліва многа.

Па сутнасці ў нас распачынаецца новая традыцыя. Няхай такімі цёплымі сустрэчамі, такімі традыцыямі мацуецца наша зямное чалавечае брацтва.

**Г. К.**



*На здымку: прадстаўнікі сем'яў, якія маюць прозвішча Ліпскія.*
*Фота Г. СЯМЁНАВА, БЕЛТА*

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬ...*

## Аб мінулым і сучасным

Вядучыя беларускія манументалісты Уладзімір Еўтухоў з Гомеля і Генадзь Жарын з Мінска ў тэхніцы "графіто" пачалі працу над буйной кампазіцыяй плошчай 255 квадратных метраў у цэнтры абласнога горада. Яны — аўтары эскізаў і непасрэдныя выканаўцы. Дапамагаюць майстрам у творчай працы Аляксандр Каліш і Леанід Вострыкаў. Кампазіцыя ўключае сюжэты, якія адлюстроўваюць старажытнае мінулае горада, румянцаўскі перыяд росквіту архітэктуры і культуры, паказваюць народныя таленты, якія стваралі і будавалі помнікі архітэктуры. Вядучае месца ў кампазіцыі адведзена героіцы народа ў гады Вялікай Айчыннай, аднаўленню горада пасля яе, сённяшняму яго росквіту. Мяркуецца, што гэтая вялікая работа будзе завершана да 55-годдзя вызвалення Гомеля ад фашысцкіх захопнікаў, якое адзначаецца 26 лістапада.

## У экспазіцыі — гадзіннікі

У мастацкім аддзеле абласнога краязнаўчага музея адкрылася унікальная выстава гадзіннікаў, уладальнікамі якіх было сямейства генерал-фельдмаршала, князя Івана Фёдаравіча Паскевіча. Экспануюцца гадзіннікі напольныя, насценныя, пераносныя, кішэнныя. Выканаўцамі гэтых рарытэтаў з'яўляюцца выдатныя бранзавікі, скульптары, эмаліроўшчыкі і механікі XVIII—XIX стагоддзяў з Францыі і іншых краін Еўропы. Многія гадзіннікі — сапраўдныя цуд мастацтва, не толькі механізмы, але і скульптурныя кампазіцыі. Напрыклад: "Няспанне Македонскага", "Венера і Галатэя", "Алегорыя навукі...". Калекцыя з фондаў абласнога музея. Адначасова экспануюцца пяць карцін вядомага жывапісца С. Жукоўскага, напісаныя ў пачатку XX стагоддзя. Прадстаўлены яны Нацыянальным музеем Беларусі.

## Выступае клас акадэміка

У Гомельскім каледжы мастацтваў імя Н. Сакалоўскага традыцыйнымі сталі музычныя серады. Днямі свой канцэрт фартэпіяннай музыкі прапанаваў гледачам клас прафесара Беларускай акадэміі музыкі З. Качарскай. Шмат апладысментаў было ў адрас лаўрэата міжнародных конкурсаў Кацярыны Глазоўскай, якая выконвала творы Бетховена, Шумана, Стравінскага, Скрабіна. Удзельнічаў у канцэрце і навучэнец 9 класа Мінскай гімназіі-каледжа Аляксандр Музыкантаў. Ён выконваў творы Бетховена.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

БРАВА!

# У сілуэтах — час...

Падзеі кшталту гэтай адбываюцца ў нашым музычным жыцці не так часта, як хацелася б. Вось чаму яе чыннікаў ды відавочцаў паяднала пачуццё ўвасобленай мары. Спраўдзілася яна дзякуючы Польскаму інстытуту ў Мінску ды самаадданай творчай працы беларускага Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава.

Зацікаўлены чытач, пэўна, заўважыў колішняе наша спавешчанне і ведае, пра што гаворка: "Сілуэты польскіх кампазітараў XX стагоддзя", цыкл канцэртаў. А дакладней — першы музычны вечар з новага цыкла.

Дырэктар Польскага інстытута ў Мінску пан Томаш Нягодзіш меў слова перад пачаткам праграмы: выказаў задавальненне самім фактам прэзентавання творчасці сваіх суайчыннікаў, адмыслова падзякаваў ансамблю "Класік-Авангард" за ідэю правядзення такой імпрэзы. Маэстра У. Байдаў ад традыцыйнай прамовы ўстрымаўся, "прамаўляла" галоўная гераіня вечара — музыка. І дзякуючы Яе Вялікасці ў які ўжо раз адкрылася публіцы прафесійная годнасць знанага "Класік-Авангарда", апантанасць новым, асветніцкая ініцыятыўнасць, захопленасць па-творчы азартнай натуры мастацкага кіраўніка.

Чыннікі канцэрта чакалі шаноўнага госця — старшыню Польскага саюза кампазітараў Мацея Малецкага, таму першае аддзяленне праграмы складалася цалкам з ягоных твораў і ў разліку на тое, што калі аўтар прыедзе, дык зможа далучыцца да беларускіх музыкантаў, выканаць партыю фартэпіяна. (Пан М. Малецкі, апроч кампазітарскай адукацыі, мае дыплом з адзнакай як піяніст.) На жаль, акалічнасці гэтаму візіту не паспрыялі. Аднак застаецца спадзеў, што чаканы госць возьме ўдзел у канцэртах ансамбля падчас Міжнароднага фестывалю імя І. Салярцінскага ў Віцебску і гэта будзе плённым развіццём беларуска-польскіх музычных стасункаў.

А пакуль — парадуемся кастрычніцкай падзеі, што ўзбагаціла гісторыю гэтых стасункаў. Прыгледзімся да сілуэтаў таленавітых творцаў, чыю музыку пачулі мы ў класным натхнёным выкананні.

Перадусім — творы Мацея Малецкага. Найяскравае, маляўнічае, дынамічнае "Канцэрціна для 12-ці інструментаў", якое вымагае ад музыкантаў вытанчанай інтанацыйнай і штрыхавой культуры. Фартэпіянная "Гумарэска", якая ў інтэрпрэтацыі Уладзіміра Дулава нагадала вобразы нейкай гратэскнай анімацыйнай стужкі. Блізкая да "тэатральнай мовы" І. Стравінскага "Песня і асціната" для скрыпкі, альта, віяланчэлі ды фартэпіяна... Рухавы, халерычны, шматфарбны гукасвет М. Малецкага выклікае цікавасць слухача, трымае ягоную ўвагу, цвеліць уласнае ўяўленне — відавочна, спанатранасць кампазітара ў музыцы для тэатра, ТБ, кіно і радыё спрыяе стварэнню імпульсіўных "зрокавых" вобразаў у канцэртных опусах.

Тры творцы былі прадстаўлены ў другім аддзяленні праграмы. Генрык Мікалай Гурэцкі — Канцэртам для пяці інструментаў і квартэта струнных: напісаны 40 з лішкам гадоў таму, гэты твор уражвае вынаходлівым ў свой час прыёмамі кампазітарскай тэхнікі, санорнымі набыткамі. Ян Аляшковіч — Першым струнным квартэтам, створаным без малога 30 гадоў таму, які ўспрымаецца надзвя свежым і самабытным у шматнаселеным і стракатым сямействе опусаў для квартэта. Павел Бучынскі — вытанчана прыгожай, мудрагеліста простай кампазіцыяй "Pezzo per Passero", у якой сродкамі інструментальнага ансамбля дасягаецца ўзрушальны эфект "харальнага спявання" ў "аркестравым суправаджэнні", а кранальная тэма нагадвае адвечныя безыменныя мелодыі з народнага побыту...

Першы позірк на "Сілуэты польскіх кампазітараў XX стагоддзя" не толькі не расчараваў публіку, але і распаліў цікавасць да наступных канцэртаў. Дасведчанаму меламану ёсць чым узбагаціць свой слухацкі досвед, ёсць што прааналізаваць, супаставіць з набыткамі беларускіх кампазітараў, а мо і знайсці эстэтычныя перазовы, каб не сказаць падабенства, у некаторых творах, напісаных у розны час, па розныя бакі мяжы... Але яно і не дзіўна: нават яркія індывідуальнасці не абмінаюць агульную для ўсіх мастакоў крыніцу — гучанне свайго Часу і скандэнсаваны ў ім досвед многіх творчых пакаленняў...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*БРЭСТ...*

## "Я зноў на шчаслівай мяжы..."

На Берасцейшчыне любяць і паважаюць сваіх песняроў. Што гэта сапраўды так, засведчыла святкаванне паўвекавога юбілею паэта і тэлежурналіста Міколы Пракаповіча. Напярэдадні многія берасцейскія выданні, паасобныя раёнкі змясцілі на сваіх старонках матэрыялы пра юбіляра. Заключным акордам урачыстасцяў стаў вялікі літаратурны вечар, што адбыўся ў абласным грамадска-культурным цэнтры, дзе Мікола чытаў свае "старыя" і новыя вершы, дзе прымаў віншаванні ад прадстаўнікоў афіцыйных улад, сяброў, сваіх выхаванцаў — паэт кіруе паэтычным гуртком студыі "Спадчына", у якім займаецца таленавітая моладзь.

Але самы важкі падарунак паэту і ўсім прыхільнікам творчасці М. Пракаповіча зрабіла абласная бібліятэка імя М. Горкага. Галоўная культурна-асветная ўстанова вобласці выдала бібліяграфічны паказальнік да 50-годдзя з дня нараджэння паэта "Я зноў на шчаслівай мяжы..." Бібліяграфічны спіс уключае кнігі, раздзелы з кніг, артыкулы з часопісаў і перыядычнага друку на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах, пачынаючы з 1966 года і заканчваючы вераснем 1998-га. У спісе гэтым пазначана 306 крыніц. Дарэчы, усе ўключаныя матэрыялы беражліва захоўваюцца ў фондах бібліятэкі.

Выданне падрыхтавалі супрацоўнікі аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі бібліятэкі Алена Мельнічук і Таццяна Кавенька.

**Уладзімір ТАРАСЮК**

*ВІЦЕБСК...*

## У гонар Вацлава Ластоўскага

Як паведамлялася ўжо, у Глыбокім, на радзіме выдатнага адраджэнца Бацькаўшчыны Вацлава Ластоўскага адбыўся вечар з нагоды яго 115-й гадавіны. Вечар быў падрыхтаваны сябрамі Глыбоцка-Полацкай філіі Саюза пісьменнікаў Беларусі... Гісторык, пісьменнік, публіцыст, палітык Ластоўскі з 1919 па 1923 год узначальваў Раду Міністраў БНР. З 1927-га — акадэмік Беларускай акадэміі навук. У 1930-м арыштаваны і высланы за межы БССР. Загінуў пасля другога арышту ў 1938 годзе. У гісторыю беларускай літаратуры ён увайшоў як аўтар першай манаграфіі пра мінулае Радзімы, напісанай на роднай мове... На вечары глыбоцкая інтэлігенцыя змагла пазнаёміцца з кнігай выбраных твораў Ластоўскага, выдадзенай у серыі "Беларускі кнігазбор".

## У новае стагоддзе з новай праграмай

Віцебскі аблвыканкам прыняў праграму развіцця культуры да 2005 года. Яна накіравана на захаванне ўстаноў культуры і адкрыццё новых, падтрымку прафесійнага мастацтва, камп'ютэрызацыю, развіццё сістэмы мэтавага фінансавання. Запланаваны новыя дамы рамёстваў, мастацкіх промыслаў, фальклору, цэнтраў і школ нацыянальнай культуры. На базе Віцебскага музычнага вучылішча будзе створаны Вышэйшы музычна-педагагічны каледж. Адкрыецца ў Віцебску і прафесійная студыя гуказапісу, рэкламна-выдавецкі цэнтр.

Раённым аддзелам культуры даручана арганізаваць работу па выяўленні гісторыка-культурных каштоўнасцей і ўнясенні іх у дзяржаўны рэестр.

**Святлана ГУК**

*ГРОДНА...*

## Дзятлаўцам ёсць што паказаць

Людзі, якія адпачываюць зараз у санаторыях "Радон", "Нававельня", рэспубліканскім аздараўленчым цэнтры "Баравічок", часта і з задавальненнем наведваюць Дзятлава, жыхары якога нядаўна ўрачыста адзначылі 500-годдзе свайго горада. Завітваюць госці найперш у мясцовы гісторыка-краязнаўчы музей, дзе адкрылася экспазіцыя "Сярэдняевеча Дзятлава". Тут жа выставіўся і мінскі мастак Алесь Квяткоўскі. Яго акварэльныя работы можна не толькі паглядзець, але і купіць.

**Іосіф ЗАЯЦ**

## Надзейны друг — "Белсаюздрук"

80-годдзе адзначае Мінскае гарадское аптова-рознічнае прадпрыемства "Белсаюздрук". Свайго роду бацька яго — прадпрыемства "Саюздрук". Да Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску працавала 13 газетна-часопісных кіёскаў. Сёння ж іх — 283, а яшчэ 22 магазіны і 4 пункты прыёму падпіскі, усяго ў сістэме працуе 669 чалавек. Па стану на 1 ліпеня сёлетняга года тавараабарот аднаго кіёска ў месяц склаў прыкладна 25,5 мільёна рублёў. Аматары друкаванага слова могуць набыць праз кіёскі і магазіны 424 найменні газет і часопісаў, з іх 311, якія выдаюцца ў нашай краіне. А ўзначальвае дружны і працавіты калектыў Ларыса Шаблоўская. Ларыса Кузьмінічна ў сістэме "Белсаюздруку" працуе больш за 36 гадоў.

Юбілею МГАРП "Белсаюздрук" рэдакцыя газеты "Книжный мир", адным з заснавальнікаў якой, як вядома, яна і з'яўляецца, прысвяціла спецыяльны святочны нумар. На старонках яго калектыў віншуюць першы намеснік старшыні Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь З. Прыгодзіч, намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Іпатава, дырэктар Навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны А. Мальдзіс і іншыя. Віншуем і мы, лімаўцы!

## Творчыя стасункі маладых

У Гомелі прайшоў III Міжнародны маладзёжны фестываль "АРТ-сесія—98". Урачыстае яго адкрыццё адбывалася ў абласным драматычным тэатры. У гэтым прадстаўнічым форуме бралі ўдзел прадстаўнікі Беларусі, Расіі, Украіны, Балгарыі, Германіі, Даніі, Індыі, Італіі, Францыі і Шатландыі. На розных сцэнах горада гучалі песні і мелодыі гэтых дзесяці краін. На працягу тыдня адбыліся цікавыя творчыя сустрэчы гасцей і гамяльчан. Вялікі ўклад у правядзенне фестывалю Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны, у культурным цэнтры якога і адбылося закрыццё фестывалю.

**А. ШНЫПАРКОЎ**



**ЧАСАПІС**

## *Каласавіны-98*

**З году ў год праходзіць літаратурнае свята "Каласавіны", якое прымеркавана да дня нараджэння Якуба Коласа. Стала добрай традыцыяй пачынаць свята навуковай канферэнцыяй, што праходзіць у музеі песняра. Надзвычай прадстаўнічым быў сёлетні форум, які сабраў многа цікавых людзей, — навукоўцаў, пісьменнікаў, даследчыкаў творчасці Я. Коласа. Сярод гасцей была і дырэктар Дзяржаўнага Лермантаўскага музея-запаведніка "Тарханы" Тамара Мельнікава.**

**Удзельнікаў канферэнцыі вітала дырэктар музея Зінаіда Камароўская, а таксама намеснік міністра культуры Валерый Гедройц, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава.**

**На канферэнцыі абмяркоўвалася тэма прыроды ў творчасці Якуба Коласа. Выступленні з'явіліся своеасаблівым гімнам беларускай прыродзе, цудоўным маляўнічым краявідам, якія апеў у сваіх творах вялікі пясняр. Вось толькі пералік тэм дакладаў: "Вясковы і гарадскі пейзаж у апавяданнях Якуба Коласа" (М. Мушынскі), "Вобразнае адлюстраванне фаўны і флоры ў вершаванай казцы "Рак-вусач" (У. Лазоўскі), "Навукова-пазнавальнае адлюстраванне прыроды ў творчасці Якуба Коласа" (В. Парфёнаў), "Выкарыстанне фальклорных сродкаў пры апісанні прыроды ў дарэвалюцыйных апавяданнях Якуба Коласа" (Л. Камароўская).**

**У гэты ж дзень, 3 лістапада, былі ўскладзены кветкі да магілы Якуба Коласа.**

**Другі дзень літаратурнага свята прайшоў на радзіме песняра. У вёсцы Засулле Стаўбцоўскага раёна адбылося адкрыццё памятнага знака пісьменніку, мастаку і грамадскаму дзеячу Карусю Каганцу. З прамовамі выступілі загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага раёна Анатоль Грэкаў, рэдактар раённай газеты "Прамень" Сяргей Галоўка, дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская, старшы навуковы супрацоўнік музея Іван Курбека, прафесар Белдзяржуніверсітэта Уладзімір Лазоўскі, прафесар Політэхнічнай акадэміі Георгій Жыхар, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава, сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, унучка Марыя Міцкевіч. Урывак з паэмы "Новая зямля" прачытаў Іосіф Гарэцкі, вядучы інжынер-канструктар Мінскага завода колавых цягачоў.**

**Госці свята наведалі мемарыяльныя мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Якуба Коласа.**

## *"Побач з Коласам"*

**Дзень нараджэння песняра быў адзначаны ў рэспубліцы многімі цікавымі мерапрыемствамі. Так, літаратурная вечарына "Побач з Коласам" адбылася напярэдадні свята ў Навадворцаўскай базавай школе Слуцкага раёна. Школа ў той дзень сабрала шмат людзей, найперш моладзі. На сустрэчу прыехалі адзін са старэйшых нашых паэтаў Мікола Аўрамчык, крытык і пісьменнік Іван Кудраўцаў, малодшы сын Якуба Коласа доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч, унукі песняра — выкладчык політэхнічнай акадэміі Канстанцін Міцкевіч і старшыня дзіцячага фонду "Сакавік" Марыя Міцкевіч, супрацоўнік музея Якуба Коласа Іван Курбека.**

**Супрацоўніца краязнаўчага музея г. Слуцка Галіна Залеская распавяла гаворку пра слуцкі перыяд у жыцці Якуба Коласа, зачытала некаторыя з яго лістоў тых часоў да жонкі і дзяцей.**

**Музычны калектыў Вясейскага Дома культуры падрыхтаваў літаратурна-музычную кампазіцыю. У яго выкананні прагучалі песні на словы песняра і беларускія народныя песні.**

**Вялі праграму свята работнікі Слуцкай раённай бібліятэкі Ларыса Цішкевіч і Людміла Дробыш. Арганізавалі ж літаратурнае мерапрыемства Слуцкая раённая бібліятэка, Навадворцаўская бібліятэка і школа.**

**Н. МАКРЫЦКАЯ**

АДГАЛОСКІ

# Уперад, да Савецкага Саюза

У ноч на Купалу, як вядома, ведзьмы і ведзьмары збіраюцца на свой шабаш. Там яны выхваляюцца тым, што натварылі за час, які мінуў з апошняй сустрэчы, ды абгаворваюць планы на будучае. Нешта падобнае адбылося восеньскімі днямі ў Мінску. Тут з 31 кастрычніка па 3 лістапада праходзіла навукова-практычная канферэнцыя **"Традыцыйная духоўнасць і цвярозасць — аснова здаровага ладу жыцця народа Рэспублікі Беларусь"**.

Практычна гэтае мерапрыемства мела паўафіцыйны характар. Аб гэтым сведчыць адзін пералік дзяржаўных арганізацый Беларусі, пад эгідай якіх праходзіла канферэнцыя. Гэта Міністэрства адукацыі, Міністэрства аховы здароўя, Міністэрства ўнутраных спраў і Дзяржаўны камітэт па справах моладзі. Пленарныя паседжанні праходзілі ў Доме афіцэраў, і на іх прысутнічалі супрацоўнікі Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі.

Можна было б станоўча аднесціся да гэтага мерапрыемства, калі б яно сапраўды адпавядала сваёй назве. Справа ў тым, што бязмежнае п'янства і безупынная духоўная дэградацыя насельніцтва Беларусі ператвараюцца ў самую сур'ёзную дзяржаўную праблему. Лічбы паказваюць, што ўрон здароўю беларускага народа ад алкагольных напояў значна перавышае шкоду, нанесеную чарнобыльскай катастрофай. Так, па дадзеных судова-медыцынскіх экспертаў Беларусі, у перыяд з 1980 па 1996 год ад атручвання алкаголем памерла 28 тысяч грамадзян нашай краіны. За гэты ж самы перыяд з прычыны моцнага ап'янення прыблізна такая ж колькасць чалавек згарэла, патанула ці было забіта. Бесперапынна павялічваецца колькасць наркаманаў. Расце колькасць хворых на СНІД. Разбураецца сям'я. Пагроза навісла над усім беларускім этнасам.

Ні адна з гэтых важнейшых праблем практычна не была абмеркавана. Асноўнай тэмай стаў разгляд прычын распаду Савецкага Саюза, які для многіх удзельнікаў канферэнцыі быў магутнай і слаўнай расійскай дзяржавай, і барацьбы за яе адраджэнне. Гэта стала відавочным ужо пасля першага даклада, які зрабіў запрошаны з Санкт-Пецярбурга расійскі акадэмік Ф. Углоў. Ён набыў даволі шырокую вядомасць яшчэ ў былым СССР сваімі выступленнямі супраць алкагалізацыі народа. У сваім дакладзе акадэмік закрануў праблему спойвання насельніцтва Савецкага Саюза і сучаснай Расіі. Аднак асноўным зместам даклада стаў пераказ ідэй нябожчыка мітрапаліта Санкт-Пецярбургскага і Ладажскага Іаана (памёр у 1995 г.). Гэты іерарх Рускай праваслаўнай царквы пасля распаду СССР заняўся ў асноўным выкрыццём знешніх і ўнутраных ворагаў Расіі, якія нібыта расчлянілі расійскую імперыю на асобныя суверэнныя дзяржавы. Гэта падзея для мітрапаліта была сапраўднай катастрофай — больш страшнай, чым захоп улады бальшавікамі ў кастрычніку 1917 года. Распад былога СССР, на думку мітрапаліта, стаў вынікам барацьбы самога Сатаны і яго паслугачоў супраць Святой Русі. Так называў ён і камуністычную расійскую імперыю. Да паслугачоў Сатаны мітрапаліт адносіў жыдамасонаў, сіяністаў, супрацоўнікаў спецслужбаў ЗША і іншых дзяржаў, католікаў, яўрэяў, палякаў, кіраўніцтва КПСС, дэмакратаў і г. д. Зразумела, што мітрапаліт адмаўляў беларускаму і ўкраінскаму народам у праве на самастойнае існаванне ў межах дзяржаў, незалежных ад маскоўскіх валадароў.

Але што можна чакаць ад мітрапаліта, які праліваў горкія слёзы з прычыны гібелі атэістычнай і багаборчай дзяржавы, якой на самай справе быў Савецкі Саюз?! Вядома, што за часы свайго панавання бальшавікі фізічна знішчылі звыш 300 тысяч служыцеляў царквы і каля 60 тысяч храмаў і манастыроў. І вось па гэтай дзяржаве плакаў іерарх РПЦ, а пераказваў яго ідэі ў сваім дакладзе расійскі акадэмік. Трэба сказаць, што яны прыйшліся даспадобы практычна ўсім прысутнічым. Зала проста ўзарвалася бурнымі воплескамі, калі Ф. Углоў закончыў свой даклад.

Зусім па-іншаму рэагавала публіка на спробу пісьменніка-эколага Вясіля Якавенкі скіраваць канферэнцыю ў напрамку, які б адпавядаў яе назве. В. Якавенка заявіў, што актывісты "Славянскага сабора" зрабілі з канферэнцыі "Траянскага каня" і што, па сутнасці, у адной зале спрабуюць адначасова правесці дзве розныя канферэнцыі. Адну — палітычную, другую — пра духоўнасць і цвярозасць. Аднак давесці свае меркаванні да ўдзельнікаў яму не ўдалося: яму проста не далі гаварыць, і ён вымушаны быў пакінуць залу.

На шчасце, прагучалі і даклады, якія больш-менш адпавядалі тэме канферэнцыі. Так, прафесар Э. Збароўскі прачытаў цікавы даклад пра рэалізацыю ў нашай краіне праграмы папярэджання неінфекцыйных захворванняў. Прафесар У. Цімашэнка расказаў аб магчымасці затрымаць пастарэнне арганізма. Цікавымі аказаліся навуковыя даклады В. Цяпловай і Т. Шамякінай. Першая даводзіла выключна вялікую ролю царквы ў развіцці культуры беларускага народа і нават утварэння самога беларускага этнасу. Т. Шамякіна ахарактарызавала паганскія традыцыі на Беларусі і іх уплыў на фармаванне хрысціянскага светапогляду беларускага народа. Аднак і ў гэтых дакладах адчуваўся ўплыў ідэй "Славянскага сабора".

Між іншым, даклады В. Цяпловай і Т. Шамякінай амаль не зацікавілі ўдзельнікаў канферэнцыі. І тут няма чаму здзіўляцца, калі ўлічыць, што ў зале сабраліся людзі, якія да навукі наўрад ці маюць альбо мелі нейкія адносіны. Гэта былі ў асноўным людзі пажылога ўзросту: адстаўныя афіцэры, настаўнікі, эканамісты і бухгалтары, інжынеры і г. д. Затое яны з вялікім энтузіязмам успрымалі любое сцвярджэнне аб тым, што былы СССР не распаўся сам, а быў развалены каварнымі ворагамі. І гэта лёгка зразумець. Яны, прыгнечаныя бесперапынным павышэннем цэн, успамінаюць з настальгіяй пра сваё былое жыццё, яны не могуць зразумець, што Савецкі Саюз развaліўся толькі таму, што цалкам вычарпаў усе маральныя і матэрыяльныя рэсурсы. І яны, гэтыя людзі, гатовы паверыць любому ашуканцу, які тлумачыць распад былой камуністычнай імперыі падкопамі і інтрыгамі Захаду. Менавіта па гэтай прычыне ўдзельнікі канферэнцыі з вялікай увагай прыслухоўваліся да тых дакладчыкаў, што выкрывалі патаемныя планы рознакалiберных знешніх ворагаў "Святой Русі" і абяцалі адбудаваць расійскую імперыю. І гэта было прычынай вялікага поспеху на канферэнцыі Ф. Углова, а таксама такіх расійскіх дакладчыкаў, як адстаўны генерал К. Пятроў і былы савецкі дысідэнт І. Сіняеў. (Апошні з 1976 г. па 1987 г. жыў у ЗША, а ў 1987 вярнуўся ў Расію).

Трэба сказаць, што І. Сіняеў вельмі варожа адносіцца да хрысціянскай веры і самога Хрыста. Як і Пятроў, ён упэўнены ў тым, што менавіта хрысціянства ператварыла некалі мужных і доблесных рускіх людзей у паслухмяны статак дэмаралізаваных біялагічных асоб. І. Сіняеў таксама распрацаваў праграму выратавання рускага народа, згодна з якой афіцыйнай рэлігіяй новай расійскай імперыі стане паганства. Гэта вельмі цікавая праграма. Вось як пачынаецца раздзел пад назвай "Селекцыя": "Нас, сапраўдных рускіх, не 150 мільёнаў. Ці набярэцца і адзін мільён. Астатнія — гэта смецце, сярод якога згубіліся і не могуць знайсці адзін другога здаровыя захавальнікі генетычнага коду нацыі".

Вось яшчэ адзін яскравы прыклад. Выступае з навуковым дакладам загадчык астранамічнай абсерваторыі БДУ А. Кузнечык. Даклад прысвечаны ў асноўным пераказу ідэй расійскага навукоўца XIX стагоддзя В. Фларынскага. Апошні на поўным сур'ёзе даказваў, што яшчэ да нашай эры славяне (гэта значыць рускія) займалі ўсю Сібір і ўвесь Далёкі Усход. Менавіта гэтым фактам В. Фларынскі тлумачыў правa Расіі на каланізацыю Сібіры, Далёкага Усходу, а таксама тэрыторый Карэі і Кітая. Падобныя вывады рабіў В. Фларынскі і ў адносінах да тэрыторый, на якіх пражывалі казахі, кіргізы, а таксама народы Сярэдняй Азіі. Гэтыя сцвярджэнні не прызнаваў ні адзін сур'ёзны вучоны царскай Расіі, а тым больш савецкія вучоныя. Але што гэта для нашага спецыяліста па зорках! Каланізатарскія выдумкі В. Фларынскага ён аб'яўляе ісцінай у канчатковай інстанцыі. Для А. Кузнечыка славянін — гэта проста сінонім слова "рускі". Дапускае наш звездачот і тое, што славяне, а гэта значыць рускія, у дагістарычныя часы маглі займаць нават тэрыторыю Вялікабрытаніі. Адначасова ён цалкам выключае магчымасць нейкага культурнага развіцця беларускага народа. Такія значныя помнікі культуры Беларусі, як Біблія Скарыны і Літоўскі Статут Льва Сапегі, ён лічыць помнікамі культуры рускага народа!

Цікава, а як ставіцца да падобных "адкрыццяў" свайго супрацоўніка рэктар Белдзяржуніверсітэта?

Вось такія "патрыёты" былі запрошаны на канферэнцыю, арганізаваную пад эгідай розных дзяржаўных арганізацый Беларусі.

Уяўляе цікавасць і той факт, што літаральна ўсе прапановы прымаліся публікай "на ўра". Ф. Углова — пабудаваць новае расійскае царства на аснове праваслаўя, генерала Пятрова — замяніць праваслаўе на іншую рэлігію, хутчэй за ўсё на мусульманскую, І. Сіняева — замяніць хрысціянства на паганства. Аб чым гэта сведчыць? На наш погляд, толькі аб поўнай адсутнасці здаровага сэнсу ў патрыётаў славянскага адзінства, на якіх абапіраюцца ўлады Беларусі. Такія "абаронцы" славян на самай справе з'яўляюцца паслугачамі расійскіх чарнасоценцаў. Яны разумеюць яднанне славянскіх народаў як поўнае падпарадкаванне гэтых народаў Маскве, яны адкрыта выказваюць сваю глыбокую непрыязнасць да незалежнай беларускай дзяржавы.

Незразумелыя і паводзіны беларускіх уладаў. Яны падтрымліваюць прыхільнікаў "славянскай еднасці", не звяртаючы ўвагі на тое, што тыя вядуць безупынную атаку на ўлады Беларусі. У той жа самы час кіраўніцтва Беларусі вельмі востра рэагуе на любыя заўвагі прадстаўнікоў дэмакратычных рухаў. Ствараецца ўражанне, што беларускім уладам забаронена нават слова сказаць супраць ідэолагаў "славянскага адзінства".

Грэчаскі філосаф Антысфен, які жыў у 4-ым стагоддзі да нашай эры, сказаў: "Дзяржавы гінуць тады, калі не могуць больш адрозніць харошых людзей ад дрэнных". Складваецца ўражанне, што нашым уладам невядома тое, што разумныя людзі ведалі яшчэ 2400 гадоў таму назад.

**Міхась МАЛЬКО**

# Семінары для журналістаў

Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр (IBB) прапануе для журналістаў цыкл семінараў **"Роля сродкаў масавай інфармацыі ў сучасным грамадстве"**. На семінары ў якасці гасцей запрашаюцца прадстаўнікі як дзяржаўных, так і незалежных выданняў і структур. Напрыклад, на апошнім па часе, лістападаўскім паседжанні з дакладам па прававым рэгуляванні дзейнасці СМІ выступаў дэпутат ВС 13-га склікання У. Нісцюк.

Ад генеральнага дырэктара "БелаПАНа" А. Ліпая прысутныя падрабязней даведаліся пра агенцтва і асаблівасці яго работы. Гэта адзінае ў Беларусі агенцтва, якое працуе ў святочныя дні. У яго тры рабочыя мовы — беларуская, руская, англійская. Двойчы ў тыдзень выходзяць эканамічныя агляды, маецца выдавецкі аддзел і рэкламная служба. Бюлетэнь "Зеркало" прысвечаны сацыялагічным даследаванням, а бюлетэнь "Накануне" дае анонсы заўтрашніх падзей.

"БелаПАН" асвятляе ўсе бакі грамадскага жыцця і не мае цэнзуры, якая сачыла б за адборам матэрыялу. Дырэктар адзначыў прадузятасць уладаў у дачыненні да гэтай інфармацыйнай кампаніі. І сапраўды, цяжка лічыць "падрыўным" агенцтва, якое адсутнасць каментарыяў да навін зрабіла сваім прынцыпам. Можа, таму ніводная папярэджанняў ад Дзяржкамдруку "БелаПАН" не займеў.

**Г. З.**

# Сто вузлоў памяці,

## альбо На высокім алтары паэзіі

### З Нілам ГІЛЕВІЧАМ гутарыць Лола ЗВАНАРОВА

**Лола Званарова: — Закончыўшы Мінскае педвучылішча, універсітэт і аспірантуру, вы, Ніл Сымонавіч, на працягу многіх гадоў чыталі лекцыі, прысвечаныя беларускаму фальклору. Іх і сёння любяць успамінаць мае равеснікі, беларускія літаратары, выпускнікі беларускага універсітэта канца 70-х гадоў. У апошнія гады выкладчыкамі замежных і расійскіх ВНУ сталі многія вядомыя пісьменнікі — Яўгеній Еўтушэнка і Андрэй Бітаў, Віталь Кароціч і Сяргей Есін. Іосіф Бродскі чытаў лекцыі ў трох амерыканскіх універсітэтах. І ўсё ж у нашы дні вы не спяшаецеся вяртацца на кафедру. Як вы ставіцеся да гэтай праблемы: пісьменнік і педагагічная дзейнасць?**

**Ніл Гілевіч:** — Лічу зусім натуральнай справай усякую пазалітаратурную дзейнасць пісьменніка, калі яна прыносіць яму маральнае задавальненне. Ну, а тым больш — педагагічную. Бо пісьменнік піша "падручнікі жыцця", ён па родзе прызвання асветнік і педагог, настаўнік, выхавацель. І яго зварот да непасрэднай выкладчыцкай дзейнасці лёгка вытлумачыць. Класічны прыклад у гэтых адносінах — вялікі Леў Мікалаевіч, які ўжо ў немаладыя гады стварыў Яснапалянскую школу, ствараў цудоўныя "чытанкі" для дзяцей, пісаў навукова-педагагічныя сачыненні. У пачатку 20-х гадоў наш Якуб Колас, будучы знакамітым паэтам і празаікам, чытаў на універсітэце і педтэхнікуме методыку выкладання беларускай мовы. Думаю, што і сёння для пісьменніка гэта проста цікава і карысна — адчуваць аддачу ад дзеяння словам. Гэта — праця сустрэч-гутарак з чытачамі. Гэта — не толькі таму, што трэба зарабляць на хлеб надзённы, хоць і гэта важнае. Мне, напрыклад, дзякуючы працы ва універсітэце, ніколі не даводзілася ламаць шапку ў рэдакцыях газет і часопісаў, я ніколі не прыніжаўся, не вымольваў, як многія, каб хутчэй, у бліжэйшы нумар паставілі вершы. Але галоўным было разуменне неабходнасці гэтай працы: хацелася павярнуць моладзь да вытокаў нацыянальнай культуры, духоўнасці, нацыянальнай самасвядомасці. Бо я выкладаў фальклор, народную творчасць. А паветра часу ўжо напаўнялася ідэямі Адраджэння, мы яго ўжо прадчувалі — час канца 80-х. Работа была цікавай і карыснай мне як вершатворцу, я спасцігаў народнае майстэрства абыходжання са словам, сакрэты фальклорнай эўфаніі, гукапісу, рыфмы. А гаварыць кожны дзень з моладдзю, бачачы, як яна цябе слухае і ўспрымае сказанае! Таму — разумею сабратоў за выкладчыцкай кафедрай. Гэтак жа, як мяне не здзівіў бы зварот пісьменніка ці паэта да свяшчэннаслужыцельства. У 20-я гады ў Заходняй Беларусі працаваў ксяндзом — да самай сваёй заўчаснай смерці — вельмі таленавіты паэт Казімір Сваяк. А ў Славеніі ў XIX стагоддзі святарамі былі цудоўныя паэты Сімон Грэгорчыч і Антон Ашкерц.

**— Пра які твор, што з'явіўся на Беларусі летась, вы маглі б сказаць — гэта літаратурная падзея года?**

— Падзея ці не падзея — гэта залежыць не толькі ад значнасці твора, але і ад таго, наколькі яго значнасць адбілася ў свядомасці шырокага кола чытачоў. У нас сёння, калі б нават хто напісаў "Вайну і мір", — падзеяй гэта не стане. Каб стаць падзеяй — твор павінен мець тыраж і мець чытача, мець асяроддзе зацікаўленага ўспрымання. Такога асяроддзя не стала, грамадства жыве зусім іншымі клопатамі. Сёння, можа, толькі які-небудзь літаратурны скандал мог бы аваладаць на час яго ўвагай.

Але калі нават зыходзіць толькі з аб'ектыўнай каштоўнасці твора, то наўрад ці якая кніга (публікацыя) года можа прэтэндаваць на ранг падзеі. Хоць добрыя, дастойныя вялікага чытача рэчы былі. У паэзіі, напрыклад, па-ранейшаму на ўзроўні з новымі кнігамі ці часопіснымі публікацыямі выступілі такія вядомыя майстры, як Рыгор Барадулін, Васіль Зуёнак, Генадзь Бураўкін, Алесь Разанаў, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Някляеў, Мар'ян Дукса. З маладых — Людміла Рублеўская... У прозе была новая аповесць Васіля Быкава "Палюбі мяне, салдацік" — рэч пазнавальна быкаўская, у нечым для гэтага вялікага мастака новая; былі лірычныя запісы Янкі Брыля — як заўсёды з вельмі высокім эмацыянальна-асабістым забеспячэннем, і добрыя апавяданні пра каханне Генрыха Далідовіча. Былі аповесці і апавяданні Юрыя Станкевіча і Андрэя Федарэнкі, — не ведаю, ці вядомыя гэтыя імёны рускаму чытачу... Незвычайна шмат — нават на фоне сваёй заўсёднай незвычайнай пладавітасці — піша ў апошні час Іван Шамякін, які раскруціў цэлую серыю вострасюжэтных аповесцей па выкрыцці "новых беларусаў" (з досыць адчувальнай у падтэксце настальгіяй па мінулым).

**— Вы шмат сіл аддалі перакладу: бібліёграфы налічваюць 16 паэтычных зборнікаў, цалкам перакладзеных вамі. Сёння вы аб гэтым не шкадуеце?**

— Мая работа ў галіне паэтычнага перакладу выклікае ў мяне сёння пачуцці супярэчлівыя. Пытаецеся, што мне гэта работа дала, а вы спытайце, што я, празмерна захапіўшыся ёю, за гэты час страціў. Ну вось пераклаў на беларускую і апублікаваў больш за тысячу вершаў і паэм з балгарскай, сотні дзве — са славенскай, столькі ж — з украінскай, з сербахарвацкай, а колькі яшчэ з рускай, з польскай, сербалужыцкай... Каля 350 славянскіх паэтаў прадставіў беларускім аматарам паэзіі. Толькі балгараў больш за дзвесце. Некалі прафесар Сімяон Русакіеў напісаў, што па маштабах зробленага ў галіне перакладу балгарскай паэзіі Гілевіча ва ўсім СССР параўнаць няма з кім. Як быццам прыемна... Было прыемна. Але — чамусьці сёння больш сумна, чым радасна, азіраць мне гэтую асабістую "бібліятэку перакладаў" і думаць пра тое, на што пайшло больш за сорак гадоў жыцця. Сумна, таму што: а каму гэта патрэбна? Каго сёння гэта цікавіць? Як гэтае багацце выкарыстоўваецца ў мэтах эстэтычнага выхавання? Кім яно ацэнена? Хто паспрабаваў вывучыць, даследаваць гэты творчы вопыт? У тым ліку і ў плане: што гэта прыўнесла ў беларускую паэзію? Былі, вядома, водгукі, рэцэнзіі ў перыёдыцы, але — хутчэй дзяжурныя, ці што, з пункту гледжання палітычнага: як гэта служыць умацаванню дружбы народаў? А ўзнаўлялася ж на беларускай вялікая паэзія, лепшае з класікі і сучасных аўтараў. Чаму такое становішча рэчаў, спытаеце. А ўсё таму ж, што іначай і быць не можа ў краіне, дзе духоўнае жыццё ва ўласных нацыянальных формах з'яўляецца толькі экзатычным даважкам да яе галоўнага, іншанацыянальнага масіву.

Калі ўсё ж адказаць на пытанне, што мне дало творчае кантактаванне з паэзіяй братоў славян, то я вылучыў бы два галоўныя аспекты: першае — карыснае для асабістага вопыту пранікненне ў сакрэты майстэрства вялікіх мастакоў слова лепш за ўсё дасягаецца менавіта ў працэсе работы над перакладам; другое — непасрэднае азнаямленне з гісторыяй і нацыянальным жыццём "маіх" славянскіх краін вельмі памагло мне ўмацавацца ў перакананні, што беларускі народ зможа паказаць свету свой уласны духоўны твар толькі тады, калі набудзе дзяржаўны суверэнітэт і незалежнасць, і што, значыць, усе свае сілы належыць ахвяраваць на ажыццяўленне гэтай ідэі.

**— Як вы ацэньваеце паняцце "пакаленне" ў літаратуры? Якія якасці больш за ўсё цэніце ў пісьменніках свайго пакалення?**

— Доўгі час я і сам — па агульнапрынятай традыцыі — злоўжываў вызначэннем "літаратурнае пакаленне", але сёння бачу, што ў гэтым паняцці ёсць шмат умоўнага і адноснага. І што ім трэба карыстацца асцярожна, бо і творчыя (светапоглядныя, ідэалагічныя, эстэтычныя) зыходныя прынцыпы, і тым больш узроставыя крытэрыі могуць быць недастатковымі для звядзення многіх у адно — у адзін гурт. Не ведаю, якая, напрыклад, карысць ад дэфініцыі тыпу "шасцідзесятнікі", а шкоду бачу: ёсць вызначэнне і нібыта вядучыя рысы — пачынаецца падгонка імёнаў і асоб пад дэфініцыю. А іншы таварыш — і зусім не "шасцідзесятнік", а хутчэй за ўсё яшчэ ўвесь там, у пачатку 50-х, і дагэтуль там, хоць увайшоў і замацаваўся ў літаратуры ў 60-я.

Я перажыў вайну падлеткам, памагаў партызанам, хадзіў у разведку. У 1947 годзе быў на Першай рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў у Мінску, і быў усім ладам душы з паэтамі партызанамі і франтавікамі. Але потым мяне (як і майго равесніка Сцяпана Гаўрусёва) запіхалі ў другі гурт — у пакаленне "дзяцей вайны", што было справай дарэмнай, бо толькі перашкаджала ўбачыць і зразумець асаблівасці паэтычнай біяграфіі, увасобленую ў ёй своеасаблівасць часу. Узроставая розніца ў пяць-сем гадоў у эпохі агульных грамадскіх зрухаў можа значыць надта многа, каб яе ігнараваць. (Пушкін у гады вайны з французамі быў падлетак, але праз дзесяць гадоў духоўна быў з афіцэрамі-дзекабрыстамі). Паэты, якія нарадзіліся ў другой палове 30-х, пачалі пісаць вершы і выходзіць з імі на людзі ўжо пасля смерці Сталіна — у адрозненне ад маіх равеснікаў, якія падвергліся ў самым пачатку свайго творчага шляху найжорсткаму ўздзеянню жданаўскай "эстэтыкі". Падлеткам вайны Юрый Воранаў атрымаў медаль за абарону Ленінграда — і, вядома ж, усёй сваёй духоўна-маральнай сутнасцю схіляўся да пакалення паэтаў-франтавікоў. Другі падлетак вайны Анатоль Жыгулін, адзіны з нашага пакалення, у 19 гадоў (у 1949) загрымеў на Калыму, прайшоў праз жахі ГУЛАГа. Як яго запісаць у гурт тых, хто шчасліва пачаў пець свае песні ў гады хрушчоўскай адлігі?

**— Як вам здаецца, Ніл Сымонавіч, у якой ступені дэбют у літаратуры ўплывае на ўвесь далейшы лёс пісьменніка?**

— Вельмі важна, каб дэбют адбыўся своечасова. Каб своечасова агледзецца і з дапамогай крытыкі самому разабрацца ў сабе — ды й ісці далей, наперад. Добра, калі абставіны паспрыяюць гэтаму. Здаецца, гэта залежыць ад эпохі, ад умоў часу. У нас у 20-я гады, калі ішла "беларусізацыя" і была моцнай шчырая вера ў нацыянальнае адраджэнне, сітуацыя ішла насустрач маладым — першыя кнігі вершаў тады выдалі: А. Куляшоў у 16 гадоў, В. Маракоў і С. Дарожны — у 17, А. Александровіч — у 18, А. Звонак, М. Лужанін, Ю. Таўбін — у 19, П. Трус — у 21. Пазней усё рэзка змянілася да горшага. Пасля вайны і зусім кепска стала, дэбютаваць кнігай было надзвычай цяжка. Асабіста я, напрыклад, так і застаўся з крыўдай на лёс, што першая кніга вершаў выйшла толькі ў 1957 годзе, а магла б — у 1951. Так, яна была б зусім інакшай, зусім юнацкай, у многім наіўнай, але гэтым і цікавай. Зацяжка нічога добрага не дала, творчаму росту не паспрыяла, наадварот — прытармазіла яго. Час, грамадскія норавы, асабліва літаратурная жыцця — усё было супраць ранняга дэбюту. Парадак жа які быў? Спачатку рукапіс трэба абмеркаваць у Саюзе пісьменнікаў (гэта цягнецца год), потым, калі СП рэкамендаваў, ён знаходзіўся гады два-тры ў выдавецтве, а то і больш. Гады праходзяць, маладому аўтару зусім-зусім нявесела... Цяпер гэтая бюракратычная практыка зжываецца пры дапамозе прыватных выдавецтваў, але і тут ёсць свае вялікія праблемы. Таленавітым і цяпер дэбютаваць вельмі цяжка, але затое многія графаманы не толькі паспяхова дэбютуюць, але ў лічаныя гады робяцца аўтарамі ледзь не збору твораў.

**— Якія рэчы вы лічыце сваёй самай большай творчай удачай, а якія — яўнай няўдачай?**

— Сярод эпічных рэчаў, вядома ж, раман у вершах "Родныя дзеці" (1985). У лірыцы — кніга васьмірадкоўяў "Святлынь" (1984, з прадмовай В. Быкава) і кніга "На высокім алтары" (1994). З паэм лепшымі лічу "Сто вузлоў памяці" (1964), "Недзяляня" (1970), "А дзе ж тая крынічанька?" (1970), "Заручыны" (1978). Няўдач было шмат, і, на жаль, не толькі ў маладосці. Нярэдка "порах" траціўся на драбязу, на глупства, на ідэалагічныя падзелкі. Здаралася, у фельетонную, ды яшчэ й сацыяльна нявыверанаю задуму ўкладаў столькі сіл і майстэрства, што і сёння гляджу на плён таго творчага гарэння з горкай прыкрасцю. На шчасце, гэта не тычыцца рэчаў буйных, паэм, а толькі вершаў.

**— У свой час вы ўзбагацілі беларускую літаратуру арыгінальным вянком санетаў, актавамі. А ці былі якія-небудзь яркія фарматворчыя эксперыменты ў беларускай паэзіі апошніх гадоў?**

— Многія нашы паэты звяртаюцца сёння да жанравых форм класічнай еўрапейскай і ўсходняй паэзіі (санет, трыялет, тарцыны, рубаі, танка, хоку і інш.). Асабліва ў пашане санет. Ужо ёсць шмат вянкоў санетаў, і нават вянок вянкоў з'явіўся. І трэба сказаць — некаторыя "добра скроены". Але ў большасці выпадкаў, на жаль, мала змястоўныя і таму мала цікавыя. Практыкаванні ў асваенні формы. Фабрыкацыя жанру. Ад зададзенага. Не арганічнага нараджэння і росту. Найбольш цікавыя жанравыя і стылёвыя пошукі і рашэнні належаць Алесю Разанаву — гэта яго "версэты" і "вершаказы". У чым іх сіла? Фармальнае наватвядзенне працуе на глыбіню думкі, падпарадкавана эстэтычнай мэце, у ім выяўляецца высокі мастацкі густ, тонкае пачуццё слова, каранявой сістэмы мовы, што ў цэлым дазваляе гаварыць пра моўную лабараторыю паэта.

**— Вы паспрабавалі свае сілы і ў драматургіі. А як вы, Ніл Сымонавіч, ацэньваеце сучасны стан беларускага тэатра? Ці ёсць у рэпертуары мінскіх тэатраў спектаклі, якія вас усур'ёз усхвалявалі б?**

— Цяжкае для мяне пытанне. Занадта шмат прэтэнзій да нашых драматургічных тэатраў назапасілася, асабліва — да знакамітых, акадэмічных. Тэатр не спраўляецца з той роллю ў працэсе беларускага нацыянальнага адраджэння, якую абавязкова павінен іграць. Ён жа і нараджаўся некалі менавіта дзеля гэтай высокай мэты. Вядома, ёсць сёння і прарывы да сцэнічных вышыняў, ёсць і проста ўдалыя спектаклі, але ў цэлым беларускі тэатр, на мой погляд, вельмі шмат недадае грамадству. Прынамсі, больш прававерна было б гаварыць пра кожны канкрэтны тэатр асобна, чым пра беларускі тэатр увогуле. Таму што выказаныя папрокі могуць быць у адносінах некаторых труп несправядлівыя, асабліва гэта датычыць маладых, новаўтвораных нацыянальных тэатраў, якія шукаюць сябе ўпэўнена і плённа.

У грамадстве ідзе вельмі інтэнсіўнае асэнсаванне нацыянальнай гісторыі, спасцiжэнне вытокаў духоўнасці, традыцый, самаўсведамлення сябе як народа і нацыі, — гэта павінна было заклікаць да жыцця вялікую драматургічную літаратуру, высокага гучання драмы і трагедыі. На жаль, зварот да гістарычнай тэматыкі зусім нешматлікія ("Вітаўт" А. Дударава, "Барбара Радзівіл" Р. Баравіковай).

Радуе вяртанне на сцэну рэчаў забытых. Так, пасля геніяльнай камедыі Янкі Купалы "Тутэйшыя" на сцэне таго ж купалаўскага акадэмічнага тэатра пастаўлена цудоўная, дасціпная камедыя "Ідылія" паводле п'есы нашага класіка, бацькі беларускай драматургіі В. Дуніна-Марцінкевіча. Асабліва важнай падзеяй тэатральнага жыцця рэспублікі лічу вяртанне на сцэну буйнейшага беларускага драматурга Францішка Аляхновіча, забітага ворагамі Беларусі. Спадзяюся, што адбудзецца і вялікае, паўторнае (праз 60 гадоў!) адкрыццё цудоўнай, глыбока народнай па духу, па вобразах, па мове драматургіі Уладзіслава Галубка, а таксама псіхалагічна праўдзівых, сацыяльна вострых драм Максіма Гарэцкага — і адзін, і другі былі сучаснікамі і паплечнікамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. І аднаго, і другога забілі сталінскія каты.

**— А каго, на ваш погляд, з беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў асабліва важна ў бліжэйшы час прадставіць рускаму чытачу і чаму?**

— За апошнія гады наша літаратура, як і руская, адчувальна ўзбагацілася творамі пісьменнікаў-эмігрантаў, — з той розніцай, што рускім чытачам ужо даўно былі даступны многія аўтары, якія пакінулі Расію (Бунін, Бальмонт, Шмялёў, Рэмізаў і іншыя), а беларускім чытачам на Беларусі ніхто з пісьменнікаў-эмігрантаў ніводным радком і нават па імені ажно да пачатку 90-х гадоў не быў вядомы. Бо ўсе яны заклеймлены як беларуская буржуазныя нацыяналісты, а страшней за беларускі нацыяналізм, як вядома, няма нічога ў свеце. І па сённяшні дзень гэта сцверджанне ідэолагаў БССР застаецца ў сіле. Спытайце ў любога "вертыкальшчыка"

*(Працяг на стар. 12)*



ЧАСАПІС

## "Усё зладзілася файна..."

Першы лістападаўскі дзень прынёс мне незвычайную пошту: у вялікім канверце прыйшлі ад Ніны Мацяш, апроч ліста, ажно дзве яе паэтычныя кніжкі (кажу "ажно", маючы на ўвазе неспрыяльны для творчых рэалізацый час) — "Я вас люблю..." і "Палёт над жытам". Два цудоўныя "люстэркі", у якіх адлюстраваліся — разам з фотавыявамі паэткі — яе пачуцці і думкі, адпаведныя, дарэчы, гэтым фотапартрэтам — усмешліваму, у адным выпадку, і засяроджанаму, задуменнаму — у другім. Адметны штрых: вокладкі зборніка "Я вас люблю..." аздоблены фотаздымкамі яе ж арыгінальных твораў фларыстыкі, прывабліва складзеных з лёгкага і далікатнага матэрыялу — птушыных пярынак (фларыстыка — эстэтычнае хобі вядомай паэткі). Літаратурным зместам кніжкі сталіся прысвячэнні родным, блізкім, сябрам і проста знаёмым, тым, хто неабыякавы да лёсу Ніны Мацяш, так ці інакш да яго спрычыніўся.

Зборнік пачынаецца вершам "Калыханка маме", які, дзякуючы Інесе Вінаградавай, крылам яе музыкі, стаў вядомаю песняй. Побач — верш, прысвечаны бацьку, якому неўзабаве споўніцца 96 гадоў. Цэлы шэраг прысвячэнняў, што склалі гэтае выданне, былі (кожны ў свой час) адрасаваны творцам — Уладзіміру Калесніку, Янку Брылю, Анатолю Вярцінскаму, Алесю Разанаву, Алесю Каско, Ніне Загорскай, Сяргею Панізніку, Карласу Шэрману, Уладзіміоу Васілевічу, Сымону Свістуновічу, Асылгужы Багуманаву, Уладзіміру Барну. Зборнік на выхад у свет блаславіў загадчык рэдакцыі ўпраўлення па друку Брэсцкага аблвыканкама Г. Тамашэвіч пры падтрымцы старшыні аблвыканкама У. Заламая.

Кніжка "Палёт над жытам" выдавалася цяжэй: аўтарка адмовілася ад прапановы зняць тры вершы. Давялося двум белаазёрскім і двум бярозаўскім прадпрыемствам "скінуцца" і ахвяраваць 25 мільёнаў (даволі высокі аказаўся кошт трох вершаў!), а рэалізаваўся "Палёт над жытам" у берасцейскім выдавецтве С. Лаўрова.

Да абодвух выданняў спрычыніўся кіраўнік Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Каско. Яму дапамагала Зінаіда Дудзюк. Густоўнае мастацкае афармленне кніжак Ніны Мацяш забяспечылі мастакі С. Булыга і А. Вярышка.

Піша Ніна Мацяш яшчэ пра адну цудоўную падзею: "...адбыўся ў нашым ДК мой паэтычна-музычны бенефіс "Я вас люблю". Я гаманіла з людзьмі, чытала вершы, а белаазёрскія спевакі ды спявачкі, дарослыя і малыя, паказвалі людзям песні на мае тэксты. Усё зладзілася вельмі файна. Завод і станцыя падарылі мне пятлічны мікрафон (я ім карысталася на вечарыне, — цуд!). Люду сышлося багата, зала на 600 месцаў, дык вольных амаль не было. Я вельмі рада, што душы белаазёрцаў яшчэ прагнуць узнёслага, добрага, гарманічнага, і што ім было добра з намі ўсімі, хто зладзіў дзеля іх гэту вечарыну".

Парадуемся і мы ўсе, прыхільнікі і носьбіты мастацкага слова, абаронцы зганнай, без віны вінаватай беларускае мовы, за поспех нашай няўрымслівай і апантанай Ніны Мацяш, якая сваім творчым подзвігам вядзе за сабой паклоннікаў і паломнікаў. Запоўненая вялізная зала ў маленькім гарадку, калі людзей прывабіла творчая асоба, яе слова, адмысловая песня, наша родная мова, а не парнаграфічны фільм, — гэта ні што іншае, як паломніцтва: духоўная Мека не заўсёды за тысячы вёрстаў - яна ў дадзеным выпадку — побач, Мека прыгожага пісьменства, беларускага духу.

Парадуемся і тым, што не звяліся добрыя людзі, здатныя на высакародныя ўчынкі. Гэта яны дораць свята ў будзённы час.

Васіль ЖУКОВІЧ

## Студэнтка-мастачка



З усіх жанраў у мастацтве студэнтка-першакурсніца Гомельскага мастацкага вучылішча, будучы дызайнер архітэктуры Ліна Макаранка выбрала для сябе графіку. Пра тое, наколькі ўдалы быў гэты выбар, сведчыць яе персанальная выстава, на якой дзяўчына прадставіла свае работы, выкананыя тушшу на ватмане.

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

КНІГАРНЯ

# Сюжэты быцця і сюжэты побыту

Звярнула ўвагу на вокладку. Пітэр Брэйгель-старэйшы. "Паляўнічыя на снезе". Ці не найлепшая карціна майстра. Адзін з твораў цыкла "Часы года". Новы Брэйгель — пасля вяртання з Італіі і Францыі. Калі лёс чалавецтва пачаў яму ўяўляцца па-за сюжэтнымі, фабульнымі высновамі (нават і біблейскімі), зыходзячы выключна з вышэйшых катэгорый быцця. У тым уяўленні, што найлепш выслоўіў мысляр і першадрукар Эразм Ратэрдамскі: "Бог здольны ствараць любы цуд — парушаючы законы прыроды, але штодзённа ён стварае цуды куды больш важныя, як збаўленне пракажонага або звар'яцелага; гэтыя цуды ў натуральным ходзе з'яў, гэта значыць у саміх законах прыроды, да якіх мы так прызвычаіліся, што не заўважаем іх".

Натуральны ход з'яў... Гэты твор "Паляўнічыя на снезе" мае яшчэ падзагаловак — "Студзень", або "Зіма". Вобразны лад твора — ад уяўлення вобраза свету ў яго ўсясветнай велічы, ад уяўлення чалавечага жыцця як неад'емнай часткі сусвету, ад уяўлення непарыўнай сувязі чалавека з прыродай, з выявамі прыроды, яе законамі.

Амаль манахромная карціна... Белы снег, шэравата-белы лёд, чорныя дыяганалі дрэў, чорныя, геаметрычнага малюнка фігуры — хат, людзей... Некалькі каляровых акцэнтаў... Звычайны клопат людзей — паляўнічыя. Нейкія свае справы ў людзей, што ў будовах, у тых, што на лёдзе... Усё звычайна. І ва ўсім — глыбокі сэнс.

Цікавы выбар вокладкі.

Гляджу на прозвішча аўтара — Уладзімір Сіўчыкаў. Адзін з былых "Тутэйшых".

Гартаю кнігу. Рэдактар — Уладзімір Арлоў. Пасляслоўе — Пятра Васючэнкі.

Усё прадумана. Нікога выпадковага. Пітэр Брэйгель — як вызначальны арыенцір, у свядомаснай і гістарычнай прасторы. Уладзімір Арлоў — як пэўны гарант эстэтычна-літаратурнай абгрунтаванасці зместу. Пятро Васючэнка — як знак падключэння да пэўнага духоўна-інтэлектуальнага поля. Своеасаблівае сааўтарства.

Нічога выпадковага. Аўтар кнігі "Лісты да брата" меў такую магчымасць вызначэння каардынат, выдаючы кнігу ў недзяржаўным выдавецтве — ТАА "Радыёла-плюс". І скарыстаў яе. З густам. З адчуваннем сэнсавай сувязі кожнага аб'екта і суб'екта паліграфічнага стварэння — кнігі. І перад намі не толькі канкрэтны тэкст, а таямнічы сімбіёз, таямнічая матэрыя, калі хочаце, повязь "тутэйшых" і "нетутэйшых" іменаў, за кожным з якіх: свае знакі, свае маштабы мастацкага ўсведамлення, свае вартасці характару і розуму.

І — маючы ўсё гэта "в предмете", як згадвалі расійскія класікі мінулага стагоддзя, гляджу змест: усё, здаецца, чыталася, аднак у кнізе выглядае па-свойму. Сапраўды, паводле вызначэння Пятра Васючэнкі — гэта "свая кніга". Не выбранае, не сабранае, — адабранае, падабранае, тое, што аўтар вызначыў: для сябе і для нас.

Тры раздзелы, своеасаблівы трыпціх: "Жодзіна — мая родзіна", "Менскія сумоўі", "Лісты да брата". У нейкім сэнсе гэта нібыта гаворка пра тры перыяды чалавечага жыцця, пазначаныя фактаграфічна, свядомасна, геаграфічна. Але гэта і выяўленне свайго бачання рэальнасці акаляючага свету, канкрэтных асоб, сваё мадэляванне канкрэтных фактаў, падзей.

Відавочна аўтабіяграфічны аповед пра першыя пачуцці, што ўвайшлі ў жыццё героя, першыя каханні і закаханасці — "Тры лілеі, лілеі тры". Хлопчык, падлетак, юнак... І тры дзяўчыны, дзяўчыны, што ўразілі, зачаравалі, абудзілі тое лепшае ў натуры героя, што завецца рыцарствам і высакародствам.

Аўтар ідзе нібыта ад фактаў, але гэта не здарэнні, а моманты выяўлення пачуцця: наіўныя хлапчуковыя прэзенты — цукеркі, этыкеткі ад запалак з выявамі розных кветак; агульныя захапленні — плаванне, ныранне — захапленні, што набываюць у падлетка зусім іншы сэнс, незвычайную акрасу, калі іх падзяляе чароўная істота, Алена; і пазней, ужо ў юнацтве, зусім ашаламляльныя шпацыры, калі ў іх удзельнічае яго каралева, царыца, багіня — Рэгіна, каток, што робіцца ледзь не цэнтрам сусвету, калі зноў жа там прысутнічае гэтая "чароўная дама".

Як часцей за ўсё бывае ў жыцці, першыя пачуцці, першае каханне абарочваецца ці болем нераздзеленасці, ці неразуменнем, ці непаразуменнем. Але што мне здаецца важным і прывабным у гэтым аповедзе (аповесці)? Уладзімір Сіўчыкаў, пазбягаючы знешніх прыёмаў рамантызацыі — ён не хоча выглядаць сентыментальным — аддае перавагу той інтэрпрэтацыі "вечнай тэмы", дзе ў звычаёвым прысутнічае "хваляванне ідэй" (Л. Мендзялеева).

Калі зірнуць на твор з пункту погляду літаратурнага вопыту былых "Тутэйшых" — дык Уладзімір Сіўчыкаў не спакушаецца натуралістычнымі фантазіямі, не спрабуе здзівіць і эпатаваць чытача вядомымі ўжо ў літаратуры вопытамі аголена-фізіялагічных згадак. (Хаця — у сённяшняй залеве відэа- і друкаванай прадукцыі пэўнага кшталту здзівіць, мабыць, можа толькі цнатлівасць і нейкія слоўныя субстанцыі, што сыходзяць ад разумення гармоніі).

...Распачаўшы першую частку "трыпціха" з лірычнага аповеду, дзе прысутнічаюць і роздум пра жыццё ўвогуле і развагі пра лёс аднагодкаў, Уладзімір Сіўчыкаў у Жодзінскі цыкл дадае апавяданні "Над вадаспадам" і "Экспрэс", якія ствараюць роздумна-празаізаваны і прыземлена-рэальны жыццёвы фон.

Пакутлівыя блуканні — блуканні ў прамым і пераносным сэнсе — хлопчыка-бязбацькавіча пры жывым бацьку, і дыялог дзвюх цётак. Так бы мовіць, рэальнасць быцця. Складанасць жыцця, якую пачынае спасцігаць хлопчык Марцін, які прагне справядлівасці, чысціні і праўды ("Над вадаспадам"). Вар'яцкая шэрасць існавання, духоўны і інтэлектуальны вакуум, які дзве сястры спрабуюць запоўніць газетнымі звесткамі з раздзелаў крымінальнай хронікі, плёткамі, чуткамі. Гэтае апавяданне "Экспрэс" нагадвае на першы погляд калаж з газетна-часопісных выразак, але там ёсць дэталі, штрышкі, што знітоўваюць, звязваюць, робяць не толькі мастацкую інсталяцыю — мастацкі твор. Гэта ключ да разумення свядомасці добрай часткі кантынгенту мясцовага, ды і не толькі мясцовага, насельніцтва мікрараёна, ускраіны, мястэчка. Побытавы фон — і разам з тым існасць існавання (хай мне даруюць таўталогію) гэтых людзей.

Дзве старыя цёткі бавяць час, п'юць гарбату з вішнёвым варэннем з костачкамі — усё большае сцежка ад тых з'едзеных ягад. Усё больш уваходзяць у смак цёткі. "А ведаеш? А чула?" Нічым значным не занятае жыццё. Яно — за гэтымі звесткамі, звесткамі, страшылкамі. Прыгадваюцца тут купчыкі А. Астроўскага, што вядуць, плятуць плёткі пра двухгаловых людзей ў Турцыі ці яшчэ якія байкі баюць. Памятаеце?

Знаёмыя персанажы. Жывучыя. Як жывучае вар'яцтва абыдзеншчыны. Менавіта гэтыя персанажы глядзяць серыялы з адаптаваным інтэлектам і адаптаванымі пачуццямі герояў, яны займаюць месца на лаўцы каля хаты, плятуць плёткі...

Аўтар успрымае такіх сваіх герояў іранічна, як і агульны свядомасны фон, фон рэчаіснасці ў родным гарадку. Гэтае адценне іроніі ён выносіць у загаловак раздзела: "Жодзіна — мая родзіна". Зламаны на рускі лад выраз

*Уладзімір Сіўчыкаў. Лісты да брата. Мн., "Радыёла-плюс", 1998.*

# Гісторыя ў гербах

Кніга Анатоля Цітова "Гарадская геральдыка Беларусі", выпушчаная выдавецтвам "Полымя" ў 1989 годзе, адразу ж стала бібліяграфічнай рэдкасцю. І ў гэтым нічога дзіўнага — аўтар упершыню пазнаёміў чытачоў — глыбока і ўсебакова — з нацыянальнай геральдыкай як з адным з найбольш важных пластоў нашай гістарычнай, а калі канкрэтней — духоўнай спадчыны. Прытым пераважная большасць гербаў была вернута з небыцця, бо да А. Цітова ніхто не ведаў іх выяў, не мог дакладна сказаць, калі яны ўзніклі. А да ўсяго ў кнізе былі змешчаны дзесяткі каляровых ілюстрацый. Пазней "цітоўскія" гербы з адпаведнымі спасылкамі на кнігу "Гарадская геральдыка Беларусі" неаднаразова выкарыстоўваліся ў перыядычным друку, у іншых выданнях. А бібліяфілы з шэрагу тых, хто не паспеў набыць яе своечасова, літаральна абівалі парогі букіністычных кнігарняў.

Неабходна было другое выданне гэтай працы, прытым дапоўненае. А. Цітову ўдалося адшукаць нямала новых матэрыялаў. Новая яго кніга пад назвай "Гарадская геральдыка" трапіла ў тэматычны план выдавецтва на 1994 год. У выдавецкай анатацыі паведамлялася, што гэтае выданне "папоўнена 59 новымі гербамі паселішчаў, якія карысталіся правам самакіравання ў XIV—XVIII стст.".

Аднак зацікаўлены чытач не змог убачыць кнігу ні ў 1994 годзе, ні ў 1995, ні... Пабачыла яна свет толькі сёлета, прытым пад зменненай назвай — "Геральдыка беларускіх местаў". Ды розніца не толькі ў назве. А. Цітоў не сядзеў склаўшы рукі ў чаканні, пакуль рукапіс трапіць у набор, а працягваў займацца далейшымі даследчыцкімі росшукамі. І яны прынеслі плён. Калі спачатку прапаноўвалася 59 новых гербаў, дык цяпер іх колькасць павялічылася да 70.

Вартасці "Геральдыкі беларускіх местаў" паспелі ацаніць ужо многія. А тым, хто пакуль не набыў кнігу, раю не марудзіць, бо гэта яна — свайго роду энцыклапедыя беларускіх гербаў. Наўмысна пішу: беларускіх гербаў, не канкрэтызуючы - гербаў местаў (А. Цітоў карыстаецца гэтым тэрмінам замест "гарадоў", прытрымліваючыся старой назвы горада, ад якой, дарэчы, узнікла і другая — мястэчка). Канечне, пераважная частка матэрыялаў звязана менавіта з гарадскімі гербамі, а ў раздзеле "Сімвалы незалежнасці" ў алфавітным парадку пададзены іх выявы. Тым не менш, прадмет гаворкі А. Цітова больш шырокі, аб чым, між іншым, можна даведацца ўжо з невялікага ўступу "Ад аўтара", у якім даследчык падае асноўныя звесткі пра геральдыку, сутнасць якой, як вядома, можна звесці да трох-асноўных галін: "Першая — нацыянальна-дзяржаўная з неад'емнай яе часткай — земельнай. Другая — уласніцкая геральдыка. Яна аб'ядноўвае ў сабе як родавыя шляхецкія, так і асабістыя (набытыя) гербы, сюды ўваходзяць — з пэўнай ступенню ўмоўнасці, мяшчанская геральдыка і дагербавыя выявы — клейны". Прадмет жа гаворкі А. Цітова — трэцяя галіна геральдыкі: "карпарацыйная, або меская (гарадская), геральдыка, якая аб'ядноўвае ў шырокім сэнсе як уласныя гербы — сімвалы самакіравання таго ці іншага места, так і цэхавыя, а таксама сімвалы брацтваў — аб'яднанняў па канфесійных адзнаках".

А ўжо з гэтага відаць, што А. Цітоў глядзіць на праблему шырэй, чым пазначана ў загалоўку кнігі. Ды і матэрыялы пераконваюць у правільнасці падобнай высновы. Для прыкладу, у раздзеле "Адзіная ў трох праявах" зроблены экскурс у мінулае, калі з узнікненнем гарадоў неад'емным атрыбутам іх станавіліся пячатка і герб. "Увогуле, — сведчыць аўтар, — старажытны герб выконваў ролю своеасаблівай візітнай карткі. Гэтая ягоная функцыя не страчана і можа вельмі добра паслужыць і сёння, і надалей". Не абмінае А. Цітоў і цэхавай геральдыкі, якая таксама надзіва багатая, нават больш, чым гарадская, бо "калі местаў на сучаснай тэрыторыі Беларусі, якія карысталіся правам на самакіраванне, было каля ста дваццаці, дык агульная лічба цэхаў у гарадах, дума-

мы сустракаем на старонках апавядання “Над вадаспадам”: надпіс на вакзальнай лаўцы.

Увогуле Уладзімір Сіўчыкаў не збіраецца маляваць размаітую карціну жыцця сваёй радзімы. Некалькі штрыхоў — што запомнілася, што згадваецца. У памяці канкрэтнага жыццёвага вопыту. У памяці душы.

Ужылося слова — маляваць. Дарэчы згадаць тут, што па першапачатковай спецыяльнай адукацыі і першапачатковым родзе заняткаў Уладзімір Сіўчыкаў — мастак. У кнізе гэта адчуваецца шмат у чым. Мабыць, і ў адбітку карціны Брэйгеля на вокладцы, у назве кнігі: “Лісты да брата”, тут рэч не толькі ў адрасаце апошняй часткі кнігі — а і ў тым, што некалі пісаў лісты брату Ван-Гог, між іншым, герой апавядання “Адліга” чытае пісьмы Ван-Гога. (Хаця — хто з нас не чытаў знакамітыя лісты са зваротам: “Дарагі Тэа!”). Вока мастака адчуваецца ў заўважаным графіці на спінках крэслаў у чакальні вакзала, у згадванні лінарытаў, зробленых знаёмым героя апавядання “Адліга”, у зрокава-відавочным апісанні пакоя ў адным з апавяданняў: “вінназалацістая паліроўка стала”, мяккі круг ці паўкружжа ад абажура на “цьмяна-бэзаватай столі” і г. д.

Хаця пытанне, што задае персанаж-мастак герою апавядання “Адліга”, — гэта пытанне не толькі мастака. Ці мог Ван-Гог вылечыцца? І яно праецыруецца далей, пытанне, — ці мог бы без хваробы Ван-Гог стаць Ван-Гогам? Гэты сланечнікавы, асляпляльна-сонечны, выбухова-трывожны і адначасова закалыхваюча-надзейны жоўты колер... Гэта вынік хваравіта-ўзбуджанага ўяўлення ці толькі спрактыкаванае вока і рука, ды яшчэ сонца Праванса?

Раздзел “Менскія сумоўі” — увогуле раздзел пытанняў, якія, мабыць, не давалі спакою аўтару ў 80-я гады (калі меркаваць па хcraналогіі напісання апавяданняў). Якая патаемная сувязь паміж злачынствам і зброяй? Ці рэччу, што нечакана сталася прычынай смерці (“Прэзэнт”). Які сэнс у мітусні — учынкаў і слоў — у журналісткі з апавядання “Палёт над шалманам”?

У апошняй назве, дарэчы, свядомы перагук. Памятаеце фільм М. Формана “Палёт над зязюльчыным гняздом”? Знарок пераводзіцца ў слоўны шэраг і зрокавая цытата з фільма А. Таркоўскага “Ахвярапрынашэнне” — сон героя з апавядання “Над вадаспадам”: хлопчык носіць ваду да засохлага дрэва, спадзеючыся, што яно ажыве. Тут аўтар “Лістоў да брата” зноў жа прапануе працягнуць нітку згадак далей: да біблейскіх матываў. Уладзімір Сіўчыкаў згадвае і біблію: цытатна, апасродкавана, паўнамёкам. Ён імкнецца пашырыць духоўнае поле тэкстаў сваёй кнігі.

Кампазіцыйны сюжэт кнігі аўтар спрабуе "закальцаваць” не завяршэннем ці развіццём зададзеных праблем і пытанняў, а паваротам жанрава-сітуацыйным. Апошняя частка — эсэ. Эсэ паводле вандровак. Жанр рызыкоўны, нягледзячы на яго вонкавую нязмушанасць. У беларускай літаратуры — з бліскучымі ўзорамі пісьма. Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў (“Дзень у шэсцьдзесят сутак”), Віктар Карамазаў, Уладзімір Арлоў... Шматлікія дакументалізаваныя і рыфмаваныя занатоўкі.

Уладзімір Сіўчыкаў стрыжнем бярэ часам сітуацыйны (“Танкі па пляжы не ходзяць?”), часам — апісальна-даведачны, дзелавы момант (“Камяні Карфагена, або Паўночная брама Афрыкі”, “Frankfurter Buchmesse, або Кніжная Мекка”).

Падрыхтаванасць тэарэтычную да падарожжаў Уладзімір Сіўчыкаў дапаўняе пабачаным спрактыкаваным, мастацкім, дзелавым зрокам і пачутым трэніраваным слыхам.

Добрым адчуваннем факта, выпадку, здарэння. Увагай да дэталяў. Вылучэннем галоўнага. Выбіраючы зручны для аўтара спосаб выкладання, які я, у адрозненне ад Пятра Васючэнкі, не спяшалася б пазначыць як традыцыяналісцкі. Ды і што сёння ёсць традыцыя? Многае з навацый і мадэрнісцкіх прыёмаў даўно ўжо ўспрымаецца начытаным вокам і прызвычаеным слыхам як своеасаблівы працяг пэўных эстэтычных спроб.

Вось імкненне Уладзіміра Сіўчыкава прамаўляць маналогі ці весці дыялогі — гэта сапраўды адметная рыса кнігі. А звяртаецца аўтар не толькі да незнаёмага, абстрактнага чытача, але і да канкрэтных суразмоўнікаў: брата Яўгена, Адама Глобуса, Міраслава Адамчыка... Не пераглядаючы пазней свае звароты ў залежнасці ад змены абставін і адносін з людзьмі — што было, тое было. Частка жыцця. Неад’емная.

У пэўным сэнсе кожная частка перагукаецца з заяўленым, паводле Брэйгеля, поглядам на свет. Апошняя — таксама. Камяні Карфагена, высветлены да неймавернасці неўспрымання Туніс, знакі цывілізацыі, якой — тысячагоддзі, і адзнакі гальскай, французскай культуры, зусім не каланіяльнага кшталту. Дзелавы і недзелавы Франкфурт-на-Майне, дзе адбываецца кніжны кірмаш. Гісторыя і практычная сучаснасць, готыка — і камп’ютэры, цікаўнасць вандроўніка — і зацікаўленасць бізнесмена. Для якога Нацыянальная ідэя і палітыка — не пусты гук.

...Увогуле — тое, што пачынаюць выходзіць кнігі ў недзяржаўных, прыватных установах: выдатна. Спроба Уладзіміра Сіўчыкава — толькі адна з іх.

Праўда, тут я наноў згадваю Брэйгеля. Адбітак на вокладцы. І тое, што ўсе карціны цыкла “Часы года”: “Вяртанне статка”, “Пахмурны дзень”, “Касьба”, “Жніво”, “Паляўнічыя на снезе” — былі замоўлены Пітэру Брэйгелю. Нікаласам Йёнгелінкам. Мецэнатам. Замоўленыя. Купленыя. Заказ — сышоўся з творчым настроем майстра. Узніклі шэдэўры.

Можа, і ў нас з’явяцца мецэнаты? Узнікнуць шэдэўры?

І я зноў гляджу на адбітак карціны Брэйгеля на вокладцы. Прадуманая кніга. Выдатныя вызначальныя арыенціры.

**Ала СЯМЁНАВА**

---

ецца, яшчэ не паддаецца падліку”. Знаёміць чытача і з відамі гэтай геральдыкі: вытворчая, рэлігійная і абстрактная. І тут жа шматлікі ілюстрацыйны матэрыял — як каляровы, так і чорна-белы.

Наступныя раздзелы — “Прывілей на вольнасці”, “Герб места”, “Сімволіка гербаў”, “Шляхі развіцця гарадской геральдыкі” — таксама ў многім маюць абагульнены характар. У іх А. Цітоў дэталёва аналізуе геральдычную сітуацыю ў розныя часы, даючы разнастайныя звесткі аб тым, як пасля атрымання гарадамі прывілея на вольнасць (прыводзіцца і апісанне саміх гэтых дакументаў) пачалі з’яўляцца гербы, пячаткі. У сувязі з гэтым нельга не сказаць, што з кнігай “Геральдыка беларускіх местаў” не лішне пазнаёміцца тым, хто сёння мае дачыненне да стварэння гербаў для тых населеных пунктаў, якія іх раней не мелі. У прыватнасці, як паведамлялася ў друку (згадваў гэта ў адным з нумароў і “ЛіМ”), у хуткім часе ўсе 32 гарады, гарадскія пасёлкі, а таксама вёскі Брэстчыны, якія некалі карысталіся Магдэбургскім правам, будуць мець свае гербы. Само па сабе гэта ўхвальна, бо сведчыць аб цікавасці не толькі да гарадской геральдыкі, а і да гісторыі ўвогуле. Але нельга забываць, наколькі такая справа, як стварэнне гербаў, адказная. І ў ёй, безумоўна, не абысціся без ведання “законаў геральдыкі”. Пра іх і нагадвае А. Цітоў: “Паводле існуючай традыцыі, дазваляецца накладаць колер на метал або наадварот. Асноўнымі колерамі ў геральдыцы лічацца чырвоны, блакітны, зялёны, чорны і пурпуровы, а металамі — белы (срэбны) і жоўты (золата)”. Але і тут ёсць свае нюансы: “Вядомы адзін выпадак ужывання на Беларусі чырвонай эмблемы на зялёным полі — герб Геранёнаў. Ён паказальны тым, што знаходзіцца ў супярэчнасці з асноўнымі правіламі геральдыкі, якія забараняюць ужываць у спалучэнні чырвоны і зялёны колеры ў прыватнасці і спалучаць метал з металам і колер з колерам увогуле”.

Асобна прадстаўлены ў кнізе “дадатковыя матэрыялы”. Яны ўключаюць у сябе “Паказальнік геральдычных сюжэтаў мескіх гербаў” і “Гербы, праекты гербаў і пячаткі беларускіх местаў” (гэтым разам рэпрадукцыі выяў чорна-белыя). Таксама матэрыял, які мае і гістарычную, і пазнавальную каштоўнасць.

А што да кнігі ў цэлым, дык яна, несумненна, як і папярэдняя, знойдзе належны розгалас не толькі ў айчыннага, а і ў замежнага чытача. Праз гербы таксама спазнаеш гісторыю, лішні раз задумваешся, наколькі багатая яна. У рэшце рэшт у прадмове аб гэтым нагадвае і сам А. Цітоў: “Менавіта праз старажытныя гербы ў чалавека ўзнікае цікавасць і пашана да мінуўшчыны, да Айчыны. Праз старажытныя гербы існуе рэальная сувязь паміж прадзедамі і нашчадкамі. Любоў да Бацькаўшчыны пачынаецца ад любові да роднай хаты, вуліцы, горада. І тады ў далёкіх вандроўках, глянуўшы на малюнак з “візітнай карткай” роднага места, чалавек у думках вернецца дамоў”.

**Ян КРЫВІЦКІ**

---

ЧАСОПІСЫ

# “Палессе”: працяг жыцця

Правільна ў народзе кажуць: дзіцятка позняе, а шчасце вялікае. Словы гэтыя міжволі прыгадваеш, калі знаёмішся з першым-другім у сёлетнім годзе нумарам літаратурна-гістарычнага і грамадска-культурнага часопіса “Палессе”, які, як мы паведамлялі раней, выходзіць у Гомелі. Хоць і запазніўся ён ці не на паўгода (пазначаны чэрвенем), затое аб’ёмны дый, што таксама немалаважна, багаты на разнастайныя матэрыялы. Але перш чым гаварыць пра іх, хочацца яшчэ раз сказаць “дзякуй” нястомнаму рупліўцу на ніве нацыянальнага Адраджэння, заснавальніку і галоўнаму рэдактару “Палесся” Рыгору Андрэяўцу. Пачаўшы добрую і такую патрэбную справу, Рыгор Мікалаевіч, нягледзячы на шматлікія перашкоды, у першую чаргу фінансавага плана, не апускае рукі, знаходзіць сродкі, каб яго (і наша таксама) дзецішча працягвала жыць. Адсюль у нумарах часопіса ( у гэтым, здвоеным, таксама) шматлікая рэклама.

Цяпер пра сам нумар. Напачатку ідзе падборка вершаў Ніны Мацяш — паэтэсы, з творамі якой заўсёды сустракаешся з прыемнасцю, бо яе слова і на душу хораша кладзецца, і да роздуму заклікае. Ёсць і пра пэўную самотнасць. Такое наша жыццё, падстаў для радасці мала. А ўрэшце чалавек не можа не задумвацца над сваім пражытым, над сваім лёсам, не можа не прыгадваць тое, што было, каб суаднесці яго з сённяшнім:

***Пры сцежцы***
***гарыць куст ружавы.***
***Мінаюцца з ім людзі***
***і зрываюць***
***дзівосныя бутоны.***
***Рукі ж мае —***
***пустыя.***
***Бо сцежка не мая?***

Ці яшчэ:

***І гэтай ноччу —***
***Даўні сон:***
***усё ніяк не дапускае нешта***
***здаць***
***Экзамен па замежнай мове...***

***...Усё ніяк, відаць, не выспеліцца***
***нейкі мусовы плод***
***на голлі маёй дніны.***

Ладнымі атрымаліся падборкі Віктара Яраца, Анатоля Сыса і, на жаль, нябожчыка Віктара Стрыжака. А папярэднічае гэтым публікацыям артыкул Вольгі Шынкарэнкі “Родных гоняў расткі” у якім разглядаецца творчасць гэтых арыгінальных творцаў. Дарэчы, В. Шынкарэнка засяроджвае ўвагу і на тым, пра што прыхільнікі паэзіі таленавітай “тройцы” наўрад ці здагадваліся: “Ёсць на геаграфічнай карце Беларусі незвычайныя радовішчы, якія сілкуюцца духам мастацкага слова, выпраменьваюць праз яго дзівоснае святло паэтычнай узрушанасці, клопат за людзей і родныя мясціны, гарачы напал грамадзянскай неабыякавасці і хвалюючую непаўторнасць сваіх творцаў. Апроч Віленскага краю, Ушаччыны, Случчыны ды іншых ля іх можна далучыць і невялічкую прастору ў Рэчыцкім раёне Гомельшчыны, акрэсліўшы яе кропкамі-назвамі Красны Мост, Гарошкаў, Заспа. Вёскі гэтыя прытуліліся да правага берага Дняпра і з’яўляюцца тэрытарыяльнымі адзінкамі аднаго калгаса з існуючым да сённяшняга дня найменнем “Савецкая Беларусь”. Якраз тут і выгадаваліся, прайшлі школьную навуку перад выхадам у больш шырокі свет такія непадобныя і ўсё ж шмат у чым блізкія паэты Віктар Ярац (1948), Анатоль Сыс (1959), Віктар Стрыжак (1955—1995). Усе яны аднолькава ўдзячныя роднай зямлі, памяццю і насамрэч вяртаюцца да яе ў веры і бязвер’і. Важна і тое, што В. Шынкарэнка здолела адчуць адметнасць кожнага з іх, але разам з тым вызначыць і тое, што аб’ядноўвае. Чытач ва ўсім гэтым зможа пераканацца, пазнаёміўшыся з “першаасновай” — творамі.

“Палессе” прадстаўляе цікавага празаіка. Імя яго — Анатоль Разановіч. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, зараз — галоўны рэдактар аналітычнага часопіса “Буг. СЭЗ Брест”. Выдаў тры кнігі — публіцыстыкі, прозы, філасофскага зместу. Прапануецца ўрывак з рамана А. Разановіча “Людзі і пярэваратні”, у якім, як відаць па ўрыўку, праўдзіва паказвае працэсы, што адбываюцца ў сучаснай вёсцы (а ёй угадваецца родная аўтару вёска Рубель, жыццё якой А. Разановіч добра ведае).

І яшчэ вельмі змястоўная публікацыя, якая займае, бадай, палову нумара — “кубінскі дзённік” Віктара Пушчанкі “Аперацыя “Кот у мяшку”. Зноў жа, часопіс адкрыў аўтара, з творчасцю якога не лішне пазнаёміцца. В. Пушчанка, закончыўшы Ваенна-марскі медыцынскі факультэт пры І-м Ленінградскім медыцынскім інстытуце, доўгі час служыў у часцях ваенна-марскога флоту і войск супрацьпаветранай ваеннай абароны, а ў 1962—1964 гадах знаходзіўся на Кубе ў складзе групы савецкіх войск. Пра Кубу і расказваецца ў гэтым дзённіку, а правільней — дакументальна-мастацкай аповесці. Расказваецца тое, што дагэтуль хавалася ад шырокай грамадскасці. Навізна матэрыялу і прываблівае ўвагу да твора В. Пушчанкі.

Традыцыйна-моцны ў “Палессі” раздзел “Гісторыя і краязнаўства”. Гэтым разам тут змешчаны нарыс Уладзіміра Кісялёва “Някропаль пад назвай “Трыццатыя”. Аўтар, вяртаючыся ў трагічныя трыццатыя гады, расказвае пра выдатнага чалавека, земляка і сябра Якуба Коласа Аляксандра Сянкевіча, які, як і многія іншыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, быў аб’яўлены “ворагам народа” і расстраляны. А што А. Сянкевіч — чалавек неардынарнага лёсу, сведчыць ужо тое, што ён з’яўляецца прататыпам герояў трох мастацкіх твораў. Па-першае, у многім з Сянкевіча Я. Колас пісаў настаўніка Садовіча з трылогіі “На ростанях”. Па-другое, рысы А. Сянкевіча ёсць яшчэ ў адным коласаўскім героі — Басу-Грэнку з п’есы “Забастоўшчыкі” (Бас — мянушка Аляксандра Антонавіча з часу навучання яго ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, а празвалі яго таварышы так, бо меў выдатныя вакальныя дадзеныя). Па-трэцяе, А. Сянкевіча добра ведаў Аляксандр Фадзееў, таму і ўзяў у якасці прататыпа доктара Сташынскага з рамана “Разгром”. Ёсць яшчэ адна літаратурная паралель. Яна выклікана той вострай барацьбой, што вялася ў 30-ыя гады, а ў выніку сумленныя людзі прад’яўлялі неабгрунтаваныя абвінавачванні адзін аднаму. Калі быць шчырым, вялося падобнае і за самім А. Сянкевічам. Таму Міхась Зарэцкі, калі пісаў раман “Крывічы” (як вядома, не закончаны), паказаў здрадніка “беларускай справы” ў асобе доктара Хмялевіча, які прыехаў з Амерыкі, а ў Амерыцы пэўны час жыў і А. Сянкевіч. Нарыс У. Кісялёва дазваляе глыбока разабрацца, хто ж быў гэты чалавек у сапраўднасці. Разабрацца аб’ектыўна, улічваючы тагачасныя грамадска-сацыяльныя і палітычныя рэаліі.

Ёсць у нумары інтэрв’ю з генеральным дырэктарам Беларускага металургічнага завода Юрыем Феакціставым (“Ява старажытнага краю”), дырэктарам Брэсцкага лікёра-гарэлачнага завода Васілём Бялко (“Нараўне са “Смірноўскай” і “Абсалютам”), генеральным дырэктарам аптова-рознічнага прадпрыемства “Аблгандальсаюз” з Гомеля Уладзімірам Свірыдэнкам (“Барометр надвор’я не робіць”), а таксама багатая інфармацыя.

Загортваеш апошнюю старонку “Палесся” з радасцю, што з карысцю правёў вольны час, і са спадзяваннем, што наперадзе будуць новыя сустрэчы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

КАЛЯНДАР

# Адзін з дысідэнтаў

Звычайна, калі гаворка заходзіць пра дысідэнтаў у савецкія часы, згадваюць тых, хто праследаваўся ў Маскве і Ленінградзе, а таксама іншых расійскіх гарадах. А яшчэ знаходзіцца нямала ахвотнікаў, якія сцвярджаюць, што нічога падобнага на Беларусі не было. А гэта ж не так. Дысідэнтам быў, напрыклад, вядомы гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар Барыс Клейн. Вальнадумства Барысу Самуілавічу каштавала дорага. Калі ён у другой палове шасцідзесятых гадоў (тады працаваў на кафедры гісторыі КПСС Гродзенскага мединстытута) выступіў з крытыкай палітычнага курсу цэнтральнага кіраўніцтва КПСС і асудзіў увод войск краін Варшаўскага дагавора ў Чэхаславакію, якое, як вядома, адбылося ўлетку 1968 года, Б. Клейн быў вызвалены ад работы, пазбаўлены вучонай ступені і звання. І, канечне ж, выключаны з партыі, у якой быў адноўлены ў 1976 годзе, дзеля чаго спатрэбілася нават спецыяльнае рашэнне бюро ЦК КПБ. А вось вучоная ступень і званне былі адноўлены толькі ў 1979 годзе, калі Б. Клейну дазволілі працаваць на кафедры гісторыі СССР і БССР Гродзенскага універсітэта. У 1992 годзе Б. Клейн пакінуў Беларусь, паехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі. Працуе ва універсітэце Мінесоты. Асноўнае кола даследчыцкіх інтарэсаў Б. Клейна — гісторыя рэвалюцыйнай барацьбы і нацыянальна-вызваленчага руху Беларусі, Літвы і Расіі. Ён выдаў даследчыцкую працу “Рэвалюцыйны рух у Віленскім краі ў 1920—1939 гг.”, склаў зборнік і зрабіў каментарыі да кнігі “Віленскае падполле”. Добра вядомы і кнігі Б. Клейна “Найдено в архиве”, “В годину испытаний”, “Время выбора”, “Взгляд из прошлого”...

У гэтыя дні Барысу Самуілавічу споўнілася 70 гадоў.

## "Маладосць", N 9

Багата ў нумары паэзіі: вершы А. Ніньکі, В. Курбекі, М. Баравік, Т. Мушынскай, С. Верацілы, Р. Барадуліна. Змешчаны аповесць В. Кадзетавай "Вяртанне", прыгодніцка-гістарычная аповесць А. Якімовіча "Панскае дзіця", заканчэнне аповесці Я. Конева "Рытуал", кароткія апавяданні Л. Адамовіч, апавяданні Л. Сазанавец "Здрада" і "Ліст да сяброўкі", абразкі М. Самуйліка, нарысы І. Валасевіча "Зямля шануе руплівых", М. Дабаснянскага "Калі паміраюць рэкі", заканчэнне нататкаў М. Хамца "Далі чыстыя, далі светлыя", развагі Н. Кузьміч "На крылах паэзіі", артыкулы Э. Садаўнічага "Экзістэнцыяльны цяжар выбару", А. Наркевіча "Сугучнасць слоў жывых...". А. Марціновіч рэцэнзуе кнігу А. Пісьмянкова "Вершы" — "Любіць прызначана... лёсам". А. Кірвель ("Каханне і пяшчота") гутарыць з мастачкай Л. Сівухай. У нумары прадстаўлены рэпрадукцыі яе асобных твораў.

## "Полымя", N 9

Чытач атрымаў магчымасць пазнаёміцца з апавяданнямі В. Быкава "Труба", Г. Багданавай "Аквалангіст", аповесцю Ф. Сіўко "Там, дзе найлепш", паэмай Н. Гілевіча "Лодачкі", вершамі С. Грахоўскага, В. Гарановіча, М. Мішчанчука, Я. Гучка, І. Сяцко, заканчэннем дзённікаў П. Панчанкі "Думаю, думаю...", артыкулам Г. Кісялёва "Фантомы тайных архіваў". У раздзеле "Успаміны" Л. Юрэвіч і З. Саўка знаёмяць з яшчэ адным прадстаўніком беларускай эміграцыі В. Стомам-Сініцам ("Кульгавы хлопчык з гарэзнымі вачыма"), тут жа прапануюцца мемуарныя запісы гэтага аўтара "Маё мястэчка". Змешчаны артыкулы Я. Трацяка "Рэлігійны сэнс нацыянальнага", А. Марціновіча "...І вечнасць асядае на дол" (пра творчасць А. Грачанікава), Т. Дасаевай "Пяром самоты і агню" (пра творчасць Н. Мацяш), В. Шура "Анамастычная лексіка ў прозе Фёдара Янкоўскага". М. Скобла ("Сведчанне супраціву") рэцэнзуе кнігу Ю. Віцьбіча "Антыбальшавіцкія паўстанні і партызанская барацьба на Беларусі", выдадзеную Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Н'ю-Йорку. В. Хацкевіч ("У скарбніцу духоўнай культуры") запрашае да знаёмства з кнігай Г. Юрчанкі "Сучасная народная лексіка. З гаворкі Мсціслаўшчыны. Р—Я", выпушчаную выдавецтвам "Беларуская навука".

## "Мастацтва", N 10

Арфічныя матывы ў беларускім фальклоры — тэма артыкула У. Конана "Універсальны сімвал творчасці і мастацкага генія". Т. Катовіч ("Стылявая парабала сэнсу, ці "Як пажадаеце") запрашае на Міжнародны фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы-98" у Гомелі. Спектакль "Рагнеда і Уладзімір" А. Дударава на сцэне Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра рэцэнзуе І. Рахманава ("У люстрах гісторыі"). Вядомая тэлежурналістка М. Гарэцкая — гераіня нарыса Т. Арловай "Характар". А. Краснік ("Я дырыжыраваў надзеямі і эмоцыямі") гутарыць з Я. Янчанкам. З педагогам А. Гужалоўскай знаёміць А. Залатарог ("Чароўная ніць Арыядны"). Змешчаны артыкулы А. Законнікавай "Мова народных тканін", М. Віннікавай "Прыгажосць не павінна знікнуць", В. Гаршкавоз "Роспіс капліцы святога Пятра", А. Давыдчык "Карціны з выставак", А. Лявонавай "Віленская калекцыя ў музеі старажытнабеларускай культуры", Ю. Барысевіча "Унутраная Амерыка", А. Судлянкова "Адпавядаць свайму часу", А. Шамрук "Ці станучь задумы творамі?", Л. Бортнік "Гукі колеру", А. Пруская "У сааўтарстве з прыродаю", А. Лакоткі "Мястэчкі Беларусі", рэцэнзія В. Новак на кнігу В. Ліцвінкі "Святы і абрады беларусаў" ("Стане ўзімку лецейка ў хаце..."), іншыя матэрыялы.

ПАЭЗІЯ

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК



# Твая Марыя

1

*Твая Марыя, Юрка Лістапад,*
*Прачнулася на досвітку халодным.*
*Над Свіслаччу стагнаў і плакаў сад,*
*Нібы жабрак, абдзёрты і галодны.*

*І ўсё было галоднае наўкол —*
*Гліняная скарбонка і паліцы,*
*І той, што сніўся толькі што, анёл,*
*І неба беларускае сталіцы.*

*Спалоху ненажэрны матылёк,*
*Крывёй наеўшыся ў жаночым сэрцы,*
*Хаваўся ў пахудзелы кашалёк,*
*Каб адпачыць, як у сваім кубельцы.*

*А ў думках — боль: як жыць далей, калі*
*Усё так будзе доўжыцца бясконца...*
*У кашальку адзін ці два рублі,*
*Адзін ці два, — і глухата ў скарбонцы.*

*З паўторбы крупаў,*
*бульбы з паўмяшка,*
*І ўжо алейніца амаль пустая;*
*Як сонца ўзыдзе, слоік малака*
*Малочнік Хоня пад акном паставіць.*

*І хоць яму не плачана даўно,*
*Усё адно са слоікам літровым*
*Штораніцы прыходзіць пад акно*
*І ў шыбу стукае кійком лазовым.*

*"Маўляў, прынёс я..." — і далей ідзе*
*Да Свіслачы, па вуліцы Гандлёвай,*
*І цень яго люструецца ў вадзе*
*Заўсёды звыклай і заўсёды новай.*

2

*Твая Марыя, Юрка Лістапад,*
*Перад люстэркам, як перад іконай.*
*Вачэй стамлёных ластаўчын пагляд*
*Напоўнены гаркотаю бяздоннай.*

*Дзень пачынаецца, як дзень любы,*
*Да чалавечых бедаў раўнадушны,*
*Як дол, сляпы, і на святло скупы —*
*Няма святла, дык, пэўна ж,*
*дзень зладзюжны.*

*Турмою пахне дзень, і ўсё наўкол*
*Турмою пахне — столь і аканіцы,*
*І той, што сніўся толькі што, анёл,*
*І неба беларускае сталіцы.*

*На цэглу дрот кладзецца і цвіце,*
*Нібы шыпшына, за якою нары,*
*Само жыццё са стыгмай на шчацэ*
*Ляжыць на іх, — чакае большай кары.*

*Тут век жыві, а вынік усё той;*
*Тут волю вольную за хвост не зловіш;*
*Турма тут не застоіцца пустой...*
*Што ні рабі, — адбудзецца ўсё тое ж.*

*Хоць у сваім схавайся кулаку,*
*Аднак і ён не ўсцеражэ ад кратаў...*
*Дачка прачнулася ў сваім кутку:*
*"...мне сніўся сон...*
*Мне сніўся, мама, тата...*

*Сядзіць у нейкім доме ён адзін*
*І сумна там сядзець*
*яму й няміла..." —*
*Сказала так і слёзкі бальзамін*
*На коўдру даматканую ўраніла.*

*"Не плач, не плач...*
*Наш тата ў доме тым,*
*Дзе сум у іншых душах патанае,*
*Бо гэты дом бязлюдным і пустым*
*Ніколі, мая дзетка, не бывае".*

3

*Твая Марыя, Юрка Лістапад,*
*Каптанік апрануўшы старасвецкі,*
*Пайшла на шум, бо зашумеў па-над*
*Халоднай Свіслаччу базар Траецкі.*

*Аднак Марыі на базар ісці —*
*Усё адно, што лахманамі трэсці;*
*Усё адно, што ў Свіслацкім трысці*
*Мыць золата на камароўскім рэшаце.*

*А што было рабіць?! Таму ішла,*
*У гэтым шуме прагнучы схавацца;*
*Ішла і думку горкую піла:*
*Раней, чым старасць,*
*надышло жабрацтва...*

*І ўсё было жабрацкае наўкол:*
*Няміга і муры другой бальніцы,*
*І той, што прылятаў у сне, анёл,*
*І неба беларускае сталіцы.*

*Ці думалася хоць на міг аб тым,*
*Што лёс, не ўзняўшыся,*
*апусціць крылы;*
*Што роднае не стане залатым;*
*Што родны кут —*
*ён родны ды не мілы...*

*А хоць і думалася — што з таго!*
*Усе наперад вынікі благія,*
*І лёсам — з меха цяжкага яго —*
*Нам вытрасена*
*толькі торба з кіем...*

*Марыя йшла ў спалох, у калатню,*
*Сціскаючы свой кашалёк лядачы,*
*Каб цукар, сала, жменю тытуню*
*Купіць дзеля турэмнай перадачы.*

*Малілася: "О Божа, надзялі*
*Удачай пакупніцкаю і сілай...*
*На гэтыя адзін ці два рублі*
*Каб я ж усё, што трэба мне, купіла..."*

*Пыталася ў нябеснага суддзі:*
*"І што ж гэта за вырак невясёлы —*
*Раз беларус, то з торбаю хадзі;*
*Раз беларус, то заставайся голы?*

*Няўжо Табой задумана для тых,*
*Людзьмі... якія... захацелі... зваццa,*
*Падпора вечная — канвойны штых,*
*І ласка вечная — краса жабрацтва?!"*

4

*Твая Марыя, Юрка Лістапад,*
*Нясе з базару жменьку*
*перадачы;*
*Яе падзеліць варта —*
*з катам кат, —*
*А крошкі перадасць*
*табе наглядчык.*

*Ён дзядзька просты,*
*з добраю душой,*
*Від, бы ў ката, а нораў,*
*бы ў сабакі,*
*Паспагадае і бядзе чужой,*
*І што да службы —*
*не чакае дзякі.*

*Ён любіць свой турэмны калідор*
*На восемдзесят камер*
*(тры на дзевяць!),*
*У кожнай — вязняў,*
*як у небе зор,*
*Святло якіх з Галгофай*
*славу дзеліць.*

*Ён ведае на памяць "Ойча наш"*
*І носіць біблію*
*ў заплечным меху,*
*І часам любіць,*
*як вясковы звадыяш,*
*Прымусіць вязняў,*
*каб пабіліся для смеху.*

*З анучкай ходзіць, выцірае пыл*
*І па кутках здымае павуціння,*
*І фасфарычнае святло магіл*
*Яму ўжо сніцца*
*й раніцай не гіне.*

*Ды што казаць —*
*ён проста дзядзька свой*
*І нават ведае, што ёсць паэт Купала,*
*І знае, што магільнаю травой*
*Любая крыўда гоіцца трывала.*

*Дажыў да старасці...*
*А ты не дажывеш,*
*Старой не ўбачыш любую Марыю;*
*Прынесеныя крошкі дажуеш,*
*Адчуўшы, як метал халодзіць шыю.*

*Слязою Божай упадзеш на дол,*
*Паспеўшы згледзець*
*позіркам замглёным,*
*Што ўсё было старэчае наўкол —*
*Паветра, хвоі і пясок чырвоны.*

5

*Твая Марыя, Юрка Лістапад,*
*Адстояўшы ў чарзе кіламетровай,*
*У вечаровым прыцемку назад*
*Вяртаецца да вуліцы Гандлёвай.*

*А ногі ныюць... Праўды ў іх няма?!*
*Не, праўда ёсць — як не ў нагах,*
*то ў сэрцы.*
*Марыя адстаяла недарма,*
*Бо што прынесла — прынялі ў акенцы...*

*Менск дыхае цырульнікам старым*
*І голіць змрок трамвайнаю дугою.*
*На Свіслач апускаецца кілім,*
*Фастрыгаваны флёксамі й тугою.*

*І ўсё стаіць шыпшыннае наўкол —*
*Гатэль, кавярні, крамы і бажніца...*
*Сагнуты ў крук на козлах балагол*
*На крыж каня раптоўна*
*стаў хрысціцца.*

*Шкло свеціцца ліхтарнаю рудой*
*І патанае ў рэстаранным скерца.*
*Паэзія сталіцы маладой —*
*Паэзіяй пакуль яшчэ здаецца;*

*Пакуль яшчэ смяецца ямб, які*
*То мальваю прывабіць, то мімозай, —*
*Але ўжо блізка чуюцца гудкі*
*Напоеных юдоллю перавозаў.*

*Краіна-Беларусь — бясконцы скон...*
*Ты ёсць, цябе няма, ты вечна будзеш...*
*На белых ружах — кроў, у душах — сон,*
*І ўсё ж ты душы гэтыя разбудзіш.*

*О Маці-Беларусь — (Купалаў троп,*
*Знясілены пакорай і разладам!) —*
*Пацалаваны твой іконны лоб*
*Марыяю і Юркам Лістападам.*

19 жніўня 1998



ПРОЗА

*...Бываюць і ў нашым літаратурным жыцці нечаканасці.*

*Я люблю завітаць у рэдакцыю газеты "Звязда", дзе шмат высокапрафесійных і, галоўнае, талковых, сумленных журналістаў. Падчас сустрэч і гутарак я прыкмеціў: заходзіць у пакой, садзіцца і моўчкі слухае нас сярэдняга росту, плячысты, чарнявы мужчына гадоў за пяцьдзесят. І вось нядаўна бачу яго ў нас, у "Маладосці". Просіць, каб асабіста я прачытаў ягоную прозу.*

*Пазнаёміліся. Аўтар — Алесь Дзеравянка. З вёскі Шчыток Круглянскага раёна, нарадзіўся ў 1937 годзе. Гадаваўся без бацькі (той загінуў на фронце), скончыў вучылішча механізацыі працаваў цесляром, ваенным будаўніком, працяглы час служыў у МУС, скончыў філфак, цяпер на пенсіі і працуе ў "Звяздзе" гаспадарнікам. Калі-нікалі друкаваўся ў дзіцячых выданнях, але сваю сталую прозу асцерагаўся каму паказваць.*

*Грэшны, прызнаюся, не заўсёды давяраю тым, хто дэбютуе ў паэзіі і прозе пенсіянерам (да аскомы начытаўся "паэм", "аповесцей" і "раманаў", пажылыя пачаткоўцы якіх лічаць, што "да іх ніхто так не пісаў"), але тут — прыемная неспадзяванка, як кажуць, даволі прыстойныя рэчы, здольны чалавек, якому ёсць што сказаць і які ўмее сказаць. Большыя аб'ёмам творы адабраў для "Маладосці", невялікія апавяданні прапаноўваю "ЛіМу". Знаёмцеся, калі ласка: Алесь Дзеравянка.*

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

ніць мяне не выпадае. Яго жонка хварэе, ляжыць у бальніцы. Яму няма на каго пакінуць малых. Я за цябе адпрацую ў панядзелак, на наступным тыдні. А "Стары" запрасіў мяне на спектакль тэатра Маякоўскага, які ў нас на гастролях.

Надзя нечакана, нібы вінавата, усміхнулася і пачырванела, бы дзяўчынка. За ёй, саламянай удавою, валачыўся прараб Лявон Новікаў, інтэлігентны, заўсёды ў адпрасаваным касцюме і пад гальштукам. Яго, Новікава, яна называла "Старым". Іхняе сужыцельства не было ні для каго таямніцай.

Маладую жанчыну падтрымаў і Міхась:

— Можа, і ў цябе выйдзе калі-небудзь нявыкрутка, дык мы падсобім.

Ён не таіўся, закахана пазіраў Надзі ў вочы, што весяліла яе. Відаць, не адзін прараб быў у захапленні ад кранаўшчыцы.

прыгожым касцюме на распашку, у адпрасаванай белай кашулі пад гальштукам з ноткамі незадаволенасці і крыўды ўладна звярнуўся да падначаленых:

— Таварышы, можа, крыху цішэй? І накурылі, хоць сякеру вешай! — Ён грэбліва адкапыліў адвіслую губу, замахаў перад сабой рукой, разганяючы тытунёвы дым: — Просьба да ўсіх: курыце па чарзе!

Хтосьці з курцоў адгукнуўся на яго каманду салёным жартам: маляў, мы і жанок па чарзе павінны таптаць? Зубаскалы паднялі вясёлы рогат. Дзіўна, але павагай шэф не карыстаўся. Рабочыя з большай пашанай адносіліся да старшага прараба, чым да яго, начальніка. Сваім у дошку Міласлаўскі не прыкідваўся, па-панібрацку сябе з рабочымі не паводзіў, дык схільнасць здабыць не мог. Рабочыя з сімпатыяй адносіліся да Гудовіча, які дасканала ведаў сваю справу і даваў слушныя парады Міласлаўскаму.

Я зніякавеў, калі застаў у канторы гэтулькі пабочных сведак. Апасаючыся нядобрай пагалоскі, непрыкметна перадаў Міласлаўскаму тлумачальную і сціпла пачаў чакаць сваёй чаргі. Зацікаўлена ссунуўшы з ілба на пераносіцу акуляры, Міласлаўскі зазірнуў у паперыну. Неўзабаве грэбліва працягнуў запіску старшаму прарабу і вымавіў з непрыхаванай крыўдай:

— Марк Иосифович, поинтересуйтесь. Очевидно, очередная шпилька!

Занепакоіўся ён таму, што запіска была напісана на беларускай мове. Міласлаўскі хваравіта, зняважліва ўспрымаў і ацэньваў усё беларускае. У пашпарце, анкетах пісаў "украинец", хоць ім не быў. Хутка высветлілася, што роднай мовай не валодае ні прараб, ні майстра.

— Тлу-ма-чаль-на-я, — забэкаў ледзь не па складах Гудовіч, — па-руску "объяснительная".

І на гэтым яго веданне мовы скончылася.

— Можа, ты, малец, прачытаеш, што ён тут накрэмзаў? — звярнуўся ён да мяне. — Далей я не разбяру: почырк вельмі кепскі.

Пад задаволены рогат зубаскалаў я пачаў чытаць і тлумачыць.

— Ну, известно, это подколка! — каменціраваў узрушана Базыкава пасланне абураны шэф. — Вот лишу премиальных — тогда почувствует груз ответственности! Передай Михаилу, — звярнуўся ён паблажліва да мяне, — от меня "пламенный привет".

Яго крылаты выраз азначаў поўнае пазбаўлены прэміяльных. Пра гэта ведалі на ўчастку вежавых кранаў. Прысутныя зноў засмяяліся. Але — не так шчыра і весела, як перад гэтым.

— А можа, нявара, Ілья Лазаравіч? — паспрабаваў супакоіць яго Гудовіч. — Можа, у яго выпадкова атрымалася, не з-за злога намеру? Ён жа вучыцца ва універсітэце, на філфаку. Ды пазбаўляць прэміі поўнасцю — гэта ўжо завельмі. Фелікс Кучык, тоячы ўсмешку ў куточках вуснаў, таксама кінуў рэпліку ў абарону "зламысніка".

— Нет! — не згаджаўся на разумныя довады ўпарты Міласлаўскі. — Пишите, Марк Иосифович, ему все двадцать. А тебе советую, — строга звярнуўся ён да мяне, — больше самостоятельно никогда сменами не меняться. В случае необходимости — звони в контору. Сами вышлем замену.

Выклік у кантору абышоўся для мяне лёгкім перапудам. Як на крылах, ляцеў я на завод. Міхась, закончыўшы змену, адпачываў у цяньку. Яму дужа карцела даведацца, чым усё для нас з Надзяй скончылася. Пачуўшы "палымянае прывітанне", Міхась збянтэжыўся, пачырванеў. З разгубленай, ніякаватай усмешкай пацікавіўся, наколькі ж нас пазбавілі прэміяльных. Ні крошкі не здагадваючыся, што засмучу напарніка яшчэ больш, я прызнаўся, што сказаў мне Міласлаўскі: больш самому ні з кім не мяняцца! Міхась панурыўся, не развітваючыся, падаўся дахаты моўчкі.

Можа, яшчэ больш маркотна, чым яму, стала мне...

Алесь ДЗЕРАВЯНКА

# НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ



## Рознакаляровыя алоўкі

З вялікай радасцю сустрэлі нашы вяскоўцы вестку пра тое, што сюды прыязджае нарыхтоўваць дровы страявая рота салдат з Барысава. Гэта была падзея для забытай Богам і людзьмі вёскі Шчыток, а таксама і для суседніх вёсак. За вайну, зведаўшы ліха і пакут, тутэйшыя людзі паважалі вайскоўцаў — сваіх збавіцеляў, як нікога.

І вось па ўтравелай, зялёнай вуліцы загрукаталі "студабекеры" з адкіднымі драўлянымі лаўкамі. У кузавах сядзелі салдаты ў выцвілых гімнасцёрках, камячаных пагонах, з зорачкамі на пілотках. Салдаты паставілі палаткі ў гаю за вёскай па дарозе ў Папарнае. Абсталявалі пад навесам сталоўку побач з палявой кухняй і гаўптвахтай.

У чыстай палове недабудаванай нашым бацькам пяціценкі пасяліліся вадзіцелі, былыя франтавікі. З імі быў камандзір роты, старшы лейтэнант, чорнавалосы, у новенькай і адпрасаванай форме, зусім яшчэ малады чалавек. На грудзях маладога прыгажуна зіхацела залатая зорка Героя Савецкага Саюза, а яшчэ была пришыта жоўта-чырвоная стужка — знак пра раненне. Жывога героя вяскоўцы, а тым болей дзеці, бачылі ўпершыню, аднесліся да яго з вялікай павагай, цеплыней і сардэчнасцю. Прозвішча яго не памятаю, а імя — Рыгор, у нас называлі яго Грышам. Варта сказаць, што мая цётка Параска, якая пазней нарадзіла хлопчыка, па просьбе дачушак-падлётак, заказаных, як і старэйшыя, у Рыгора, назвала немаўля яго імем.

У бліжэйшых вёсках Грыша стаў славутасцю. Яго запрашалі на самыя розныя святы, вяселлі, гулянкі. Тым больш, што ён быў нястомны танцор і пракуда.

Я, хлапчук, асабліва ганарыўся сваім пастаяльцам. Шчыра любаваўся, як на ягонай шырокай скуранай папрузе вісеў каляны кабур з пісталетам "ТТ", што не раз вабіў мяне рыфлёнай чорнай рукаяткаю. Да ўсяго я выявіў, Грыша мае запасны, трафейны салдацкі наган і хавае яго за нашай скрыняй (так у нас называлі куфар). Выявіўшы гэта, я не толькі любаваўся зброяй, але і спрабаваў адцягнуць у ёй затвор, дастаць абойму, але нічога не выходзіла. Чужая зброя не слухалася мяне.

У скрыні маці захоўвала бялізну, верхняе адзенне, трубкі саматканага палатна, а таксама шпулькі нітак, і стужкі. Цяпер наверсе ўсяго, пад вечкам скрыні, ляжала камандзірская сумка з картай пад цэлулоідам. А ў прошвах яе выстраіўся радок рознакаляровых алоўкаў. Яны былі прыгожа і востра заточаныя. Алоўкі вабілі мяне, нібы магнітам. Дагэтуль я не ўяўляў, што ёсць такія рэчы, як рознакаляровыя алоўкі. Простым алоўкам я маляваў. Асабліва любіў маляваць вавёрак, дзятла і конскія галовы. Якія б гэтыя малюнкі былі прыгожыя, думалася мне, калі б выкарыстаць Грышавы алоўкі!

Аднойчы я не стрымаўся і адрэзаў з тупых канцоў канчуры і адрэзанымі канцамі засунуў алоўкі ў прошвы. Такім чынам яны былі нібы ранейшыя, нечапаныя. Праўда, спачатку я апасаўся: выявіцца мой учынак і раззлаваная маці добра пачастуе мяне трапкачом — ручніком з доўгімі, заплеценымі ў косы кутасамі. Але афіцэр не звярнуў увагі на раскіданыя лісты з альбома.

Асірацела, быццам замёрла вёска, калі глыбокай, дажджлівай восенню салдаты адправіліся ў сваю часць.

Пазней амаль штогод нарыхтоўваць драўніну, высякаць дзялянкі прыязджалі рабочыя леспрамгаса. Траплялiся сярод іх і цікавыя людзі, у тым ліку казачнікі і музыкі. Але такіх пастаяльцаў, як тыя салдаты, як Рыгор, ужо ніколі не было...

## Тлумачальная па-беларуску

Страла-дзюба вежавага крана, што ўзвышаецца побач з цэхам бетонных вырабаў, здавалася, плыла ў блакіце. Я стаяў у цяньку і чакаў змену. Купкі і чародкі рабочых цягнуліся да прахадной. У паветры кружыў надакучлівы тапалёвы пух, засціла̄ў белым покрывам заводскі двор. У цэху бетонных вырабаў з сапсаванага шланга сіпела пара. Чуўся вясёлы гоман, смех.

У цені ад партала крана сядзеў грузчык Юрась Івашкоў. Здалёк я згледзеў Надзю Людскую, але не адну, а на пару з Міхасём Базыкам, які выходзіў у трэцюю змену. Яны крочылі ледзь не ў абдымку і пра штосьці весела гутарылі. Прыгожая, загарэлая, у блакітнай у белы гарошак сукенцы, шыкоўных туфлях на высокіх абцасах, Надзя выглядала дужа прывабнай. Яна адчувала гэта і весела, гарэзліва смяялася. Рослы, дужы, у чырвонай клятчатай кашулі з закасанымі рукавамі, Міхась не зводзіў ззяючых, усмешлівых вачэй з маладой жанчыны. Вітаючыся, Надзя даўжэй звычайнага затрымала маю руку, гарэзліва, прыязна, зазіраючы ў вочы, папрасіла:

— Слухай, юнача, папрацуй сёння за мяне другую змену? Міхасю падмяніць мяне не выпадае.

Як мы і дамовіліся, на наступным тыдні я не выйшаў на работу — зрабіў сабе адгул. Пашкадаваў, што паленаваўся зазірнуць на завод, пераканацца, што атрымалася з заменай, ужо апынуўшыся ля прахадной. І занепакоіўся. Здалёк страла-дзюба павaрочваецца туды-сюды, напятыя стропы ўтрымліваюць пліту. На пагрузцы стаяў трайлер.

Адну за адной кран падымаў у паветры панелі, парыпваючы пад іх цяжарам, пераносіў на аўтамашыну, на якой завіхаліся два стомленыя грузчыкі. Загарэлы, мускулісты Юрась Івашкоў шчыраваў на штабелі, спрытна, адным узмахам, чапляў важкія крукі за металічныя петлі. Панелі мякка кладзіся на драўляныя пракладкі. Хто сядзеў у кабіне, я не бачыў. Палюбаваўся зладжанай працай першай змены і па стромкай лесвіцы палез у кабіну. Там сядзеў Міхась. Ён павітаўся са мной з нейкай разгубленай, крывой усмешкай, хітнуў галавой на паліцу за спіной, дзе ляжалі інструкцыя, дакументы:

— Зазірні ў вахценны журнал, пацікаўся, які запіс зрабіў начальнік участка вежавых кранаў Міласлаўскі. Учора раніцай на заводзе падняў такі вэрхал!..

Ад непрыемнай навіны пад сэрцам у мяне пахаладзела.

— А што здарылася? Хіба Надзя захварэла? Чаму ты за яе працуеш? — занепакоіўся я.

Міхась разгублена, адчуваючы і сваю віну, паведаміў:

— Надзю ў канцы тыдня тэрмінова выклікалі ў кантору і паслалі ў камандзіроўку ў Полацк, дзе захварэў кранаўшчык. Яна нікому не паведаміла, што вы памяняліся зменамі. Пакуль шукалі мяне, кран не працаваў, утварылася чарга аўтамашын...

На старонцы было гнеўна напісана, каб я, галоўны вінаўнік, з'явіўся на нараду, а Міхась каб напісаў тлумачальную. Горш нічога не бывае, як апраўдвацца перад начальствам. Я зразумеў, што Надзі, з-за якой загарэўся сырбор, нічога не будзе, а мяне абавязкова пазбавяць прэміяльных.

Наступнай раніцай я прыйшоў у кантору, дзе застаў купку рабочых, якіх адпраўлялі ў Паставы манціраваць на аб'екце вежавы кран. Апрача Міласлаўскага, які займаў месца ля акна, карпелі над дакументамі ўсмешлівы, вясёлы майстар Фелікс Гучык і друзлы старшы прараб Марк Гучык, з жаночым непакрытым раслiннасцю тварам, але развважлівы і спагадлівы. Міласлаўскі ў

## На мове музыкі

**На пачатку лістапада ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся канцэрт арганіста Ёгана Трумэра — прафесара Вышэйшай музычнай школы горада Грац (Аўстрыя). Праграма прадставіла творы кампазітараў розных стыляў і эпох (ад І. С. Баха да М. Рэгера). Асаблівую асалоду атрымалі слухачы ад выканання Ё. Трумэрам старажытнай музыкі.**

**Зразумела, што кожны выканаўца дае сваю асабістую трактоўку музычнаму твору, але аўстрыйскі арганіст, які спецыяльна даследуе праблему інтэрпрэтацыі старажытнай музыкі, дасканала ўвасобіў адметныя стылёвыя рысы эпохі ў музыцы. А напярэдадні канцэрта ён выказаў свае меркаванні наконт гэтага ў лекцыі, што адбылася ў Рэспубліканскім каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі. Называлася лекцыя "Прынцыпы выканання старажытнай музыкі І. С. Баха" і складалася з дзвюх частак: агульныя пытанні выканання старажытнай музыкі і музычная рыторыка.**

**Ёган Трумэр зрабіў невялікі экскурс у мінулае. Ён шчыра шкадаваў, што традыцыя выканання музыкі І. С. Баха (у тым выглядзе, у якім яна існавала ў час жыцця кампазітара) назаўсёды страчана для нас. Галоўная прычына, на думку лектара, — у неадназначнай, нават адмоўнай ацэнцы творчасці Баха яго суайчыннікамі, у асноўным з-за так званай "складанасці музычнай мовы", рэлігійнай сімвалічнасці. (Як вядома, Бах меў грунтоўную тэалагічную адукацыю, нават лепшую, чым у большасці яго сучаснікаў).**

**Пасля смерці кампазітара і яго сыноў-кампазітараў музыка Баха была забытая да 1829 года (калі ўпершыню прагучалі "Страсці паводле Матфея" пад кіраўніцтвам Ф. Мендэльсона). А яе выкананне і тады, і цяпер выклікае спрэчкі — наконт штрыхоў, тэмпаў, дынамікі ды іншых параметраў выразнасці музычнай мовы.**

**Шмат спецыфічных момантаў адзначыў лектар у другой частцы выступлення. Прынамсі, ён сфармуляваў пэўныя прынцыпы рыторыкі, якія адпавядаюць і прынцыпам музыкі. Цікава разважаў Ё. Трумэр пра сістэму лічбавай сімволікі Баха.**

**Слухачы нават задавалі пытанні наконт спрэчных праблем. І хаця размова вялася праз перакладчыка, усе адно аднаго разумелі як нельга лепш, бо мова ў музыкантаў адна: сама музыка.**

**Ірына СЫРЫЦА**

## "Марлен... Марлен..."



**Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску ажыццявіў прэм'еру спектакля "Марлен... Марлен...". Яго паставіў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Мікалай Пінігін паводле п'есы драматурга Дзмітрыя Мінчонка.**

**П'еса расказвае пра жыццё Марлен Дзітрых — эстраднай і кіназоркі. Гэтая знакамітая жанчына пражыла амаль цэлы век (нарадзілася ў 1901 годзе ў Германіі, памерла ў 1992 годзе ў Францыі). Яе імя стала сінонімам галівудскай рамантыкі, загадкавай жаночай прыгажосці, бездакорнага стылю і густу.**

**Аўтар п'есы Дзмітрый Мінчонак родам з Віцебска, цяпер жыве і працуе ў Маскве. Сваю п'есу, якая адзначана другой прэміяй на конкурсе "Чалавек і час", прысвяціў народнай артыстцы Беларусі Святлане Акружной. У спектаклі Святлана Акружная сыграла ролю мадам, у ролі яе служанкі — Галіна Букаціна.**

*На здымку: народная артыстка Беларусі Святлана АКРУЖНАЯ.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

ВЫСТАВЫ

# Бераг левы, бераг правы...

У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ мастацкай галерэі і ў Музеі сучаснага мастацтва Беларусі адбылася вялікая выстава пад назваю "Панарама мастацтваў", прысвечаная 60-годдзю саюза мастакоў. Складалася яна па самым простым прынцыпе — кожны сябра саюза меў права выставіць па адной рабоце. Запрашаліся ўсе без выключэння, нават студэнты БелАМ, як будучыя сябры саюза. Старшыня СМ Г. Буралкін выказаўся наконт канцэпцыі вельмі аднаназначна: маўляў, так будзе адразу бачны ўзровень мастакоў саюза, а значыцца, збольшага, і стан сённяшняга беларускага мастацтва...

Натуральна, што выстава атрымалася вельмі няроўная па прафесійным узроўні — сказалася адсутнасць крытэрыяў адбору. Яна "б'е" разнатэм'ем. Але пэўныя яўныя тэндэнцыі, на маю думку, характэрныя для розных відаў мастацтваў, можна вызначаць.

Жывапісу, як заўжды на рэспубліканскіх выставах, зашмат, там не дыхае аніякая прастора, яе проста няма — гэтак шчыльна павешаны палотны. Дзе-нідзе яны вісяць нават у два паверхі. Праходзь экспазіцыю хоць тры разы — яна застанецца неўспрымальнай, як адзіны маналітны кавалак непразрыстага шкла. Выратоўвае сітуацыю, здаецца мне, экспазіцыя, нефармальна складзеная групоўкай "Няміга" і мастакамі, блізкімі да яе па духу ці мастацкім бачанні. На другім паверсе галерэі, вакол выхаду з лесвіцы і паабапал яе размясцілася гэта яркая і жывая частка экспазіцыі. Не будзем тут разглядаць мастацкія вартасці твораў сяброў і прыхільнікаў суполкі "Няміга". Асабіста мне яны падабаюцца жывым і нестандартным падыходам да мастацтва і, галоўнае, заўсёднай вернасцю сябе (што, дарэчы, можна сказаць і пра другую суполку Саюза мастакоў — "Пагоню"). Тут і каляровыя, як агеньчыкі нацыянальных убораў, фантазіі М. Бушчыка ("Ядналы свет"), і манументальныя плоскасці С. Кірушчанкі ("Дакрананне"), і абстракцыі І. Кузняцовай (з цыкла "Варажба на кававай гушчы"), і геаметрычныя канфігурацыі С. Грыневіча ("Фазы месяца"), і сюррэалістычныя знаходкі Г. Скрыпнічэнкі ("Шчаслівы ты, ці не шчаслівы, будзі сыноў сваёй зямлі"), і гістарычныя калажы У. Тоўсціка ("Музыка"), і вядомая "Залатая рыбка" А. Ксяндзова... Шчыра кажучы, менавіта гэтая частка выставы глядзіцца як адзіны спеў, музыка, напісаная на адным дыханні, ці нават хутчэй — як адна мелодыя. Кожны твор гучыць асобнай нотай, хочацца хадзіць, з асалодаю перабіраючы іх, і не мае значэння, якую мелодыю ты пачуеш — птушыны спеў альбо гранне скрыпкі, галоўнае, мелодыя складзецца.

Падаецца мне, гэтая частка і прымае на сябе асноўную экспазіцыйную ўвагу — астатнія работы глядзяцца хутчэй дапаўненнем, хаця па колькасці яны пераўзыходзяць. Так, там вывешана многа дабротных і не вельмі пейзажаў, там ёсць партрэты, ёсць абстрактныя кампазіцыі, ёсць тэматычныя карціны на тэмы вайны і рэвалюцыі, абыгрываюцца сучасныя сацыяльныя матывы беднасці, рэлігійныя сюжэты, нават дзе-нідзе ўсплёсквающа сімвалы бел-чырвона-белага сцяга. Але пры ўважлівым разглядзе ўбачыш між імі адметныя работы цікавых і вядомых майстроў. Выдатны, у нацыянальных традыцыях партрэт Ю. Піскуна ("Той гук адзавецца"), алегорыя з пасечанымі сякерай васількамі і царкоўнымі прыладамі ў руцэ святара А. Пушкіна ("Страта"), амаль фатаграфічны, падобны на стары шляхетны фотаздымак партрэт Ларысы Геніюш А. Марачкіна ("Ваша Ларыса Геніюш"), не дужа выразная, але манументальная кампазіцыя В. Альшэўскага ("Прызма"), серабрысты пейзаж А. Бараноўскага ("Казка восені"), адметныя бранзлеты "Рамонкі" У. Сулкоўскага... Але, на жаль, самі па сабе яны губляюцца ў моры аднолькава роўных невыразных работ, яны не цягнуць усё ж на моцныя эмацыянальныя ўсплёскі, якія б трымалі экспазіцыю. Толькі дапамога "Нямігі", якая адразу пры знаёмстве з экспазіцыяй западае ў свядомасць, стварае пэўны эмацыянальны зарад, які дазваляе ўспрымаць экспазіцыю без энергетычных правалаў.

Скрозь па верхняй зале ўпрыгожыла жывапіс скульптура. Тэндэнцыі яе развіцця яўныя. На Беларусі зараз існуе і моцна развіваецца, нягледзячы на ўсе складанасці для скульптараў і манументалістаў, скульптура малых формаў. Манументальныя памеры сталі рэдкасцю. Але галоўнае, што паказала выстава, — скульптура ўсё ж выжывае як від мастацтва, малыя формы ўжо далі ледзьве не новы накірунак майстэрству беларускіх скульптараў. Іх творы можна патрымаць у руках, паставіць на стол, падараваць на свята — гэта стварае эфект прысутнасці гледача, такі недаступны пры назіранні манументаў. Скульптура становіцца бліжэй і больш зразумелай, калі наведвальнік мае магчымасць пагладзіць грыву каня ці ўпэўніцца пры блізкім разглядзе ў майстэрстве разца майстра. І пры гэтым твор не згубіць рысаў высокага мастацтва. І яшчэ адно — плённа працуюць скульптары ў правінцыях. Так, не проста прысутнічаюць, а гучаць на экспазіцыі работы Уладзіміра Панцялеева і Уладзіміра Церабуна з Гродна, Аляксандра Гвоздзікава, Івана Казака і Уладзіміра Голубева з Віцебска, Уладзіміра Ламейкі з Салігорска. Іх работы ні ў чым не саступаюць работам сталічных "хлопцаў".



Тэматыка прадстаўленых на выставе скульптур — самая разнастайная. Гэта і рэалістычна выпісаныя вобразы дзяўчат і вершнікаў (С. Гумілеўскі — "Коннік", С. Бандарэнка — "Вершніца", П. Лук — "Раніца"), і натуралістычныя партрэты (У. Лятун — партрэт Ю. Карачуна), і выдатныя алегорыі на царкоўныя тэмы (А. Батвіннёнак — "Арханrел Міхаіл"), і адмысловыя гумарыстычныя сцэнкі (А. Варвашэня — "Паўлік", Э. Астаф'еў — "Ілюзія"). Мне асабіста падабаюцца скульптурныя работы ў стылі "ню". Тут многія скульптары выяўляюць такую пластыку, нават грацыю матэрыялу, так таксоўна і прыгожа сплятаюць целы, "малююць" жаночыя фігуры, што эратызм становіцца гарманічна неабходнай часткай успрымання такіх работ (Л. Давідзенка — "Адам і Ева", А. Фінскі — "Старыя гульні", І. Казак — "Вяртанне блуднага сына"). Увогуле, падаецца, мастакі ўсё часцей звяртаюцца да аўтэнтычнага, скажам гэтак, вобраза жаночага цела, якім яно апявалася "мастакамі" каменнага веку, без грубай сексуальнасці, а з мяккай эратычнасцю жанчыны-маці (В. Антановіч — "Агoленая", А. Купрыянаў — "Сядзячая", А. Хізры — "Персяфона", іншыя).

Другая выразная тэндэнцыя бачна ў звароце да царкоўных, біблейскіх вобразаў (так, напрыклад, вырашаны праект помніка Еўфрасінні Полацкай Н. Апіёкі, дарэчы, адзіны манументальны праект на выставе). Гэта абумоўлена тым, што царква выступае зараз як найбольш плацежаздольны заказчык. Але яна не дае мастаку выйсці з кананічных рамак, прыглушаючы і яго палёт думак, і яго талент. Тыя ж, хто дазваляе сабе раскошу разважаць на біблейскія тэмы, хай нават проста для свайго задавальнення, ствараюць вобразы, падобныя на павергнутых паганскіх багоў (І. Чумакоў — "Усмешка Хрыста", Л. Яшэнка — "Малітва").

Падарожжа па ніжняй зале Нацыянальнай мастацкай галерэі прыводзіць да графікі. Традыцыйна беларуская графіка, як і манументальнае мастацтва, была цікавай і моцнай. Сколькі гадоў са сцен Беларускай акадэміі мастацтваў выходзілі немалыя выпускі мастакоў-графікаў, з якіх хоць нехта, але заставаўся ў актыўнай творчасці. На цяперашняй экспазіцыі, напрыклад, прадстаўлены ілюстрацыі да казкі "Золатавалоска" Ю. Алісевіча, зусім нядаўняга выпускніка БелАМ. Але, надзіва, графіка, як раздзел выставы, глядзіцца дужа невыразна, хаця ёсць тут работы такіх сталых майстроў, як У. Вішнеўскі, У. Славук, Л. Кальмаева, А. Кашкурэвіч, Г. Паплаўскі, М. Басалыга, А. Лось, Л. Марчанка, В. Паўлавец, Ю. Хілько ды іншыя. Але чаму ў выставе ўдзельнічалі далёка не ўсе графікі, дый увогуле далёка не ўсе мастакі розных накірункаў? Можа, іх работы здолелі б больш разнастаіць і ўпрыгожыць экспазіцыю?

Можна прасачыць яшчэ адну тэндэнцыю сённяшняй графікі. Многія з графікаў неяк незаўважна і натуральна перайшлі на акварэль, часам на алоўак, часам і на звычайны калаж альбо так званую змешаную тэхніку. У выніку экспазіцыя графікі ў нечым выглядае як працяг жывапіснай часткі, аднак успрымаецца з куды меншым поспехам. Цэльна, але не да такой ступені, каб трымаць усю экспазіцыю, глядзіцца толькі адзін "аддзел" графікі: графічныя фантазіі Ю. Якавенкі ("Швейцарскі келіх"), мяккія пластычныя формы жаночага цела А. Басалыгі, сіне-залатыя птушкі В. Шапялевіча, паганская знакавасць Ю. Татарнікава ("Кароткая размова з адлюстраваннем"), абстрактныя фантазіі А. Назаранкі ("Двое"), М. Аўчыннікава ("Апошняе зацьменне сонца ў канцы ІІ тысячагоддзя"), В. Шобы ("Вясновае падарожжа").



Дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва традыцыйна памесцілася ў маленькай зальцы галерэі. Экспазіцыя габеленшчыкаў і керамістаў заўжды выйгрышная. Цяпер, пасля першых выпускаў аддзялення мадэлявання БелАМ, мастакоў габелену і мадэлявання адзення пабольшала, і прыкметна. Можна гаварыць пра тое, што набірае моц, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, выраб выдатных тканых карцін. На жаль, на сённяшні дзень сітуацыя такая, што вядомыя майстры скарыстоўваюць матэрыялы, якія яны куплялі яшчэ ў савецкія часы па вельмі танных коштах, маладым жа прыходзіцца цяжэй. І калі ў якасці дыплома прадстаўляецца створаны



ў матэрыяле праект, а не проста маляванка, гэта можна лічыць дасягненнем. Многія сталыя габеленшчыцы ткуць пад заказ, некаторыя намагаюцца вывозіць свае работы за мяжу. Але і тое, што прадстаўлена на выставе, пакідае добрае ўражанне. На жаль, у экспазіцыі няма аніводнага прадстаўніка мастацкага мадэлявання. Можна адзначыць прыгожую шаўкаграфію (А. Свірыдэнка — "Востраў слёз", "Прысвячаецца маёй бабулі"), талеркі (С. Сенчанка), паліваныя керамічныя карціны і некаторыя керамічныя фантазійныя рэчы (Р. Кійко — "Натхненне", В. Іванькова — "Міфатворчасць"). Затое прадстаўленыя керамічныя сервізы — шмат разоў бачаныя, простыя і звычайныя.

Другая частка экспазіцыі, якая размясцілася ў Музеі сучаснага мастацтва і прадстаўляе творчасць мастакоў кіно, тэлебачання і тэатра, плакатыстаў, пакідае не лепшае ўражанне. Тут яўна адчуваецца выпадковасць у падборы плакатаў, і хаця мне па-сапраўднаму спадабаліся несіметрычныя плакатныя кампазіцыі В. Маршака, хацелася б пазнаёміцца з большым колам беларускіх плакатыстаў... Экспазіцыю ўпрыгожылі хіба сцэнічныя касцюмы аркестра народных інструментаў імя І. Жыновіча, створаныя А. Александровіч. Гэта фантазіі на тэмы шляхецкага і народнага касцюмаў з шоўку, вышыўкі і воўны. Праўда, яе касцюм стылізаваны і не блізкі да аўтэнтычнага і хацелася б пабачыць побач для параўнання і іншыя прыклады. Шкада, што іх няма, хоць бы таго ж Ю. Піскуна, які выставіўся толькі як мастак-жывапісец, а мог бы прадставіць і свае фальклорныя шытыя фантазіі.

Разнастаілі экспазіцыю і сцэнічныя праекты студэнтаў-выпускнікоў БелАМ, выхаванцаў Герлавана. І хоць дзе-нідзе яўна прачытваюцца перафразы ідэй сусветных майстроў, макеты ўяўляюць цікавасць — гэта ж заўтрашнія мастакі тэатра. А побач з імі — работы мэтраў: У. Чарнышова і Я. Ждана. Для зацікаўленага гледача будуць мець каштоўнасць і маляваныя сцэны-пастаноўкі да фільмаў (В. Казлова да тэлефільма "Рэвалюцыйны эцюд", Н. Наваенкі да кінафільма "Гульня ў хованкі", іншыя), маляваныя эскізы касцюмаў Л. Сідзельнікавай да спектакля "Чорны квадрат", маляваныя мульцікі (Т. Кубліцкай да мультфільма "Церам-Церамок" і Д. Сурыновіча да мульфільма "Меч"), і нават проста фантазіі мастакоў кіно і тэлебачання, свабодныя ад зададзенай тэмы. Побач з сучаснымі маладымі мастакамі — работы старэйшых: Марка Волахава, Валерыя Казлова, Уладзіміра Дзяменцьева, Барыса Кавецкага, Яўгена Ігнацьева, Яўгена Чамадурава. Гэта па сутнасці пачынальнікі і мастацтва кіно, і тэлебачання, і мастацтва тэатра. Але на выставе прадстаўлены далёка не поўны іх спіс. Таму няма сэнсу гаварыць аб запланаванай рэтраспекцыі. А канцэпцыя прадстаўленых работ мастакоў за апошнія некалькі год таксама не вытрымліваецца.

Хочацца спадзявацца, што пытанні, якія датычаць узроўню развіцця сучаснага беларускага мастацтва і ўмоў, у якіх яно існуе, будуць абмеркаваны на з'ездзе Саюза мастакоў.

**Н. ЖОГЛА**

*На здымках: "Зіма ў Драздах" У. МАСЛЕНІКАВА; сцэнічныя касцюмы А. АЛЕКСАНДРОВІЧ аркестра народных інструментаў; "Архангел Міхаіл" А. БАТВІНЁНКА.*

*Фота К. ДРОБАВА*

# "Я" пра нас і пра сябе

## З 15 ПА 20 КАСТРЫЧНІКА МІНСК ПРЫМАЎ III МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МОНАСПЕКТАКЛЯЎ "Я"

...Што да фестывальных адметнасцяў, дык перад самым адкрыццём у паўнюткай зале купалаўская актрыса Зінаіда Зубкова адметна шукала расійскую ўдзельніцу, былую аднакурсніцу па інстытуце: "Ніна Добрыкава, адгукніся, дзе ты сядзіш, Ніна Добрыкава? Усіх перапрашаю, мы з ёю не бачыліся сорак гадоў..." Зала ўражана заапладзіравала.

Безумоўнаю адметнасцю сталася само адкрыццё фестывалю (на малой сцэне купалаўскага тэатра) у рэжысуры Генадзя Давыдзькі, — журы шчыра шкадавала, што гэты невялічкі спектакль з шэкспіраўскім матывам сустрэчы трох варажбітак і маўклівай значнасцю, з якой яны ўзіраліся ў залу, звястуючы лёс фестывальных прызоў, няможна далучыць да конкурсу.

Адкрыццё, дарэчы, было адзіным фестывальным паказам, на які журы не спазнілася. На кожны наступны паказ яно (таму што арганізавана харчавалася пад Мінскам і залежала ад дажджу ды коўзкай дарогі) пазнілася адметна і паслядоўна. Але гэтая акалічнасць ніяк не паўплывала на якасць сцэнічных прапаноў ды напал абмеркаванняў. У выніку гран-пры аддалі Манік (або Моніцы) Шнідэр, акрабатцы, балерыне і міму, чый камічны талент, як высветліў фестываль, пазначаны адметным драматызмам у спектаклі "Паяча", монамімадраме. А спектакль Шнідэр, які паміж іншым даводзіў і важкасць тэхнічнай тэатральнай аснады, выявіў, што бальшыня беларускіх спектакляў роблена, так бы мовіць, кухоннымі сродкамі. Дый не адных беларускіх. Думітру Фусу з Малдовы для свайго спектакля "Пра чалавека і чалавецтва" (літаратурная падстава — падборка з аўтараў класічных і сучасных) свае тэхнічныя сродкі здабываў тамсама. На кухні. Крэслы ды кароны з рэквізіту Купалаўскага тэатра дадалі спектаклю некалькі патрэбных акцэнтаў. Майстэрства і асабліва голас (паводле нашага прафесара Алы Шагідзевіч, Думітру валодае ім бездакорна) забяспечылі Фусу першы прыз нашага фестывалю і трывалыя сімпатыі з боку тэатральных прафесійнікаў.

Бірутэ Марцінкявічутэ (Літоўскі нацыянальны тэатр, Вільня) дастала другі фестывальны прыз адметнай — вытанчанай, эстэцкай — інтэрпрэтацыяй "Шчаслівых дзён" С. Бекета. Яе шчаслівыя — фестывальныя — дні струменілі, як ... "Словы ў пяску", — так называўся спектакль Бірутэ. Яе гнуткая балетная фігурка, закутая ў адмысловы крыналін, — пляцоўку для невялікага "тэатра прадметаў" у межах драматычнага спектакля, — зрабілася ўвасабленнем крохкасці і надзвычайнага трывання. Трывання паўсядзённасці, зададзенасці, шараговасці. Бо ў іх адвечных надакучлівых цыклах закладзены не адно пакуты, мроі ды марнасці, але і нейкі асаблівы, шчымліва-празрысты, балюча-зямны сэнс. Яго адчула Бірутэ Марцінкявічутэ, і выявіла, і прасветліла для гледачоў.

...А паэтычнаму тэатру Марыны Цвятаевай, які да сёння не мае сваёй сцэнічнай гісторыі, выпала ўзбагаціцца (дзякуй нашаму фестывалю!) адразу на дзве пастаноўкі.

Цвятаеўскага "Фенікса" ("Канец Казановы") выбітна прачытала расіянка Ніка Касянкова, — да такой ступені выбітна, што адметнасці яе голасу не паддаюцца апісанню. Спектаклем аднаго голасу можна было б назваць гукавы шэраг "Фенікса". Усё астатняе, а менавіта — шамаценне паперкамі, якія ўяўлялі сабою лісты каханак Казановы, спальванне іх на рознакаліберных свечках, хаджэнне чытальніцы па сцэне й парыпванне яе маснічынамі, уздзяванне парыкоў і да т.п. настойліва не спрыяла сцэнічнай спробе дайсці да кшталту спектакля аднаго акцёра.

Эмілія Пранскутэ (цяпер — актрыса Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Беларусі) агорвала цвятаеўскага "Пацукалова". Пры гэтым магчымасці й здольнасці самой актрысы пераважылі сціплую рэжысуру спектакля, які, трэба заўважыць, ад пачатку пераследавалі складанасці (не было пляцоўкі для рэпетыцый, касцюм актрысы з'явіўся толькі напярэдадні фестывальнага паказу і да т.п). Аднак яму пашэнціла на трэці фестывальны прыз. І журы, а я магу гэта засведчыць, бо была ў ягоным складзе, галасавала аднадушна.

Вялікаю спакусаю было б напісаць гэтыя фестывальныя нататкі ад імя чынніка журы, дзе зусім не ціхамірна, хоць і вельмі добразычліва суседзіліся прадстаўнікі Швейцарыі, Амерыкі, Германіі, Расіі ды Беларусі. Антаніна Міхальцова, генеральны сакратар Міжнароднага інстытута тэатра, ганараваная хроснаю маці фестывалю, патрапіла сабраць прафесійнікаў абазнаных, дасведчаных ды па-свойму апантаных рэдкім відам тэатральнай творчасці, які са спектакля ў спектакль экзаменуе акцёра. Не дае схавацца за партнёра, за тэкст, за рэжысёрскі прыём. Але выяўляе індывідуальнасць, вымагае акцёрскае асобы ў поўным сэнсе гэтага слова.

Фестывальны свет прадстаўлялі якраз асобы. І калі іхнія спектаклі, паводле чынніка журы Валерыя Хазанава, дырэктара Расійскага фестывалю монаспектакляў, не былі адзначаны, гэта не значыць, што яны не былі заўважаны. Было над чым паспрачацца пасля спектакля "Апакаліпсіс" Іялланты Казак з Германіі, — спектакля на тэксты ды сюжэты аўтэнтыкаў першай нямецкай паэткі Харцвіты з Гандэрхайма. Абсалютна статычная постаць цэнтральнага святога або пакутніка раптоўна ператваралася ў скурчаную фігурку д'ябла-спакусніка, шэраг іншых святых ды пакутнікаў паўставаў намаганнямі адной Іялланты. На спектакль адметна спрацавалі і сутарэнні Чырвонага касцёла (пляцоўка тэатра "Зніч") ды хор нашых вернікаў, што спяваў якраз падчас прадстаўлення. Лаціна тэкстаў Харцвіты натуральна спалучалася з беларускімі тэкстамі ксяндза. Спектакль яднаўся з касцельнай службай, тэатр яднаўся з храмам Божым. Сцэнічнае дзеянне, аднак, стаяла непарушна. І сама Харцвіта ўжо не магла яму дапамагчы...

Спектакль Галіны Бальчэўскай "Дагарэла свечачка" асабліва ўразіў чынніцу журы з Амерыкі, — ваенныя ды чарнобыльскія праблемы яна ўспрыняла шчыра і да самага сэрца. Але праблемы п'есы, на жаль, паўсталі праблемамі самой драматургіі і да сэрца якраз не дайшлі. Шмат якія дзеянні гераіні шчыра перажываліся... языком. У тэксце. Акцёрскія магчымасці яўна пераважылі ўвасоблены матэрыял.

Самой гісторыяй было патыхнула ад спектакля Віктара Сінайскага "Гісторыя кахання": эстэтыка, акцёрскія прыёмы ды спосаб існавання выдавалі цэлую мастацкую эпоху — шасцідзесятыя гады. Найпрыкрым сталася спалучэнне тэксту Антуана дэ Сент-Экзюперы з аўтарскімі вершамі Віктара Сінайскага. Усцешным — добразычлівае рэагаванне фестывальнае публікі на акцёрскія анахранізмы.

Ведаю, як любіць пажартаваць з сябе Фёдар Іванавіч Шмакаў, знаны артыст Коласавага тэатра з Віцебска. Маўляў, якія мае гады, восемдзесят нейкіх... Спектакль ягоны называўся "Лебядзіны спеў" і меў на ўвазе цэлую алегорыю — як з Антона Паўлавіча Чэхава, так і з уласна Шмакаўскага жыцця ў мастацтве. Але тое, што мы называем "старой школай", вернасцю класічным тэатральным традыцыям і чаму цаны яшчэ не ўсведамляем, Шмакаўскі спектакль выявіў. Балазе, знайшоўся Уладзімір Матросаў ды спраўдзіў акцёрскае жаданне (і схаваўся за вызначэннем "рэжысёр", бо непрыбраная ім, мастаком, сцэна ды дакучлівая, навязлівая фанаграма звыкламу Матросаўскаму ўзроўню не адпавядалі).

Адданасць беларускаму прыгожаму пісьменству і сёлета вылучыла творчае "я" Галіны Дзягілевай, кіраўніка Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч". Па шчырасці, без прысутнасці Галіны цяжка цяпер уявіць не толькі фестывалю монаспектакляў, але і сам Чырвоны касцёл, дзе з ласкі ксяндза Завальнюка атайбаваўся Галінін тэатр. Зрэшты, пра злучэнне тэатра й храма я ўжо памінала...

За аўтарскі тэатр і спавядальнасць была адзначана расіянка Ніна Добрыкава, — сваю "Бабу на пераправе" яна змусіла размаўляць на сапраўднай беларускай трасянцы, на мове, якая дала нечаканы эфект абсалютнай сапраўднасці, існасці дзеянняў жанчыны, што сядзіць на пароме ды размаўляе з гарадскімі, — тыя прыехалі дапамагаць вясковым. Прапануе бульбай закусіць, соль шукае, тэлевізійныя перадачы пераказвае. Спектакль Ніна Добрыкава прыдумала сама — ад першай да апошняй рэплікі і яе інтанацыйнай афарбоўкі. Толькі фінал, трагічна-недарэчны, падаўся штучным: гераіня Добрыкавай, ратуючы апівохаў, выпадкова гіне ў вадзе...

Асабістае абаянне Ласмы Кугрэны з Рыгі, яе вытанчаны, празрысты артыстызм, натуральнасць, пяшчотнасць, жаноцкасць (без саладжавасці, без какетавання, без паддобрывання да публікі) высока паставілі і спектакль "Маленькая Бойе". Латышскі тэкст



гучаў для беларускіх вушэй музыкай, — а самую музыку, акампануючы Ласме на фартэпіяна, увасабляў кампазітар Валдзіс Зілверыс. Артыстычны, усмешлівы, надзвычай чуйны да партнёркі. Так, што не парушыў, хіба толькі падкрэсліў адзіноту яе гераіні на сцэнічнай пляцоўцы. Менавіта таму прысутнасць Валдзіса не выклікала сумневу ў прыналежнасці спектакля Ласмы да фестывалю монаспектакляў.

Фестываль монаспектакляў, які трэці раз вяртаўся ў Мінск, яшчэ ўскладніць жыццё тэатральным аналітыкам, вымагаючы асэнсавання й разваг, за якімі паўстануць высновы. Першая з іх просіцца ўжо: "Я", паслядоўна настаўляючы сцэнічныя люстэркі, каторы ўжо раз змушае звяртацца да сябе, як да тэатральнага з'явішча. Яно ўзбуйняе значнае, але шараговае змушае мізарнець. Яно змушае ацэньваць сябе, звяртаючыся да нас.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымках: Бірутэ МАРЦІНКЯВІЧУТЭ ў спектаклі "Словы ў пяску".*

МУЗЫКА

# Спявае "Кантылена"

"Кантылена" — невыпадкова так называецца хор 2-й мінскай дзіцячай музычнай школы. Гэта ў перакладзе з лацінскай азначае спевы альбо меладычнасць выканання пеўчага голасу. І ўсе, хто прыйшоў на канцэрт "Кантылены" ў камерную залу філармоніі, пераканаліся ў палётнасці гучання, лёгкасці, пявучасці выканання. Усё гэта — плён працы мастацкага кіраўніка хору Валерыя Садовіна. Галоўнае, лічыць ён, у дзіцячым хоры не даваць фарсіраваны гук, працаваць над развіццём гарманічнага слыху. Да гэтай парады прафесійніка, які ўсё жыццё, больш за 40 гадоў, працуе з дзіцячымі хорамі, нельга не прыслухацца.

Са сцэны гучалі Імша Сі-бемоль мажор Ё. Гайдна, "Аве Марыя" К. Сен-Санса, "Калыханка" Р. Шумана, "Салавейка" П. Чайкоўскага, "Багародзіца, Дзева, Радуйся" С. Рахманінава.

А ўсяго ў рэпертуары калектыву больш за сто твораў рускіх, беларускіх, заходнееўрапейскіх аўтараў, багата каталіцкай, праваслаўнай музыкі. "Кантылена" — лаўрэат конкурсу "Сузор'е-97", Міжнароднага форуму моладзі Беларусі. Хор нярэдка выступае ў філармоніі, у касцёле святых Алены і Сымона, па Беларускім радыё. Былі канцэрты ў Германіі, хутка зноў паездка ў гэтую краіну, дзе ў выкананні "Кантылены" каталіцкая і праваслаўная музыка будзе гучаць у касцёлах.

У канцэртным складзе хору каля шасцідзесяці юных спевакоў ад сямі да семнаццаці гадоў. Гэта пераважна дзяўчынкі. Усе яны ўлюбёныя ў спевы. Некаторыя ўдзельнікі калектыву, пасталеўшы, не змаглі пакінуць хор, вырашылі прысвяціць сваё жыццё мастацтву, паступілі вучыцца на аддзяленне харавога дырыжыравання Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі.

Да сваіх гадаванцаў В. Садовін ставіцца шчыра, ласкава. Не дзіва, што дзеці спяваюць мякка, лёгка, разняволена. Вось чаму выкананне хорам праграмы і на апошнім канцэрце ў філармоніі нікога не пакінула абыякавым.

**Вера КРОЗ**

## Іграе Барыс Бергер



**Прозвішча Бергераў вядомае ў беларускім музычным мастацтве. Заснавальнік дынастыі Міхаіл Аркадзьевіч — з кагорты стваральнікаў беларускай фартэпіяннай школы, заслужаны артыст рэспублікі, прафесар, рэктар, потым загадчык фартэпіяннай кафедры нашай кансерваторыі. Ягоная жонка Нэлі Іосіфаўна выкладала фартэпіяна ў музычнай школе. Прафесію бацькоў "трымае" і сын Барыс, таксама піяніст, вучань Ірыны Цвятаевай, Рыгора Шаршэўскага. Сёння яму 50, з іх 23 гады выкладае фартэпіяна ў Акадэміі музыкі, шмат канцэртуе, запісваецца на радыё, тэлебачанні.**

**Сольны канцэрт дацэнта Барыса Бергера, цалкам складзены з твораў беларускіх аўтараў, адбыўся ў камернай зале сталічнай філармоніі. Праграма пачалася з музыкі Віктара Войціка ("Фанфары", "Акустычная фантазія", "Элегія"). Уразілі шэсць прэлюдый Анатоля Багатырова. Кампазітар задумаў напісаць іх 24, пакуль што гатова 22, праца над цыклам працягваецца. А Б. Бергеру зноў давядзецца выконваць фартэпіянную музыку А. Багатырова на радзіме кампазітара ў Віцебску, дзе адбудзецца фестываль імя І. Салярцінскага.**

**Сярод аўтараў, творы якіх выконваў піяніст на сваім сольным канцэрце, — Дзмітрый Смольскі. Папулярнае Скерца з санаты N 2 выявіла непаўторны кампазітарскі почырк. У рэпертуары многіх беларускіх піяністаў ёсць "Танец-скерца" Генрыха Вагнера, але Б. Бергер прапанаваў яго адметную інтэрпрэтацыю. У фартэпіянных творах Людмілы Шлег "Узнясенне Гасподне", "Вялікдзень" выканаўца выявіў самабытныя фарбы гучання. Разнастайнасцю вобразаў вабілі цудоўныя п'есы Валерыя Карэтнікава, "Тэма з варыяцыямі" Мікалая Літвіна, "Балада" Уладзіміра Прохарава. Саната N 3 Веранікі Швец з Ліды навеяна вобразам барацьбы ўсіх святых з сіламі пекла. На думку Б. Бергера, гэты аўтар — новая ўзыходзячая зорка беларускай музыкі. І піяніст збіраецца даць канцэрт з яе твораў.**

**Фантазія на тэмы аперэты Алега Чыркуна "Калі заспявае певень" была выканана ў апрацоўцы самага выканаўцы — у стылі шлягера, яна прагучала прыгожа, сучасна. Таксама ў транскрыпцыі Барыса Бергера прагучалі "Вальс" і "Танец" з оперы "Дзікае паляванне караля Стаха" зайчасна загінуўшага Уладзіміра Солтана. Музыка гэтая добра вядомая слухачам — опера ўжо шмат гадоў ідзе на мінскай сцэне. Пазнаёмілася публіка і з парафразам на тэмы яшчэ адной оперы Уладзіміра Солтана "Пані Ядвіга", якая чакае сваёй чаргі на пастаноўку. Яркі каларытны твор таксама заўчасна памерлага кампазітара Аляксандра Друкта інвенцыя "Sonore" быў выкананы ўсхвалявана, з адчуваннем глыбіні аўтарскай палітры.**

**Але, на мой погляд, самую вялікую частку душы, сэрца таленту піяніст аддаў выкананню твораў свайго бацькі — "Баркароле", "Эцюду ў форме вальса", якія прагучалі пявуча, эмацыянальна. Аказалася, што, акрамя канцэртнай, педагагічнай дзейнасці, Міхаіл Аркадзьевіч Бергер займаўся кампазіцыяй — пісаў творы для фартэпіяна, голасу, скрыпкі, віяланчэлі.**

**У выканаўчым почырку Барыса Бергера слухачы адзначылі рысы індывідуальнасці, дакладнасці апрацоўкі дэталяў, своеасаблівую эмацыянальнасць. Яго доўга не адпускалі са сцэны. А ён не мог не расхвалявацца — у зале ж былі аўтары выконваемых твораў, а таксама вядомыя артысты, музыканты, аматары фартэпіяннага мастацтва...**

**Вера КРОЗ**

ПОШТА

# Пра гэта таксама напішуць...

Другога лістапада ў беларускі калегіум з лекцыяй "Мініяцюра ў беларускай літаратуры" завітаў Адам Глобус.

Матэрыял быў пададзены як звычайная акадэмічная лекцыя: спадар Глобус чытаў складзены напярэдадні тэкст (чытаць, дык чытаць). Напісанае, на шчасце, было невялікім па памеры і слухалася як звычайнае эсэ. Напісана яно вельмі па-мастацку. Праўда, абыдзіся тут без пэўнай мудрагелістасці, аўдыторыя, пэўна, заснула б.

"Вялікае збіраецца па каліву", вось чаму сп. Глобус прапанаваў такую "мініяцюрную" лекцыю. Былі пералічаны квантэмы, хоку, рубаі, грыгеры, карацелькі з адпаведнымі прыкладамі па-беларуску, умела ўплеценыя ў кантэкст сусветнай літаратуры. Пэўна, разлічваючы на досыць адукаваную аўдыторыю, спадар не стамляў слухачоў падрабязнымі характарыстыкамі кожнай з формаў.

Пасля былі пытанні. Аўдыторыя трапілася не вельмі актыўная: пыталіся зрэдку, відаць, каб падтрымаць кволае цяпельца дыялога, адчуваючы, што лекцыя вельмі хутка скончыцца (але ж, калі прыйшлі, трэба трохі і пасядзець). Жаночую палову цікавілі адносіны паважанага сп. Глобуса да жанчын (прашу прабачэння за таўталогію). Адказ, спадзяюся, відавочны, але што да літаратуры, то тут Уладзімір Вячаслававіч аддае перавагу паэзіі мужчынскай. (Дарэчы, я сама, на свой сорам, упершыню даведалася пра падзел сучаснай беларускай паэзіі на мужчынскую і жаночую колькі гадоў таму на выпускных экзаменах па беларускай літаратуры.) Мужчынскую палову цікавіла больш істотнае. Да прыкладу, ці не збіраецца спадар выдаць нешта накшталт расійскага "падручніка" па айчыннай літаратуры, дзе ўся школьная праграма — пад адной вокладкай. "Вайна і мір" — некалькі дзесяткаў старонак. Усяго. Адказ быў станоўчы: збіраецца, але не так "халтурна", як расійцы, не студэнты журфака будуць "сціскаць" творы, а сапраўдныя літаратары, пісьменнікі — словам, людзі дасведчаныя.

Прымаючы тое, што нечытачоў больш, чым чытачоў, а апошніх больш, чым навукоўцаў, дазволю сабе не пагадзіцца.

Рынак — грошы, а літаратура — слова. Ці не згубім мы літаратуру, пазбаўляючы яе слова, ці не ператворым яе ў суцэльную схему займальнага сюжэта? Сёння задаволім патрэбы школьнікаў, заўтра, дасць бог, студэнтаў, паслязаўтра... Не варта аб сумным. А, напрыклад, калі справа дойдзе да "Дзвюх душ" М. Гарэцкага, гэта як скараціць? Пакінуць адно "Душа дваілася"?

Сп. Глобус у сваёй лекцыі прыводзіў сумна вядомыя факты з гісторыі квантэмы на Беларусі. У прыватнасці, чаму яе не прымалі і забаранялі ў савецкія часы. Адбывалася ўсё вельмі проста, па прынцыпе спалучаных сасудаў: у расійцаў няма — і ў нас хай не будзе. Што да сённяшняй выдавецкай справы, мне здаецца, спрацоўвае той самы прынцып. Таксама было слушна заўважана Уладзімірам Вячаслававічам, што гісторыя наша падзяляецца ўласна на гісторыю культуры і гісторыю бескультур'я. Менавіта апошнюю, так бы мовіць, нам прапаноўваюць, пачынаючы са школы. І ці не спрычыніцца менавіта да такой гісторыі сам спадар?

Далей гаворка ішла пра малыя і вялікія жанры. Лектарам было выказана, на маю думку, неблагое меркаванне: лёгка, напрыклад, складаецца раман на французскай мове, навела — на італьянскай, беларуская мова і, найперш, яе носьбіты самі па сабе не прадугледжваюць стварэння вялікіх жанраў. Тут таксама дазволю сабе зрабіць заўвагі.

Не беларус і беларуская мова няздольныя да напісання вялікіх жанраў, а той бруд, які сёння завём жыццём. Аналізуючы, напрыклад, пасляваенную літаратуру (пасля кожнай вайны), можна заўважыць перавагу жанраў малых (вершы, балады, калі-нікалі паэмы). Чалавек-творца, безумоўна, не пісаць не можа, вось і прыходзіцца, ледзьве дыхаючы, сцвярджаць, што ён яшчэ жывы як паэт: з выкідам чарговай порцыі адрэналіну — новы такі ж адрэналінавы верш. Сёння ўсе мы раздушаны навалаю войнаў яўных і схаваных (дарэчы, у нас саміх). З гэтай нагоды нагадаю блакадны Ленінград, калі людскія сэрцы біліся ва унісон з метраномам...

Вайна 1812 года ўпершыню была ўвасоблена ў эпапею толькі Львом Талстым. Прайшлі дзесяцігоддзі, пакуль прачыталі пра чалавечы боль — спадчыну 1941—45 гг. — у вялікім жанры (Васіль Быкаў). Прыйдзе час, мы будзем мець вялікія (і ў прамым сэнсе) творы пра Афганістан, Чарнобыль. Толькі не зараз, калі ўспрымаецца, бадай, адзіны рытм таго ж метранома:

***Писать о том?***
***Попробуй напиши,***
***когда душе недостает души...***

Пакуль мы асэнсоўваем гарызантальна: сп. Алексіевіч — "Цынкавыя хлопчыкі", сп. Няўзораў — "Чысцілішча". Пакуль вельмі баліць, увысь ніяк не памкнеш. І зусім не думаецца пра вялікае і трэба агледзецца і знайсці новы прытулак для ўласнай скуры.

Сёння мы існуём стаіўшыся, падсвядома глытаючы гукі гэтага д'ябальскага інструмента: ад ранку — да вечара, ад панядзелка — да нядзелі, ад зарплаты — да зарплаты... Пра гэта таксама напішуць, але тыя, каму пашчасціць, учапіўшыся за рызманы беларускага месіі, паблукаць гадоў сорак па пустэльні і, нарэшце, пазбавіцца і ад гукаў метранома, і ад гімнаў ды маршаў.

Спадзяюся, спадар Глобус прабачыць мне запознены заўвагі, зразумее, што патрэбны быў нейкі час, каб разабрацца найперш у сабе і ці пагадзіцца з усім, што сказаў вялікі чалавек, ці ўсё ж паспрабаваць адстаяць сваё меркаванне.

**Лідзія КУРАТАВА**

*пас. Дружны, Пухавіцкі раён*

# Сто вузлоў памяці...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

на Беларусі, што важней: выцягваць літаральна з-пад руін заняпалую эканоміку, ратаваць ад далейшага масавага збяднення людзей — альбо весці барацьбу з беларускім нацыяналізмам? — і вы абавязкова пачуеце: "Важней знішчыць і выкараніць нацыяналізм! Гэтак наша самая першая і галоўная задача!" Гэтак было ўсе пасляваенныя гады. І таму мы нічога не маглі ведаць і чуць пра беларускую эмігранцкую літаратуру.

А яна існавала, і даволі значная, асабліва ў жанрах паэзіі і эсэістыкі. Цяпер яна, хоць яшчэ далёка не ўся, прыйшла да нас, уз'ядналася — лёгка і натуральна — з мацерыком беларускага літаратурнага слова. І дарэчы, завастрыла праблему ўсё таго ж беларускага "нацыяналізму", дала гэтай тэме новы імпульс. Змястоўна яна амаль цалкам засяроджана на тэме нацыянальнага адраджэння і беларускай дзяржаўнай незалежнасці, нацыянальнай гісторыі і беларускай прыроды, і, вядома ж, — глыбокай настальгіі па Радзіме. Мова эмігранцкай літаратуры, хоць і крыху архаічная, але — сапраўды беларуская. Яна не падпрапела ад русіфікацыі, захавала ўсе нацыянальныя асаблівасці сінтаксісу, многія пласты лексікі, сапраўды беларускае гучанне слова. Думаю, гэта станоўча адаб'ецца на развіцці сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Найбольш буйное імя ў паэзіі — Наталля Арсеннева (па паходжанні руская, далёкая сваячка сям'і Лермантавых), ва ўзросце 93 гадоў яна памерла летам мінулага года ў Амерыцы. Несумненна цікавыя паэты-лірыкі Алесь Салавей, Рыгор Крушына, Міхась Кавыль, Масей Сяднёў. Трох першых у жывых ужо няма... Проза эмігранцкая мне падаецца слабой, больш-менш цягне на прафесійнага белетрыста Кастусь Акула. Таленавітым эсэістам быў Юрка Віцьбіч.

**— Наколькі руская літаратурная сітуацыя апошніх гадоў адрозніваецца ад беларускай?**

— Настолькі, наколькі само жыццё і грамадска-літаратурная сітуацыя ў Расіі адрозніваецца ад беларускай. А адрозненні вялікія, пры ўсім тым, што шмат і агульнага: імкненне ажыццявіць неабходныя рэформы, дэмакратызаваць грамадства, зрабіць яго прававым (у нас яно пакуль што зусім бяспраўнае), разняволіць душу (ад хлусні і страху) і творчыя сілы чалавека... Мы, цяпер, відаць, больш, чым нашы рускія калегі, засяроджаны на вострых палітычных пытаннях. Перш за ўсё, на захаванні суверэнітэту і незалежнасці сваёй дзяржавы. Рэч не жартоўная. Некалькі гадоў таму ўсе нацыянальна свядомыя беларусы, у першую чаргу, натуральна, пісьменнікі, адчулі, убачылі, зразумелі: настаў час зрабіць гістарычны явай адвечную мару народа — дамагчыся свабоды, незалежнасці, права самім вырашаць свой лёс... Гэта настолькі ўскалыхнула нашы душы, што ўсё астатняе — звычайна вельмі істотнае для літаратуры, для пісьменніка — адышло на другі план. Баюся, што грамадзянам Расіі, рускім пісьменнікам не зразумець гэтага нашага звышхвалявання і звышперажывання, дакладней — звышзаклапочанасці нашай. Калі б разумелі — то падтрымалі б хоць адным словам. На жаль, ні разумення, ні падтрымкі няма. Не адчуваем і не бачым. Наадварот, многія, шчыра радуючыся, вітаюць намаганні беларускіх манкуртаў, адшчапенцаў і халуёў ліквідаваць дзяржаўны суверэнітэт і незалежнасць Рэспублікі Беларусь. Прыязджаюць у Мінск, каб паціснуць здраднікам-халуям руку. Ледзь не цалуюць яе. І не гідка, і не сорамна. Дзіўна! Але гэта тэма для асобнай вялікай гаворкі.

Што датычыць літаратурнага жыцця... Агульнага, канечне, шмат. Усё яшчэ масава ствараецца і валам ідзе агідна пошлая літаратурная пісаніна, якая разбэшчвае чытачоў, — між іншым, як частка рускай, паколькі ніводны з гэтых амаль парнаграфічных раманаў не напісаны і не выдадзены на беларускай. Ведаю, што гэтага дабра хапае і ў Расіі. Але расіянам мы моцна зайздросцім у іншым. У Расіі не толькі дзяржаўныя, а і мноства прыватных выдавецтваў выпускаюць цудоўную, выдатную літаратуру для чытачоў культурных, разумных, інтэлектуальных; класіку, работы філосафаў, гісторыкаў, культуролагаў, этнографаў, увасхрашаюць несправядліва забытыя, дастойныя памяці і шанавання імёны; як і раней, выдаюць знакамітых пісьменнікаў і мысліцеляў усяго свету. Яшчэ чатыры гады таму і мы былі поўныя натхнёнага жадання забяспечваць нашага чытача такімі ж кнігамі на яго роднай мове. Цяпер гэта распрацаваная культурная праграма, якая паспяхова пачала ажыццяўляцца, паўсюдна і бязлітасна згортваецца. Не сама па сабе, вядома. Таму палітычнаму рэжыму, які ўсталяваўся ў краіне, ні разумная, сур'ёзная, вялікая літаратура, ні разумны, сур'ёзны, развакльлівы чытач — непатрэбны. Дастаткова коміксаў. Дастаткова таннай эстрады. А чытачам дастаткова тэлевізара: усё, што ім патрэбна, — на яго экране. Штодня. І з раніцы да ночы.

**— Ну а над чым вы, Ніл Сымонавіч, сёння працуеце і на якога чытача спадзяецеся?**

— У апошнія гады пішу пераважна публіцыстыку — на жаль, у вершах таксама. Па прычынах, пра якія ўжо гаварыў: "Не да каляды, калі поўна хата бяды" (у прымаўцы слова каляда ўжыта ў значэнні песня, калядная песня). Вось выдаў год таму кнігу "Любоў прасветлая" — роздумы ў вершах і прозе аб роднай мове. Вялікі том. Мог бы (калі б знайшоўся фундатар) выдаць такі ж том публіцыстыкі па палітычных і маральных праблемах, аб гістарычных лёсах беларускага народа, аб свабодзе, родалюбства чалавечай і нацыянальнай годнасці. Але на гэта грошай ніхто не дае, бо выданне не прынясе прыбытку таму, хто дасць. Вось і атрымліваецца, што мой чытач сёння — гэта галоўным чынам чытач газет. Спадзяюся, што і мая публіцыстыка памагае яму рабіцца відушчым і ўмацоўвацца ў тых поглядах, якія адрозніваюць гістарычна і нацыянальна свядомага грамадзяніна ад манкурта.

*Масква—Мінск—Масква*

Гэтае інтэрв'ю было змешчана ў вераснёўскай кніжцы маскоўскага часопіса "Детская литература". Зважаючы на тое, што на Беларусь гэты часопіс трапляе зараз у адзінкавых экземплярах, мы палічылі вартым перадрукаваць інтэрв'ю з народным паэтам Беларусі, каб яго маглі прачытаць і "дома".

ТВОРЧАСЦЬ

# Аматарства — справа сур'ёзная

Навукова-практычная канферэнцыя па аматарскай творчасці — першая ў рэспубліцы. На яе былі запрошаны навукоўцы, кіраўнікі культ-асветных устаноў, навукова-метадычных цэнтраў, упраўленняў і аддзелаў культуры з усёй Беларусі.

"Самадзейнасць — жывая эстэтычная практыка, і яна выходзіць на навуковы ўзровень", — сказаў ва ўступным слове дырэктар Беларускага інстытута праблем культуры **А. Міхневіч**. З дакладамі выступілі намеснік міністра культуры **В. Гедройц**, начальнік аддзела ўстаноў культуры і народнай творчасці**Т. Стружэцкі**, загадчык аддзела Савета Федэрацыі прафсаюзаў**А. Суша**.

Першы дзень — пленарных паседжанняў — больш нагадваў сход або з'езд, бо аналітыку пацясніла набалелае. Хапала і справаздач; прадстаўнікі абласцей лічылі сваім абавязкам назваць лепшыя калектывы і ўстановы. Сярод іншага былі абмеркаваны вынікі першага фестывалю народнага мастацтва "Беларусь — мая песня". Адзначаны як станоўчыя моманты — актывізацыя творчых сіл і навукова-метадычных цэнтраў, з'яўленне новых калектываў і творчых маршрутаў, узбагачэнне рэпертуару, абнаўленне касцюмаў і рэквізіту, — так і адмоўныя. У прыватнасці, у выступленнях**Л. Бярнэй** (Брэст), **В. Закрэўскай** (Лепель) і іншых прагучала крытыка арганізацыі і рэжысуры заключных мерапрыемстваў фестывалю ў Мінску (яны супалі са святам горада), адзначана недастатковая кампетэнтнасць журы, выказана пажаданне ў далейшым з большай увагай ставіцца да лаўрэатаў і ўдзельнікаў. Адсутнічалі анонсы фестывальных мерапрыемстваў, рэдкімі і выпадковымі былі паведамленні ў прэсе, па сутнасці праігнаравала фестываль — як і саму канферэнцыю — Беларускае тэлебачанне. (У дужках заўважу, што закіды ў бок прэсы можна лёгка пераадрасаваць арганізатарам: ніхто не парупіўся з прэсай наладзіць кантакты.)

Спецыялісты з абласцей (**С. Іванова, М. Пашынскі, С. Гуляева, А. Лойка**) наракалі на недахоп нацыянальнага рэпертуару і спецыялістаў-харэографаў, на адсутнасць лялек для дзіцячых калектываў, астранамічныя цэны на касцюмы, слабае тэхнічнае аснашчэнне метадычных цэнтраў і іншае. Старшы выкладчык БУК**А. Макарава** гаварыла пра стандартызацыю ладу жыцця, пра тэндэнцыю моладзі спажываць, а не ствараць, пра перспектывы развіцця мастацкай творчасці народа і яе залежнасць ад агульнаеўрапейскіх працэсаў.

Скіроўвала на дыскусію канцэптуальнае выступленне прарэктара Беларускай акадэміі мастацтваў **І. Крука**, які разважаў пра рэнесанс апошняга дзесяцігоддзя і адназначыў блытаніну паняццяў *народная творчасць* (фальклор) і *мастацкая творчасць народа* (аматарства).

Ад рэктара і выкладчыкаў Беларускага інстытута культуры вітаў выпускнікоў (а іх шмат было ў зале Палаца культуры ветэранаў) прарэктар**М. Кузьмініч**. Яму ж давялося і выслухаць крытыку адносна падрыхтоўкі кадраў для сельскай мясцовасці. Кадравае пытанне, як бачым, не знята з павесткі дня.

Яшчэ адзін выкладчык інстытута культуры, **А. Шыфрын**, разам з памочніцамі — **М. Яніцкай**і **А. Законнікавай** — прадэманстраваў старонкі электроннай энцыклапедыі беларускай культуры, падрыхтаваныя для Інтэрнэта. Першы выпуск прысвечаны старажытнаму іканапісу.

У другі дзень канферэнцыі адбылася зацікаўленая гаворка па секцыях — вакальна-харавога і музычна-інструментальнага жанраў, традыцыйнай культуры, харэаграфічнага і тэатральнага самадзейнага мастацтва, аматарскіх аб'яднанняў і гульні. Была прапанавана культурная праграма: відэафільм пра фестываль "Беларусь — мая песня" і спектакль узорнага тэатра "Памфлет" са Свіслачы з адметнымі акцёрскімі работамі. Опернага ці балетнага спектакля — жаданне многіх удзельнікаў — паглядзець не выпала.

Эмацыянальнай кропкай навукова-практычнай канферэнцыі — пасля выступлення міністра культуры **А. Сасноўскага** і ўзнагароджання лаўрэатаў фестывалю — стаўся нечаканы выхад на трыбуну рэжысёра фальклорнага тэатра з вёскі Жытомля Гродзенскай вобласці **Тэрэзы Адамовіч**. "У прафесійным мастацтве ёсць буйныя зоркі, — сказала яна, — але ў гэтай зале вы бачыце зорную россып". І выказала крыўду ад імя ўсіх: "Нам, кіраўнікам народных і ўзорных калектываў, зарплаты хапае адно на ваду і на калготкі. На хлеб ужо малавата". Воплескі залы пацвердзілі, што гэта сапраўды так. Як тут не ўспомніць словы з даклада Т. Стружэцкага: "Нельга бясконца эксплуатаваць энтузіязм"...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**





*На здымках: на заключным паседжанні. Перад мікрафонам В. ГЕДРОЙЦ (яго даклад на канферэнцыі друкуецца ніжэй); Размаўляюць аднадумцы... С. ГУЛЯЕВА, В. ЗІНОВІЧ (на пярэднім плане) — супрацоўніцы Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра; З. ЖОЛУДЗЬ (Гарадок), А. ЦЯРЭНІН (Слонім) — загадчыкі аддзелаў культуры.*

*Фота К. ДРОБАВА*

# Падмурак культуры і жывы арганізм

Маю гонар вітаць шаноўную аўдыторыю спецыялістаў, навукоўцаў, кіраўнікоў, — усіх вас, хто нясе цяжар адказнасці за духоўнае аблічча беларускага народа, развіццё нацыянальнай культуры і мастацтва. Радуе і абнадзейвае, што такі феномен нашай культуры, як народная мастацкая творчасць, уздымаецца на ўзровень навуковага абмеркавання якраз сёння, у час складаных сацыякультурных і эканамічных працэсаў, якія ўносяць заўважных карэктывы ў развіццё беларускага грамадства.

Сёння на фоне шэрагу дэструктыўных з'яў — захаплення чужаземным, запаўнення кіч-серыйнай культурнай прадукцыяй, дэсацыялізацыі моладзі, адчужэння яе ад грамадскіх ідэалаў і каштоўнасцяў, ад соцыуму, страты імунітэта да псеўдакультуры, — на гэтым разбуральным ландшафце народная творчасць паўстае адным з галоўных механізмаў эстэтычнага выратавання насельніцтва. Сучасныя і традыцыйныя формы народнай творчасці дазваляюць з рознай ступенню паўнаты і завершанасці рэалізаваць, узнавіць той духоўны патэнцыял, які мае кожны чалавек і якім ён можа супрацьстаяць сацыяльна-маральнаму разбурэнню. Гэтым, у першую чаргу, абумоўлена сацыяльная каштоўнасць народнай творчасці, яе важная роля ў эстэтычным выхаванні чалавека.

Народная мастацкая творчасць — гэта важнейшы пласт нашай нацыянальнай культуры, яе аснова, без якой немагчыма фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці і развіццё прафесійнага мастацтва.

Масавасць, уласцівая аматарскай творчасці, дазваляе ёй быць глебай мастацкага жыцця беларускага грамадства, носьбітам і паказчыкам яго патэнцыяльных магчымасцяў у культуратворчай дзейнасці. Сёння гэты моцны сацыяльна-мастацкі рух яднае ў сваіх радах больш за 500 тысяч чалавек, згуртаваных у 30 тысяч мастацкіх суполак розных відаў, жанраў, формаў.

Даміную чую ролю ў структуры народнай творчасці Беларусі ў цяперашні час займае мастацкая самадзейнасць. Яе гісторыя налічвае не адно дзесяцігоддзе. На сваім шляху самадзейная творчасць фарміравалася як структурна, так і па змесце. Яна прадстаўлена аматарскімі харамі і капэламі, тэатрамі і ансамблямі танца, інструментальнымі музычнымі гуртамі і цыркавымі студыямі, клубамі па інтарэсах і майстэрнямі.

Самым распаўсюджаным у рэспубліцы лічыцца вакальна-харавы жанр самадзейнай творчасці, які мае каля 10 тысяч калектываў. Найбольш "спеўнай" вобласцю можна лічыць Брэстчыну. Вельмі любяць пець і на Міншчыне, якая заклала цудоўную традыцыю рэспубліканскага фестывалю "Пеўчае поле". Аматары-харавікі спяваюць у народных і акадэмічных гуртах, вакальных ансамблях, фальклорных і эстрадных калектывах. Актыўна ідзе развіццё самадзейных хораў з народнай манерай выканання. Ганаровае месца ў шэрагу хораў займаюць ветэранскія калектывы. Радуе і захапляе, што яны жывуць паўнавартасным творчым жыццём. Добрага і доўгага ім шляху!

Шэраг станоўчых змен адбываецца і ў інструментальным жанры. На самадзейную арбіту выходзяць сімфанічныя і эстрадна-сімфанічныя аркестры. А гэта, перш за ўсё, сведчанне высокага выканаўчага майстэрства артыстаў-аматараў, іх адметнага музычнага густу і прафесійнай падрыхтаванасці. Як правіла, гэтыя складаныя музычныя калектывы ў нас ствараюць высокакваліфікаваныя майстры.

Дзякуючы школам з музычным ухілам, з'явілася шмат дзіцячых інструментальных калектываў, прыхільнікаў народнай музыкі. Духавыя аркестры, на жаль, не вельмі распаўсюджаны, аднак у Брэсцкай вобласці яны ёсць амаль ва ўсіх раёнах.

Гомельская вобласць аддае перавагу ігры на народных інструментах, а Віцебшчына славіцца гуртамі народнай музыкі. Дарэчы, гэта адзіны рэгіён, дзе яшчэ гучаць дыятанічныя цымбалы.

Вельмі разнастайная палітра тэатральна-драматычнай самадзейнасці рэспублікі. Сёння яе структуру ўтвараюць 188 драматычных тэатраў, тэатраў лялек, мініяцюр, гульні, пантамімы і інш., якія маюць найменне "народны" і "ўзорны". З іх 110 тэатраў функцыянуе ў сістэме Міністэрства культуры, 45 — у Федэрацыі прафсаюзаў, 33 — у сістэме Міністэрства адукацыі. Добрай глебай для перспектыўнага развіцця тэатральнага аматарства з'яўляюцца больш за 5 тысяч тэатральна-драматычных гурткоў, пераважная большасць якіх працуе ў сельскай мясцовасці, дзе няма альтэрнатыўных тэатру устаноў, і таму шырокае кола моладзі і наогул насельніцтва, што жыве ўдалечы ад тэатральных цэнтраў, можа непасрэдна далучыцца да мастацтва тэатра выключна праз самадзейную творчасць. Улічваючы пры гэтым, што колькасць прафесійных тэатраў у рэспубліцы адносна невялікая, то можна сцвярджаць, што аматарскі тэатр — адзін з прыярытэтных жанраў народнага мастацтва, які належыць захоўваць, падтрымліваць, пашыраць яго геаграфію.

Згодна афіцыйнай статыстыцы, у 1997 годзе ў дзяржаўных установах культуры працавала звыш 2,5 тысячы харэаграфічных калектываў, усяго ж іх у рэспубліцы налічваецца каля 4-х тысяч.

Рух да нацыянальна-культурнага адраджэння змястоўна ўзбагаціў рэпертуар многіх аматарскіх калектываў, у тым ліку і танцавальных, узорамі народнага мастацтва. Полькі, кадрылі, карагоды ў сцэнічным увасабленні набываюць новае аблічча, новае жыццё. Пастаноўкі народна-сцэнічных калектываў становяцца больш яскравымі і маляўнічымі, узбагачаюцца як лексічна, так і тэматычна. Па аналізе спецыялістаў, рэпертуар многіх харэаграфічных калектываў на 65 працэнтаў складаецца з беларускіх твораў.

Як жывая сацыяльная з'ява, самадзейная творчасць выступае своеасаблівым сродкам самавыяўлення асобы, грамадска каштоўным элементам духоўнага жыцця нацыі. Расце мастацкі і выканаўчы ўзровень калектываў, у рэпертуары з'яўляюцца арыгінальныя творы, шырыцца творчы эксперымент. І як вынік — выхад на сталічную сцэну, на мерапрыемствы дзяржаўнага ўзроўню, удзел у прэстыжных міжнародных фестывалях і конкурсах за мяжой.

Амаль 100 краін свету наведалі самадзейныя артысты з Беларусі за апошнія 20 гадоў, годна прадстаўлялі нашу рэспубліку, яе культуру. Мастацка-эстэтычную вартасць на міжнародным узроўні штораз пацвярджалі ансамбль "Крупіцкія музыкі" з Міншчыны, вакальна-харэаграфічны ансамбль "Рудабельская пацеха" з Гомельшчыны, фальклорная група "Пасядзелкі" з Мінска, ансамбль музыкі і танца "Надзея" з Магілёўшчыны, ансамбль "Неруш" з Мінска і шмат іншых.

Можна канстатаваць, што культуратваральная моц, якой валодае народная творчасць, ставіць яе ў шэраг рухаючых сіл духоўнага прагрэсу. Але вядома, што жыццё вызначаюць не столькі факты, колькі тэндэнцыі развіцця народнай культуры, яе дасягненні і праблемы. Вось таму звернемся да ўсебаковага аналізу сённяшняга стану народнай творчасці, паспрабуем акрэсліць кола праблем, існуючых унутры гэтай інфраструктуры, вызначыць перспектывы яе далейшай дынамікі.

Народная творчасць уяўляе сабой складаную шматслойную сацыяльную структуру. У апошні час у ёй адбываюцца натуральныя, спантанныя працэсы актывізацыі механізмаў самакіравання, самаразвіцця, пошук новых форм творчага самавыяўлення. Самадзейнасць уступіла ў перыяд функцыянальных зрухаў і структурных змяненняў.

Для нас не сакрэт, што механізмы самарэгулявання ў самадзейнай творчасці і дзяржаўная падтрымка — асноўныя шляхі яе развіцця. У той жа час лакальныя даследаванні, статыстыка і практычныя назіранні звяртаюць увагу на шматлікія ўнутраныя працэсы ў арганізме народнага мастацтва, якія

*(Працяг на стар. 14—15)*



**ЧАСАПІС**

## *Змагар за Беларусь*

**"...Мы павінны памятаць і заўсёды трымаць на ўвазе, што беларусы — народ асобны і непадобны ні да расійцаў, ні да палякаў, а значыцца, і патрэбы мы маем асобныя, свае беларускія, адметныя і нават нязгодныя з патрэбамі расійцаў, палякаў ці якога іншага народу", — так гаварыў у сваім артыкуле "Аўтаномія Беларусі", напісаным у верасні 1917 года, а праз месяц выдадзеным асобнай брашурай, Язэп Лёсік. На гэтае выданне праз некаторы час звярнулі ўвагу пільныя чэкісты. 26 снежня 1922 года І. Апанскі паведаміў тагачаснаму сакратару ЦК КП (б)Б А. Крыніцкаму: "Книга Лёсика "Аўтаномія Беларусі" была запрещена к распространению как "шовинистического характера". Сам Я. Лёсік перад гэтым, у пачатку лістапада таго ж 1922 года, быў арыштаваны. Праўда, умяшаўся тагачасны нарком асветы БССР У. Ігнатоўскі і яго выпусцілі на свабоду, трымаючы пад пільным наглядам...**

**Першым Я. Лёсіка як літаратара заўважыў М. Гарэцкі: "Гэтага слаўнага пісьменніка чакае яшчэ слаўнейшая будучыня". На жаль, класік нацыянальнай літаратуры памыліўся. Не ў сэнсе, канечне, вартасці твораў Я. Лёсіка — у гэтых адносінах мастакоўскі густ М. Гарэцкага быў бездакорным. Проста М. Гарэцкі і падумаць не мог, якія варункі неўзабаве падрыхтуе жыццё Я. Лёсіку і яму самому.**

**А нарадзіўся Язэп Юр'евіч 18 лістапада 1883 года ў знакамітай Мікалаеўшчыне. Быў малодшым з сямі братоў, апошнім у сям'і. У 1898 годзе паступіў у Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, але быў звольнены без права паступлення ў іншыя навучальныя ўстановы. Пасля гэтага паехаў да брата Антона ў горад Ноўгарад-Северскі, у 1902 годзе там скончыў мясцовае гарадское вучылішча. Не застаўся ўбаку ад падзей першай рускай рэвалюцыі. Два гады знаходзіўся пад следствам у турме, адкуль уцёк. Хаваўся ў Мікалаеўшчыне, а потым вярнуўся да брата, дзе яго ўсё ж арыштавалі. У Сібіры, у Іркуцкай губерні пазнаёміўся з Алесем Гаруном.**

**На Бацькаўшчыну вярнуўся пасля лютаўскай рэвалюцыі, стаў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады, належаў да яе кіраўнікоў. У 1917—1918 гадах рэдагаваў газету "Вольная Беларусь". Быў сярод тых, хто абвяшчаў Беларускую Народную Рэспубліку, прымаў удзел у фарміраванні яе праграмных дэкларацый. З прыходам палякаў супрацоўнічаў у газетах "Звон" і "Беларусь". Апошнюю з 1920 года і рэдагаваў. Але пасля грамадзянскай вайны адным з першых заявіў аб прызнанні савецкай улады, пераклаў на беларускую мову "Маніфест Камуністычнай партыі". І адным з першых далучыўся да пераўтварэнняў, якія праходзілі ў Савецкай Беларусі, вёў вялікую культурную, навуковую дзейнасць, выкладаў родную мову ў БДУ. Паступова адышоў ад палітычнай дзейнасці.**

**Язэп Лёсік стаў адным з ініцыятараў правядзення Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе правапісу і азбукі, што праходзіла ў лістападзе 1926 года. На ёй выступіў з двума асноўнымі дакладамі. І дзе б ні працаваў, чым бы ні займаўся, жыў клопатамі аб Беларусі, дбаў аб яе будучыні.**

**Спачатку, праўда, стаяў за аўтаномію Беларусі, а не за поўны яе суверэнітэт, аднак гэта было яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Ды ў астатнім развагі Я. Лёсіка не страцілі свайго значэння: "Але не ўсе яшчэ разумеюць у нас, нашто здаліся нам новыя парадкі. Не кожнаму зразумелы інтарэсы народа... Шмат ёсць і да гэтага часу прыхільнікаў адсталасці і русіфікацыі Беларусі. Шмат каму не пад густ наша адраджэнне, і часта можна чуць, як верадуюць ворагі нашы і крычаць фальшывыя заступнікі долі народнай, пратэстуючы проці нацыянальнай незалежнасці нашай і асветы народа ў яго роднай, спрадвечнай мове".**

**Не спадабалася ўладам не толькі "Аўтаномія Беларусі". "Контррэвалюцыйным" назвала "Звязда" і падручнік Я. Лёсіка "Практычная граматыка беларускае мовы".**

**Другі раз Я. Лёсіка арыштавалі ў ліпені 1930 года па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Пазбавілі звання акадэміка, выслалі на пяць гадоў у Саратаўскую вобласць. У ліпені 1934 года атрымаў амністыю, але без права вяртання ў Мінск. З сям'ёй жыў на Браншчыне, потым у гарадзе Актарску Саратаўскай вобласці, працаваў у педтэхнікуме. Чарговы арышт адбыўся ў чэрвені 1938 года, а 31 сакавіка 1940-га асудзілі на пяць гадоў за "антысавецкую агітацыю". Памёр Язэп Юр'евіч 1 красавіка 1940 года ў Саратаўскай турме ад сухотаў.**

**З творчай спадчынай Я. Лёсіка — апавяданні, казкі, артыкулы — можна пазнаёміцца ў кнізе "Творы" (укладанне, прадмова, каментары Алеся Жынкіна), выпушчанай выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў 1994 годзе ў серыі "Спадчына".**

**Ян КРЫВІЦКІ**

# Падмурак культуры і жывы арганізм

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

не могуць не ўплываць на перспектыву яго развіцця. Паспрабуем часткова іх разгледзець.

Калі звярнуцца да традыцыйнай клубнай самадзейнасці, то агульны погляд на яе дынаміку выяўляе наступнае. Па-першае, у апошнія гады вызначаецца тэндэнцыя да змяншэння ўдзелу насельніцтва ў самадзейнасці, асабліва дарослага. Статыстыка па клубных установах сістэмы Міністэрства культуры (уключаючы і дзіцячую самадзейнасць) паказвае, што ў 1997 г. адносна 1990г. адбылося скарачэнне ўдзельнікаў на 8 працэнтаў, а калектываў — на 9 працэнтаў. Па-другое, па шэрагу аб'ектыўных прычын ускладняецца арганізацыя выступленняў самадзейных артыстаў. Таму зменшылася колькасць гледачоў канцэртаў і спектакляў. Тым не менш значэнне самадзейнасці, як запаўнення дэфіцыту прафесійнага мастацтва ў рэгіёнах сельскай мясцовасці, застаецца бясспрэчна вельмі важным. Па-трэцяе, узмацняюцца кантрасты руху розных паказчыкаў клубнай самадзейнасці. У прыватнасці, змяняецца яе ўзроставая структура і назіраецца зрух у бок дзіцячай самадзейнасці. Зразумела, гэты факт можна разглядаць як станоўчы, таму што адна з актуальных праблем, якая звязана з маральным аздараўленнем грамадства і яго будучыняй, — гэта пошук аптымальных варыянтаў, а таксама вызначэнне прыярытэтаў у арганізацыі і змесце вольнага часу падрастаючага пакалення.

Назіраецца розная дынаміка развіцця сельскай і гарадской мастацкай самадзейнасці. Па абсалютных паказчыках сітуацыя выглядае больш прывабна ў гарадзе, аднак у сувязі са скарачэннем сельскага насельніцтва працэнт яго ахопу вышэй і мае тэндэнцыю да росту на сяле.

Далей. Адбываюцца пэўныя змены ў жанрава-відавой структуры клубнай самадзейнасці. Па-рознаму ў цяперашні час складаецца лёс розных відаў самадзейнай творчасці. У асноўных традыцыйных жанрах клубнай самадзейнасці (харавыя, тэатральныя, танцавальныя калектывы) напрыканцы 80-х гадоў назіраўся нават некаторы творчы спад. Ідэя нацыянальна-культурнага адраджэння, якая павялічыла цікавасць да фальклору, народных традыцый, сцэнічнага касцюма, пошук і стварэнне мясцовага рэпертуару, цэлы шэраг рэспубліканскіх і міжнародных святаў, фестываляў, конкурсаў народнай творчасці, у тым ліку Першы фестываль "Беларусь — мая песня" ўскалыхнулі энергію творцаў народнага мастацтва. Атрымалі шырокае распаўсюджванне і набылі папулярнасць камерныя ансамблевыя формы аматарскай творчасці розных жанраў з пераважным выкарыстаннем нацыянальнага рэпертуару; адзначаецца ўздым аўтарскай творчасці. У прыватнасці, выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва за апошнія гады дало колькасны прырост удзельнікаў удвая, значна ўзраслі якасныя паказчыкі. З'явіліся нетрадыцыйныя для самадзейнасці фальклорныя групы несцэнічнай (ці не толькі сцэнічнай) арыентацыі, шматлікія вакальна-інструментальныя ансамблі, рок-групы, тэатры-студыі і інш. Паступова адбылася трансфармацыя так званых агітацыйна-мастацкіх брыгад у маладзёжныя тэатры мініяцюр і г.д.

Гэтае стыхійнае перапамеркаванне ў сістэме відаў і жанраў самадзейнай творчасці, павышэнне цікавасці да адных і зніжэнне да іншых форм самадзейнасці, пашырэнне кола з'яў, усведамляемых як народная творчасць, — ёсць адлюстраванне глыбінных працэсаў ва ўсім самадзейным руху канца 80—90-х гадоў, вынік функцыянальных зрухаў ва ўсёй народнай творчасці.

Развіццё сродкаў масавай інфармацыі, павышэнне ўзроўню адукацыі, працэсы урбанізацыі і іншае крыху знізілі значэнне культурна-асветніцкай функцыі самадзейнасці (яна пачала ў большай ступені выконвацца іншымі сацыяльнымі інстытутамі). У маштабах грамадства больш важнай робяцца такія функцыі самадзейнасці, як развіццё здольнасцяў, фарміраванне пэўных якасцяў асобы, нават яе карэкцыя. Народная творчасць сёння больш арыентавана на асобу. Установка на самарэалізацыю, самавыяўленне, самаарганізацыю, на зносіны з аднадумцамі — гэта і ёсць сучасная функцыянальная нагрузка, якая выпадае на самадзейнасць.

Не менш важнай функцыяй самадзейнай творчасці ў апошні час зрабілася арганізацыя вольнага часу і побыту розных груп насельніцтва. Набыла актуальнасць праблема, як зрабіць вольны час разнастайным, надаць яму неабходныя формы, як выкарыстаць для гэтага назапашаны культурна-мастацкі матэрыял, зрабіць быт эстэтычна прывабным, афармленым з дапамогай мастацтва і асабістай творчасці. Гэтыя новыя функцыі масавай аматарскай творчасці, самадзейнасці рэалізуюцца пакуль толькі часткова праз клубна-аматарскія формы, аўтарскую творчасць, але ўжо ёсць прыклады цікавай і карыснай дзейнасці клубных аб'яднанняў розных накірункаў ва ўсіх абласцях рэспублікі. Прыярытэт тут за Віцебшчынай: у заключных імпрэзах фестывалю "Беларусь — мая песня" свае дасягненні паказалі 58 клубных аб'яднанняў і 428 аўтараў-майстроў і мастакоў. У параўнанні з іншымі абласцямі лічбы вельмі ўражлівыя.

Пазначаныя вышэй тэндэнцыі сведчаць, што самадзейнасць усё шырэй распаўсюджваецца за межамі ўстаноў культуры. Паза клубнай сеткай ствараюцца аўтарскія аб'яднанні, клубы аматараў, цэлыя самадзейныя рэгіянальныя рухі (як Асацыяцыя самадзейных кампазітараў Гродзеншчыны, напрыклад). У значнай ступені па-за рамкамі клубных устаноў развіваецца дэкаратыўна-прыкладная творчасць, жывапіс, мастацкая фатаграфія і інш. Адным словам, ідзе працэс узаемнага ўзбагачэння, спаборніцтва розных відаў мастацкай творчасці, форм іх грамадскай рэалізацыі, барацьба за "свайго" ўдзельніка і г.д.

У гэтых умовах вельмі важна ў час убачыць і выкарыстаць магчымасці, закладзеныя ў прыродзе розных відаў мастацтва і арганізацыйна-творчых форм аматарскай дзейнасці, паставіць іх на службу эстэтычнага і маральнага выхавання дзяцей і моладзі, іншых катэгорый насельніцтва. На практыцы да гэтага часу сустракаюцца "настальгічныя" настроі: імкненне захоўваць і развіваць перш за ўсё традыцыйныя, даўно асвоеныя віды выканальніцкай самадзейнасці. Аднак надышла мяжа экстэнсіўнага развіцця самадзейнасці ў яе традыцыйных формах. Уся структура самадзейнай мастацкай творчасці ў наш час ускладняецца, і задача органаў і ўстаноў культуры — вызначыць сваю ролю і сваё месца ў гэтых працэсах.

Дзеля больш акрэсленага разумення нашых далейшых дзеянняў спынімся на агульных прынцыпах, якія аб'ектыўна пазначыліся ў развіцці самадзейнай народнай творчасці, аднак аўтаматычна не "спрацоўваюць" і павінны быць усвядомлены ва ўсіх звеннях упраўлення.

**Першы прынцып** — гэта паралельнае развіццё творчых напрамкаў, відаў, жанраў, звязаных з рознымі галінамі мастацкай культуры (прафесійнае і бытавое; акадэмічнае і фальклорнае; элітарнае і масавае, папулярнае мастацтва). Нам трэба паўсюдна сцвярджаць у якасці рэальнасці разнастайнасць творчага абліччa самадзейнасці.

**Другі прынцып** — размыванне межаў паміж мастацтвам і побытам, уключэнне ў сферу эстэтычнага рознага сацыякультурнага матэрыялу, экалагічных аспектаў быцця, якія асабліва праяўляюцца ў галіне самадзейнай масавай творчасці.

**Трэці прынцып** — аптымальнае спалучэнне грамадскага, ініцыятыўнага, арганізацыйнага пачатку ў развіцці самадзейнай творчасці, паслядоўная арыентацыя на пашырэнне самакіравання. Наяўнасць розных арганізацыйных форм самадзейнасці ўсведамляецца як норма, якую павінны ўзяць за аснову метадычныя службы, упраўленчы апарат, навучальныя ўстановы, якія рыхтуюць кадры для культуры.

І нарэшце, **чацвёрты прынцып**, па якім мы заўсёды ацэньвалі самадзейнасць, — масавасць і майстэрства.

Гэтыя прынцыпы мы павінны пакласці ў аснову стратэгіі развіцця сучаснай народнай творчасці і аматарскага руху.

У структуры самадзейнай творчасці асаблівае месца належыць інстытуту "народных" і "ўзорных" калектываў. Іх зараз налічваецца амаль 1500. Яны вызначаюць у нашай рэспубліцы выканаўчы ўзровень і стабільнасць творчай работы. Гэта тая прыступачка ў іерархіі аматарскага руху, да якога імкнуцца ўсе астатнія калектывы. Многія з іх сталі сапраўднымі лабараторыямі народнага мастацтва, дзе глыбока вывучаюцца народныя традыцыі, фальклор, нараджаюцца новыя высокамастацкія творы і атрымліваюць яркае сцэнічнае ўвасабленне. Мы маем шмат прыкладаў, калі творы з рэпертуару самадзейнасці з задавальненнем выконваюцца нашымі вядучымі прафесійнымі калектывамі. Сярод такіх творчых лідэраў можна назваць ансамбль песні і танца "Спадчына" з Маладзечна, ансамблі "Фэст" з Баранавіч, "Церніца" з Мінска, "Паазер'е" з Пастаў і шмат іншых.

Можна таксама толькі дзівіцца і па-добраму зайздросціць доўгаму і плённаму жыццю многіх "народных" і "ўзорных" калектываў. Сваё 80-годдзе адзначыў народны тэатр Краснапольскага раённага Дома культуры, 70-годдзе — Жухавіцкі народны хор з Карэліцкага і Лявонавіцкі з Нясвіжскага раёнаў. Рыхтуецца да 70-годдзя народны тэатр Магілёўскага Дома культуры чыгуначнікаў.

Вось чаму можна пагадзіцца з тэзісам, што ўзровень, якасць і жыццядзейнасць аматарскай творчасці Беларусі вызначаюць "народныя" і "ўзорныя" калектывы.

Але ў гэтым інстытуце ёсць і шмат праблем. Статус такіх калектываў слаба падтрымліваецца маральна і фінансава. У апошнія гады адчуваецца тэндэнцыя размывання градацый эліты калектываў народнай творчасці: абласныя камісіі прадстаўляюць хадайніцтвы на прысваенне ганаровых званняў часам прыніжаючы планку патрабаванняў да выканаўчага майстэрства, стабільнасці творчай працы, не ўлічваюць перспектыву развіцця калектыву. Атрыманыя пасведчанні аб прысваенні звання "народны", "ўзорны" не з'яўляюцца адначасова абавязковым дакументам, які патрабуе дакладнага выканання палажэння аб такіх калектывах. У кожнай вобласці мы маем дзесяткі народных і ўзорных самадзейных калектываў, якія фактычна ўжо даўно страцілі права такімі называцца. А ў міністэрстве амаль няма прапаноў па зняцці званняў з калектываў, якія іх не заслугоўваюць.

І яшчэ. Зараз і ў бліжэйшай перспектыве сфера непрафесійнай культурнай дзейнасці зможа найбольш поўна рэалізаваць сваё сацыяльнае прызначэнне, калі будзе дынамічнай, адкрытай насустрач як новым уздзеянням, так і традыцыям. У сувязі з гэтым у цяперашні момант у якасці прыярытэтнага для развіцця народнай творчасці і аматарскага руху накірунку трэба вылучыць такі аспект, як актуалізацыя каштоўнасцяў мясцовай культуры ў групавой свядомасці і паводзінах людзей, ці дакладней — ажыццяўленне пераходу значнай часткі самадзейных калектываў ад дэманстрацыі ўзораў сусветнай культуры да глыбокага вывучэння мясцовых традыцый, рэпертуару, удзелу ў культурастваральных працэсах лакальнай культуры.

У якасці асноўных этапаў гэтага пераходу могуць быць наступныя: першае — усведамленне мясцовай культуры як унікальнай, а таму каштоўнай, якую трэба захоўваць, вывучаць, узнаўляць, дастойна дэманстраваць на ўсіх узроўнях; другое — увядзенне ў абарот каштоўнасцяў мясцовай культуры (гэта значыць, ажыўленне гістарычнай памяці, абыгрыванне прыродных асаблівасцяў, анамастыкі, дыялекту, рэканструкцыя фальклору ў жывой традыцыі і інш.), адным словам, тых элементаў, з якіх можна стварыць гарманічныя сістэмы. Трэцяе — актывізацыя ўласна культуратворчых працэсаў. Але аптымальны варыянт такой пераарыентацыі ў народнай культуры можа быць вызначаны толькі агульнымі намаганнямі спецыялістаў на месцах і мець выгляд рэгіянальнай праграмы.

Вось у агульных рысах тыя стратэгічныя шляхі, якія нам належыць зрабіць у бліжэйшай перспектыве, каб тое багацце, якім мы валодаем і назва якому — народная творчасць, атрымала новыя імпульсы для свайго прагрэсу.

Як бы ні складалася надалей фінансаванне культуры і адукацыі, якія б новыя каналы ні адкрываліся перад намі ў матэрыяльнай сферы (як, напрыклад, узрастанне ролі мясцовых бюджэтаў, спонсарства, міжнародныя эканамічныя ўзаемавыгадныя кантакты і г.д.), наша культурная стратэгія ў галіне народнай творчасці не можа не ўлічваць пэўныя тактычныя прыярытэты.

Першы і важнейшы з іх — дзеці. Гэта рашаючы напрамак работы на будучыню, за чалавечнасць, за культуру людзей новага тысячагоддзя. У адносінах да дзіцяці, да яго развіцця мы павінны ў бліжэйшы час дабіцца карэннага пералому, таму што няма больш выгаднага "укладу капіталу", як развітасць, свабода і духоўнасць дзяцей. Працэс развіцця і падтрымкі дзіцячай народнай творчасці на Беларусі не прыпыняецца. Аб гэтым сведчаць традыцыйныя фестывалі дзіцячага харэаграфічнага мастацтва "Чачэрская полька", конкурс дзіцячай мастацкай творчасці "Калі запальваюцца зоркі" ў Мастах, фестываль дзіцячых тэатраў у Сарачах на Любаншчыне, "Вясёлкавы карагод" на Магілёўшчыне, дзіцячы музычны фестываль "Халі-Хало" ў Наваполацку, шмат іншых рэгіянальных свят, якія становяцца віда-

вочнымі стымуламі развіцця самадзейнай творчасці дзяцей.

Праблемай вялікай важнасці ўяўляецца грамадская рэалізацыя і прапаганда самадзейнай творчасці. Сёння і ў перспектыве больш разнастайнымі павінны стаць формы грамадскай дэманстрацыі самадзейнай творчасці, уключэнне іх у грамадскае жыццё. Відавочная перспектыўнасць такога падыходу, калі самадзейнасць выступае арганічнай часткай кірмашоў, святаў горада, вёскі, вуліцы, двара, абрадава-рытуальных акцый, урачыстых шэсцяў, народных гулянняў і г.д.

Калі мы гаворым аб тым, што народная творчасць — наша багацце, мне думаецца, што трэба ўмела яе і выкарыстоўваць, падаваць. Дзе можна пачуць запісы народнай музыкі, песень і іншага?.. Не прапагандуем мы ў неабходнай меры гэту скарбніцу, не выпускаем аўдыё- і відэакасеты, альбомы і праспекты лепшых калектываў. У пэўнай ступені гэта залежыць і ад нашых Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, ад Міністэрства гандлю і, безумоўна, ад нас — работнікаў культуры.

Сродкі масавай інфармацыі, і перш за ўсё тэлебачанне і радыё ў сучасных умовах пастаўлены перад неабходнасцю рашэння новых задач і пошуку новых форм прапаганды самадзейнай мастацкай творчасці. Галоўным тут з'яўляецца спецыяльная работа з лакальнай культурай, мясцовымі традыцыямі, у тым ліку фальклорнымі, пошук зацікаўленых і кампетэнтных людзей, калектываў для ўдзелу ў перадачах і г.д. Бясспрэчна, ідэальным варыянтам прапаганды народнай творчасці было б адкрыццё на Беларускім тэлебачанні аднайменнай рэдакцыі.

Думаю, прыспеў час нам на Беларусі мець сваю энцыклапедыю народнай творчасці, якая б змяшчала не толькі прыклады нацыянальных відаў і форм аматарства, але і нататкі аб людзях-творцах, што ствараюць і жывяць культуру.

Народная творчасць — гэта не толькі асноўны падмурак нацыянальнай культуры і мастацтва, гэта — жывы арганізм, які развіваецца, які патрабуе ўвагі, падтрымкі і дапамогі, у тым ліку навуковай і прафесійнай мастацкай. Сучасныя сродкі камунікацый дазваляюць нават у самым аддаленым сяле пачуць і паглядзець лепшыя ўзоры прафесійнага мастацтва, набыць відэа- і аўдыёзапісы. Але ўсё гэта не можа замяніць стасункаў з майстрамі беларускай сцэны, вядучымі выкладчыкамі творчых ВНУ. Мы павінны сумленна прызнаць, што такіх кантактаў стала менш, але яны захаваліся і зараз носяць узаемна зацікаўлены характар, а для многіх нашых паважаных і любімых артыстаў, кампазітараў, мастакоў, педагогаў гэта работа стала пачэсным грамадзянскім абавязкам. З задавальненнем у гэтым спісе я назаву прозвішчы народных артыстаў рэспублікі, прафесараў Міхася Дрынеўскага і Міхася Казінца, доктара мастацтвазнаўства Яўгена Сахуту, кандыдатаў навук Тамару Варфаламееву, Арсена Лабовіча і шмат іншых.

Напрыканцы хацелася б звярнуцца да навукоўцаў. Формы развіцця аматарскай творчасці сёння патрабуюць не толькі маральна-матэрыяльнай падтрымкі, а і даюць багаты матэрыял для аналітычнай працы, навуковых абагульненняў, прытым шырокамаштабных. Аднак аб'ём і глыбіню гэтых даследаванняў у дадзенай галіне трэба прызнаць яўна недастатковай. Калі прааналізаваць некалькі апошніх гадоў, дык высветліцца, што праводзіліся толькі разавыя сацыялагічныя даследаванні. Няма манаграфічных і сааўтарскіх прац, якія б разглядалі праблематыку інтарэсаў розных груп насельніцтва і выяўлялі магчымасці іх задавальнення ва ўмовах устаноў культуры. А патрэбу ў такой навуковай падтрымцы адчуваюць вельмі востра як практыкі галіны, так і адміністрацыйныя работнікі.

Мы стаім на мяжы значных пераўтварэнняў у сферы народнай творчасці і адчуваем вялікую патрэбу ў навукова-метадалагічным забеспячэнні галіны. Самы час мець пад рукамі распрацоўкі, якія б тычыліся асаблівасцяў функцыянавання аматарства на Беларусі, яго нацыянальнай прыроды, дзе б прапаноўваліся канкрэтныя механізмы стымулявання, даваліся прагнозы развіцця на перспектыву і г.д.

Пагадзіцеся, што кіраванне такой глабальнай сферай, як народная творчасць, на ўзроўні інтуіцыі ці практыкі, не падмацаваных навукай, не мае акрэсленай перспектывы. Толькі на падставе навукова-абгрунтаванай канцэпцыі развіцця масавай культурна-мастацкай дзейнасці яна можа быць жыццяздольным звяном культурнай палітыкі.

**Валерый ГЕДРОЙЦ,**
**намеснік міністра культуры**
**Рэспублікі Беларусь**

УГОДКІ

# Свеціць зорка майстра

Год назад заўчасна пайшоў з жыцця выдатны майстра, адораны моцным і яркім талентам, — Аляксандр Міхайлавіч Кішчанка. Яго творчасць — шматгранная, адметная і унікальная. Кожны яго твор — ці то жывапіснае палатно, ці то габелен, манументальны роспіс, мазаіка, керамічная кампазіцыя — можна назваць вехаю для беларускага мастацтва. Кожнаму з іх наканавана доўгае жыццё.

Аляксандр Кішчанка імкнуўся да пошукаў і быў наватарам. Ён прыўнёс ва ўсе свае работы эстэтыку касмічнасці і велічнасці, ён ствараў адметную філасофска-мастацкую стылістыку. Можа, таму яму былі цесныя стандарты, каноны, звычныя памеры і ўяўленні. Ён разбураў звыклае і тым апярэджваў час, не баючыся быць незразумелым. Ён заклаў сваю школу, аказаў і доўга яшчэ будзе аказваць уплыў на выхаванне і станаўленне не аднаго пакалення мастакоў. Можна толькі пазайздросціць, адкуль у яго, асабліва ў апошнія гады жыцця, бралася столькі нястомнай энергіі, неверагоднай працаздольнасці, прагі да жыцця і творчасці. Ён спяшаўся сказаць самае важнае, падзяліцца сваімі жыццёвымі і філасофскімі развагамі праз музыку свайго пэндзля. Таму, відаць, пасля яго смерці майстэрня аказалася літаральна заваленай малюнкамі, накідамі, жывапіснымі палотнамі.

Жывапіс Аляксандра Кішчанкі апошніх гадоў уражвае. Ён напісаў мноства партрэтаў, найперш жаночых. У вобразе жанчыны, мабыць, бачыў ён такі розны, такі феерычны ідэал неўміручай прыгажосці. Яго любімыя колеры — яскрава-блакітны, жоўты, прыглушаны чырванавата-карычневы... Жанчына ў яго работах заўжды ў космасе, і тут не мае значэння — рэальным ці абстрактным: яна, сапраўдная, прарываецца праз зямныя клопаты ва ўяўленне мастака, бо Аляксандр Кішчанка мысліў абагульняючымі манументальнымі катэгорыямі. Яна пышная, томная, загадкавая, па-сярэднявечнаму захутаная і спакусліва аголеная, і паўсюль — прывабная. Я бачу на яго палотнах знаёмыя мне твары, і не пазнаю іх...

Апошнія некалькі гадоў мастак звярнуўся да філасофскіх тэм. Ён разважаў аб нараджэнні дзіцяці, па-свойму разумеючы хрысціянска-біблейскую сістэму вобразнасці ("Адвечнае", "Нараджэнне Максіма", "Ладдзя са святымі"), пісаў сумныя, халодныя па колеры аўтапартрэты ("Аўтапартрэт з Максімам"), "паветраныя" нацюрморты ("Нацюрморт у прасторы", "Нацюрморт са сланечнікам"), "палымнеючыя" краявіды ("Краявід", "Забытая вёска"), дзе зямля абрываецца на неба, а неба — на зямлю. Апошнія яго работы — загадкавыя ("Старая груша", "Тая, што ідзе да бога"). там ёсць і анёлы, і жанчыны, але не тыя прывабныя паўзямныя прыгажуні, а — цьмяныя, далёкія, халодныя цені-прывіды; там ёсць круг сонца, але — чорны ўнутры; там ёсць дрэвы, але — непрыхільныя да чалавека; там ёсць і пясняр, але ён так адзінока азораны арэалам святла...

"Белы ліст, прарок нямы, я спавядаюся табе..." — пісаў мастак у сваіх вершах. У паэтычных радках ён павіс паміж зямным і незямным, бавячыся ў бясконцасці свету, — ён быў блізкі да космасу. Да космасу імкнуўся мастак, і ствараючы свой "Габелен стагоддзя". Ды і сам ён гаварыў, што габелен трэба павесіць, прымацаваўшы яго да зорак. Пакуль жа, на жаль, ён ляжыць, скручаны, нікому непатрэбны. У мінулую нядзелю габелен быў другі раз (першы — адразу пасля стварэння ў 1995 г.) падняты да купала выставачнай залы "Мінскэкспа" пад прыгожыя спевы дзіцячага хору са свечкамі ў руках. І зноў — толькі на дзень. Да таго, як з ім расправіцца пыл і моль, застаецца толькі спадзявацца, што выратуе яго лёс. Пытанне пра набыццё яго дзяржаваю не паўстае. Не знаходзіцца і прыватных — нашых ці замежных — пакупнікоў. Не мае пэўнасці і пытанне аб стварэнні ў майстэрні А. Кішчанкі музея. Дзеючую, "жывую" майстэрню складанаператварыць у памяшканне з экспанатамі, аховаю і, галоўнае, з наведвальнікамі. Тым больш, што ўладныя структуры за канкрэтная рашэнне гэтага пытання не бяруцца.





Але што б ні рабілася вакол спадчыны і памяці мастака, гэта не датычыць яго асобы, якая назаўжды застанецца ў чыстым спеве яго палотнаў.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# Рычард Недаводзін

5 лістапада 1998 года раптоўна абарвалася жыццё сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў паэта Рычарда Недаводзіна.

Рычард Міхайлавіч Недаводзін нарадзіўся 20 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Ніўнае Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. У 1966 годзе закончыў 11 класаў Дзеражнянскай сярэдняй школы, амаль адразу быў прызваны ў Ваенна-Марскі Флот, дзе служыў, у тым ліку звыштэрмінова, да 1995 года.

За гэты час завочна закончыў Маскоўскі механіка-тэхналагічны тэхнікум і Літаратурны інстытут імя М. Горкага.

Пасля звальнення ў запас жыў і працаваў у Падмаскоўі.

З вершамі выступіў у друку ў 1976 годзе. Пісаў на рускай і беларускай мовах. У розныя часы ў Маскве выходзілі зборнікі паэзіі "Тяжёлая вода", "Свидание с богом". У 1995 годзе ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" пабачыла свет першая беларускамоўная кніга паэзіі "Камяні вопыту". Паэзія Р. Недаводзіна традыцыйная па форме, але свежая і арыгінальная па сваёй вобразнай структуры, у ёй адчуваецца подых роднай беларускай зямлі, яна вызначаецца шчырай любоўю паэта да боскага свету, людзей, прыроды.

Сумна ўсведамляць, што на нашай зямлі стала меней яшчэ на аднаго добрага, зычлівага чалавека. Але яго светлая, паэтычная душа засталася ў яго кнігах. Памяць аб ім будзе жыць у нашых сэрцах.



**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# Маўкліва плакалі Налібакі...

Яшчэ некалькі тыдняў таму мы чулі яго голас па тэлефоне з Масквы, дзе паэт меў сталую жыццёвую прапіску. Ён збіраўся на радзіму, у роднае Ніўнае. Там яго чакала цяжка хворая маці. Абяцаў зазірнуць і ў "Маладосць" з новымі, вядома, вершамі. У. Рычарда Недаводзіна была даўняя і шчырая дружба з часопісам. Тут пабачылі свет яго першыя вершы на беларускай мове, тут, у "Бібліятэцы", выйшла з друку і яго першая беларускамоўная кніга "Камяні вопыту". Яго паэзія атрымала шырокае прызнанне чытачоў, бо яна — ад зямлі, ад роднай Налібоцкай пушчы, а галоўнае — ад самога жыцця. Дваццаць восем гадоў аддаў Рычард Недаводзін службе ў Ваенна-Марскім Флоце. Мічмана-паэта шчыра паважалі яго сябры па службе, яны бачылі ў ім свайго аднадумцу, чалавека сціплага і сумленнага.

Гэты прыезд у Ніўнае стаўся для паэта апошнім. Дождж позняй восені над шатамі Налібоцкай пушчы маўкліва і доўга аплакваў земляка-паэта.

Апошнія таленавітыя вершы яго радавалі і абнадзейвалі. Ён бы мог падарыць нашай паэзіі яшчэ многа яркіх і значных старонак.

Але жыццё распарадзілася інакш. Бывай, наш дарагі сябра, зямляк, аўтар, паэт. Памяць пра цябе мы зберажом у нашых сэрцах.

**Маладосцеўцы**
**Генрых ДАЛІДОВІЧ,**
**Казімір КАМЕЙША,**
**Алесь КАМАРОЎСКІ**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Мар'яну ВІЖУ (Зайцаву) з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

НАДЗЁННАЕ

# Знаходкі з праходкі

*1. Чаго за дзень не чуюць вушы!*
*То захапленне, то праклён,*
*Прамовы, што калечаць душы,*
*Бяруць сумленне у палон.*

*2. На лепшае няма надзеі,*
*Бо распладзіліся зладзеі, —*
*Разгадавалі рылы, каркі,*
*Палацы маюць, іншамаркі.*
*Смяюцца з жабрака цяпер:*
*"Не ный, ты ж сам — міліянер".*

*3. Каму пара сядзець на нарах,*
*Той раскашуе на Канарах.*
*Па ім у зоне плачуць пілы,*
*А ён аж дзве займае вілы.*

*4. Пакуль не стаў паслугачом,*
*Не станавіся на калені,*
*І не дапытвайся, пачом*
*Купляюць душы і сумленне.*
*Калі іх разам прадасі,*
*Забудзеш дактылі і ямбы, —*
*Дадуць, чаго ні папрасі,*
*За оды і за дыфірамбы.*

*5. З якой яны растуць расады,*
*Што занялі па тры пасады?*

*6. Адпелі начлежнікі ў зорныя ночы,*
*Даўно дагарэлі кастры,*
*І толькі сава апантана рагоча,*
*Што плача жаўрук на зары,*

*7. Не паверу хлусам,*
*Не згаджуся з Каінам,*
*Што засну я беларусам,*
*А ўстаў расіянінам.*

*8. Ніхто не вечны на зямлі, —*
*Ні жабракі, ні каралі,*
*А трэба ў радасці і ў горы*
*Не забываць "Memento mori".*

*9. Кажуць, — хлопец, як вяпрук,*
*Мае клешні замест рук,*
*І адразу пад сябе,*
*Што ні ўбачыць,*
*Падграбе.*

*10. Начальніцам складаюць оды,*
*Чакаючы ўзнагароды.*

*11. Служка ведае, што хлусіць,*
*Заместа "Г в а л т!"*
*крычыць: "Урра!"*
*Бо добра ведае, што мусіць*
*Услаўляць гаспадара.*

*12. Божа, выратуй душу,*
*Заступіцеся святыя:*
*Я ж верлібраў не пішу,*
*А заела арытмія.*

*13. Калі б усе паненкі,*
*Як Моніка Левінскі,*
*Ўсе збераглі сукенкі*
*Ад Калымы да Пінска,*
*Гэта быў бы з цудаў цуд, —*
*Кожны дзень-вясёлы суд.*
*А ў нашых гонар невялікі:*
*Задаволілі разлікі.*

*14. Я вясёлы, бо п'ю,*
*Патрыёт, бо многа п'ю,*
*І ляжу сабе, як пан,*
*Перавыканаўшы план.*

*15. У кралі ўкралі каралі,*
*За гэта зладзюгу каралі.*
*Прасіўся і енчыў зладзюга,*
*Пакуль не зламалася пуга.*

*16. Пан чыноўнік ганарысты,*
*Праў ты ці не праў ты,*
*Дагрызаеш журналіста,*
*Бо баішся праўды.*
*Калі лье пісака бруд,*
*Разбярэцца толькі суд.*

*17. Быў на сцэне бенефіс,*
*А ў буфеце — Беня Фіс.*

*18. Папярэджваў старшыня:*
*"Быць павінна цішыня.*
*Хочаш, — крытыкуй быка,*
*Толькі не кіраўніка".*

*19. І ногі ёсць, і дзве рукі,*
*І галава нібыта варыць.*
*Адкуль бяруцца жабракі,*
*І хто у хаце гаспадарыць?*

*20. Халуй падкідвае паленне,*
*Карчы, лучыну, смалякі,*
*Каб дагарэла ўшчэнт сумленне*
*І не ўваскрэсла праз вякі.*

*21. Сяк-так трымаюся цяпер,*
*А клопатаў заўсёды повен,*
*Хоць і аслеплы, як Гамер,*
*Даўно аглухлы, як Бетховен.*
*Мяне хвальком не клічце вы,*
*Бо ведаю свой талент нулявы,*
*А парадніўся з класікай святой*
*Адзіным — слепатой і глухатой.*

*22. Стань хоць на дзень*
*на наша месца,*
*Ці будзе спацца, ці будзе есца,*
*Ці будзеш сам заўсёды рады*
*Сваё не парушаць загады?*

*23. Недзе ёсць краіна цудаў —*
*Недарэкаў і прыблудаў.*
*Ёй нялёгка стаць Вялікай,*
*Калі стала без'языкай.*

*24. Ад веку ў век*
*Неронавы нашчадкі*
*Насілі толькі Каіна пячаткі*
*І на ілбе, і на душы*
*З дэвізам: "Смелага душы!"*

*25. Я не святкую юбілеяў.*
*Хіба ж заслуга доўга жыць?*
*З юнацтва верыў: "Пасталею,*
*Каб праўдзе і дабру служыць".*
*Але дарэмна траціў сілы,*
*Пакуль ад гора не знямеў.*
*Служыць гатовы да магілы,*
*А вось прыслужвацца не ўмеў.*

*26. Канчаецца апошняя дарога*
*І непрыкметна знікне след,*
*Хоць пройдзена да болю многа,*
*Але шкада пакінуць гэты свет.*

*27. Прыходзіць усяму свой час.*
*Спаўзе сляза, што не пабачу вас.*
*На сконе свечку патушу*
*І адпушчу сваю душу.*

*28. Манашка ў пераходзе зрання*
*Цярпліва просіць падаяння*
*На царкву, на іншамарку,*
*Настаяцелю — на чарку.*

*29. Згубіўся "Кодэкс" у залеву.*
*Яго шукаў Архангел дзвесце дзён,*
*І без суда Адама з Евай*
*Турнуў за грэх з Эдэма вон,*
*Каб галышом папахадзілі,*
*Сабе прытулку не знайшлі,*
*А тыя дзетак напладзілі,*
*Што стала цесна на Зямлі.*
*Цяпер жа іх прапраўнукаў сыны —*
*"Героі" грамадзянскае вайны.*

*30. Просяць літасці мільёны:*
*"Пашкадуй, Святейшы дух.*
*Часам слёзы льюць іконы,*
*Толькі Ты, відаць, аглух.*
*Беражэш любую ўладу*
*І бароніш ад бяды,*
*Толькі нас трымаеш ззаду*
*І завёў у н і к у д ы".*

*31. Гонарам быў ганарар,*
*Ды праглынуў яго камар,*
*Засталіся толькі мары*
*Пра былыя ганарары.*

*32. Як маманты тыя, знікаем*
*У прорву, на вечнае дно.*
*Што колісь здавалася раем,*
*Зрабілася пеклам даўно.*

*33. Не ўратуе дапамога:*
*Даламаліся рулі,*
*А вяшчаем: "Пера-моо-га!"*
*Бо заселі на мялі.*

*34. У краме скрозь —*
*свінныя ногі,*
*І не высокае цаны...*
*Толькі, як без ног, з дарогі*
*Не саб'юцца кабаны?*
*Нехта ім увёў у вушы:*
*"Вы ж не кабаны, а тушы.*
*Вас чакаюць у буфеце,*
*На прыёме і банкеце".*

*35. Хаджу па Камароўцы,*
*Як цюцька на вяроўцы:*
*Як медныя бязмены,*
*Па цемю лупяць цэны:*
*Здзіўляюся, што гандляры*
*На калбасе і сале*
*Тэлефонаў нумары*
*Старанна напісалі.*
*Яшчэ падумаюць яны, —*
*На сыр і на вяндліну*
*Сем лічбаў новае цаны*
*Прыпішуць праз гадзіну.*

*36. "Думцы" лаюцца і б'юцца,*
*І крычаць па сем гадзін,*
*А суседзі з іх смяюцца,*
*Калі думае адзін.*

*37. Каму я вока ледзь*
*запарушыў,*
*Або пакрыўдзіў, — не злякаюся.*
*Калі ж перад сумленнем*
*саграшыў,*
*Укленчу, памалюся і пакаюся.*
*А хто пазнаў хоць рысачкі свае,*
*Хай скажа, што сябе не пазнае.*

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

УГОДКІ

# Кропля з Нёмана — даражэй за ўсе воды Днястра...

"Я заўсёды буду ўздыхаць па Палессі і Літве, па тых адвечных пушчах, балотах і пясках, лугах і азёрах. І адной кроплі з Нёмана не аддам за ўсе воды Днястра, Буга і Дняпра. Зрэшты, праслаўляйце ўжо сабе Падолію, слаўце Украіну, але не ўспамінайце, калі ласка, пра нейкую там Італію, нейкую Швейцарыю," — так у перакладзе Адама Мальдзіса з польскай мовы гучыць урывак з пралога да аповесці Адама Плуга "Споведзь", апублікаванай у 1849 годзе на старонках часопіса "Атэнэум". Калі прачытаць увесь гэты твор, дык можна пабачыць у лясах пад Бабруйскам, "пачуць" беларускія народныя песні, пазнаёміцца з палешуком Рыгорам, нясвіжскім суддзёй Гарбузком, які так і сыпле беларускімі прыказкамі: "Не будзі ліха, калі ліха спіць", "Каўтні, мой Бартуня, на другую ножку"... І ўвогуле адчуць сам дух беларускасці, дух Беларусі.

Такая замілаванасць да нашай зямлі ў А. Плуга — невыпадковая. Беларусь родная яму. Нарадзіўся гэты польскі і беларускі пісьменнік (у сапраўднасці Антон Антонавіч Пяткевіч) 23 кастрычніка 1823 года ў вёсцы Замошша цяперашняга Слуцкага раёна. Яшчэ ў 1842 годзе, будучы вучнем Слуцкай гімназіі, напісаў сваё першае апавяданне "Пра тое, як людзі час марнуюць" ("Падарожжа маёй думкі па вуліцах малога мястэчка"). Твор меў ярка выражаны сатырычны накірунак. Аўтар выкрываў п'янства, паразітызм пэўнай часткі местачковага мяшчанства.

Пасля паўстання 1831 года бацька пісьменніка прадаў свой фальварак і пасяліўся з сям'ёй у Жукавым Барку над Нёманам, уладкаваўшыся да Радзівілаў падлоўчым. Непадалёку знаходзілася Залучча Уладзіслава Сыракомлі. З ім у 1840 годзе і пазнаёміўся Антон, а пасля і пасябраваў, прысвяціў яму свой першы верш "Гара Замчышча", творча пераасэнсаваўшы матывы народных казак. А прыгажосць навакольных мясцін паўстае з вершаванай гутаркі, якая так і называецца — "Жукаў Барок". Наколькі А. Плуг быў прывязаны да яго, сведчыць такое прызнанне пісьменніка: "Усіх сялян з гэтай вёсачкі я ведаю як па сэрцах, так і з постаці, быццам усе яны належалі да маёй сям'і".

Пераехаўшы на Украіну, А. Плуг паступіў у Кіеўскі універсітэт, але правучыўся ў ім толькі год, паспеўшы наладзіць кантакты з часопісам "Звязда", які прытрымліваўся перадавых арыентацый. А пасля быў Жытомір і выданне першага тома свайго Збору твораў у шасці тамах, удзел у паўстанні 1863 года, арышт, знаходжанне з жонкай у турме.

З 1874 года да самай смерці (памёр 2 лістапада 1903-га) жыў у Варшаве. З'яўляўся рэдактарам часопісаў "Клосы", "Вэндроўнік", "Кур'ер варшаўскі", а ў 1891—1903 гадах быў галоўным рэдактарам "Вялікай усеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі". Стаў адным з арганізатараў беларускага літаратурна-асветніцкага гуртка. Пакінуў багатую творчую спадчыну, у тым ліку і мастацкія творы, якія ў асноўным тэматычна звязаны з Беларуссю. І ўвогуле, як сведчыць А. Мальдзіс, за "пявучы" беларускі акцэнт варшавяне заўсёды лічылі яго "прышэльцам".

У прыватнасці, у кнізе "Калоссе з роднай нівы" чуецца водгалас беларускага фальклору. Прыцягненне родных мясцін відавочна ў паэме "Успаміны пра радзіму" ("Айчынная песенька"). Але не толькі замілаванне непаўторнасцю гэтага краю напаўняе сэрца аўтара, ён не абмінае і вострых сацыяльных момантаў, раскрывае цяжкае жыццё сялянства. Лёс вёскі паўстае і ў паэме "Зачараваныя скарбы". Зноў жа тут моцная фальклорная аснова. Пад зачараванымі скарбамі А. Плуг меў на ўвазе багацці, створаныя народам.

Прысутнічае Беларусь і ў такіх творах А. Плуга, як аповесці "Дзетабойца", "Афіцыяліст", "Нянька", "Дух і кроў". Пісаў ён і па-беларуску. На жаль, лёс гэтай часткі яго творчай спадчыны нешчаслівы: з чатырох апавяданняў і адной легенды, завершаных у 1849 годзе, зберагліся толькі апавяданне "Кручаная баба".

Адам Плуг пакінуў таксама шэраг артыкулаў і нарысаў пра культурнае жыццё Беларусі, пераклаў на польскую мову "Верш Навума Прыгаворкі" В. Дуніна-Марцінкевіча, разам з Вінцэсем Каратынскім падрыхтаваў "Выбраную паэзію" У. Сыракомлі ў пяці тамах, што пабачылі свет у 1890 годзе. Асобныя творы самога А. Плуга на Беларусі былі апублікаваны ў зборніку "Голас з Літвы", выдадзеным у Мінску ў 1859 годзе. Ёсць некалькі яго вершаў і ў сёлетняй анталогіі "Раса нябёсаў на тутэйшай зямлі". А ў астатнім застаецца толькі спадзявацца на лепшыя часы, калі спадчына А. Плуга, адданага сына Беларусі, будзе выдадзена ў перакладзе на беларускую мову ў найбольш поўным выглядзе.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)
Індэкс 63856.
Наклад 4002
Нумар падпісаны ў друк 12.11.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 6581/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12